ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 8 (2639) • Пятніца, 23 лютага 1973 года • Цана 8 кап.

Савецкім Узброенным Сілам, народжаным у вогненнай віхуры баёў за рэвалюцыю, сёння — 55.

Гэта вялікае свята не толькі тых, хто стаіць на варце спакою Радзімы, гэта свята ўсіх савецкіх людзей. Яны ганарацца слаўнай Арміяй Краіны Саветаў, баявыя сцягі якой пакрыты неўміручай славай перамог пад Нарвай і Кахоўкай, Масквой і Сталінградам, Варшавай і Берлінам.

Баявыя дарогі нашай арміі, апеты ў кнігах, карцінах, кінафільмах. Ім аддаюць сваё натхненне пісьменнікі і кампазітары, мастакі і артысты.

У паходах і баях лепшай памочніцай салдата заўсёды была харошая песня. І зараз, у мірныя дні, маладыя хлопцы ў вайсковай форме, хлопцы адукаваныя, хлопцы якія на «ты» з самай складанай баявой тэхнікай сябруюць са шчырай песняй, агністым танцам.

Тысячы і тысячы байцоў удзельнічаюць у мастацкай самадзейнасці. Не адзін з іх атрымаў адсюль пуцёўку на прафесійную сцэну.

Многія артысты Ансамбля песні і танца ЧБВА, якому ў гэтыя дні споўнілася 35 гадоў, прыйшлі сюды з салдацкай самадзейнасці.

Гэты здымак наш фотакарэспандэнт У. Крук зрабіў на адным з апошніх канцэртаў ансамбля. Гучыць салдацкая песня!

Расказ аб ансамблі чытайце на стар. 13,



## ВЕРНЫ СЫН НАРОДА



У Гродзенскім абласным гісторыка-краязнаўчым музеі адкрылася экспазіцыя, якая расказвае аб жыцці і дзейнасці слаўнага сына беларускага народа, савецкага, партыйнага і дзяржаўнага дзеяча Сяргея Осіпавіча Прытыцкага. Шматлікія макеты, фатаграфіі, выразкі з газет апавядаюць аб удзеле С. О. Прытыцкага ў барацьбе за ўз'яднанне Беларусі, аб дзейнасці яго як дэпутата ў Народным сходзе Заходняй Беларусі ў 1939 годзе. Частка стэндаў прысвечана Айчыннай вайне, у гады якой Сяргей Осіпавіч быў адным з арганізатараў партызанскага руху на часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі і Польшчы. Вялікі раздзел экспазіцыі займаюць матэрыялы аб дзейнасці С. О. Прытыцкага на пасадзе Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі.

Фота А. ПЕРАХОДА. (БЕЛТА).

## ТВОРЫ ЖЫВАПІСЦАЎ БЕЛАРУСІ ЕДУЦЬ У ЯПОНІЮ

У Токіо ўжо чатыры гады існуе Галерэя Гекасо, якая наладжвае выстаўкі твораў савецкага жывапісу і камісійны продаж работ савецкіх жывапісцаў. Галерэя выдае каталогі твораў, якія яна экспанавала, змяшчае ў японскім перыядычным друку матэрыялы пра савецкае выяўленчае мастацтва. Прадстаўнікі галерэі часта наведваюць Савецкі Саюз, знаёмяцца з творчасцю жывапісцаў нашай краіны, набываюць іх творы.

Нядаўна віцэ-прэзідэнт Галерэі Гекасо Ёко Накамура і дырэктар маскоўскага Салона па экспарту Марына Бакулева наведалі Мінск, былі гасцямі Саюза мастакоў БССР.

Госці пазнаёміліся з архітэктурай, творамі манументальнага мастацтва беларускай сталіцы, наведалі Дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Дзяржаўны музей БССР, Дзяржаўны мастацкі музей БССР. Яны пабывалі ў Хатыні, у Беларускім таварыстве культурных сувязей з замежнымі краінамі, паглядзелі фільмы аб мастацтве Савецкай Беларусі.

У Саюзе мастакоў Ёко Накамура прагледзела каля тысячы твораў мастакоў і выбрала для паказу і продажу ў Японii каля ста палотнаў, у тым ліку работы народнага мастака БССР Я. Зайцава, заслужаных дзеячоў мастацтва БССР П. Масленікава, А. Шыбнёва, Р. Кудрэвіч, Н. Воранава, П. Крахалёва, мастакоў Н. Шчаснай, В. Жолтак, І. Стасевіча, М. Дучыца і іншых.

Ёко Накамура сказала, што ў яе засталося незабыўнае ўражанне ад сталіцы Савецкай Беларусі, мемарыяльнага комплексу ў Хатыні, Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ў Беларусі, калекцый Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.

— Творы жывапісу, з якімі я пазнаёмілася ў Савецкім Саюзе, — падкрэсліла яна, — на высокім мастацкім узроўні. Мяне ўразіў гуманізм савецкага жывапісу, імкненне савецкіх мастакоў звяртацца да сэрца гледача. Цяпер я працую над стварэннем шматтомнай гісторыі савецкага жывапісу, дзе, зразумела, павінна быць адлюстравана і творчасць майстроў жывапісу вашай рэспублікі. Мы мяркуем неўзабаве паказаць у Галерэі Гекасо выстаўкі жывапісу Савецкай Украіны, затым — Савецкай Беларусі.

**Ул. БОЙКА.**

## ПЯТРУСЬ БРОЎКА Ў ЧЫТАЧОЎ

Гэты дзень запомніцца надоўга рабочым Мінскага трактарнага завода. Да іх прыехаў народны паэт Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы Пятрусь Броўка. Сустрэчу адкрыў сакратар парткома цэха галоўнага канвеера Пётр Круглік.

Пётр Усцінавіч расказаў аб творчых буднях пісьменнікаў, прачытаў свае вершы. Адбылася задушэўная гутарка паэта з рабочымі. П. Броўка з цікавасцю слухаў ветэрана завода П. Кунду.

## СЦЭНАРНЫ ПАРТФЕЛЬ ПАПОЎНІЦЦА...

Закончыў работу семінар кінадраматургаў, які праходзіў у Доме творчасці пісьменнікаў імя Якуба Коласа.

Два тыдні ўдзельнікі семінара са сваімі кіраўнікамі — вядомымі сцэнарыстамі В. Фрыдам, Ю. Дунскім, Г. Палонскім, В. Труніным абмяркоўвалі сцэнарыі.

Падводзячы вынікі, галоўны рэдактар студыі «Беларусьфільм» А. Асіпенка назваў некалькі сцэнарыяў, якія, на думку кіраўнікоў семінара, пасля невялікіх даробак могуць быць запушчаны ў вытворчасць.

## І КОЖНАМУ — СВАЯ ПЕСНЯ...

Лірычныя, прызыўныя, баладныя і трагедыйныя, сольныя і харавыя... Колькі іх, цудоўных споведзей улюбёнага ў жыццё і людзей мастака!

Гэтыя думкі мімаволі ўзніклі зноў на аўтарскім вечары кампазітара Ю. Семянякі, які адбыўся ў мінулую суботу ў канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

На сустрэчу з любімым кампазітарам прыйшлі рабочыя і служачыя мінскіх прадпрыемстваў, студэнты, воіны, артысты, музыканты... І для кожнага з іх у праграме канцэрта — «свая» песня, сцэна з оперы ці аперэты, харавы ці эстрадны нумар. Скажам шчыра, што «сваімі» гэтыя творы былі і для выканаўцаў. Пра гэта сведчыла натхнёнасць, з якой выконвалася ўся праграма. Нават цяжка сказаць, што лепей прагучала ў аўтарскім канцэрце — арыя Жаўранка з аперэты «Пяе «Жаваранак» (выканаўца Н. Гайда) або «Галоп» з оперы «Калючая ружа» (выканаўца народная артыстка СССР Т. Ніжнікава), лірычная песня-рамaнс «Ты мне вясною прыснілася» (выканаўца заслужаны артыст БССР Ю. Смірноў), або эстрадная мініяцюра «Не за вочы чорныя» (выканаўца Н. Багуслаўская).

Кампазітар Юрый Семяняка раскрыўся як мастак-грамадзянін у такіх творах вялікага патрыятычнага гучання, як «Адна ў нас Расія», «Беларусь мая песня», «Белая Русь», «Песня воінаў», якія былі выкананы спевакамі В. Кучынскім, Ю. Смірновым, А. Бокавым, Т. Расўскай у суправаджэнні аркестра Беларускага тэлебачання і радыё (дырыжор Б. Райскі). Вельмі добра і выразна гучалі ў гэты вечар Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР пад кіраўніцтвам Ю. Яфімава і аб'яднаны хор Беларускага тэлебачання і радыё і кансерваторыі (кіраўнік В. Роўда).

Творчы вечар кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Ю. Семянякі — адна з яркіх падзей у нашым музычным жыцці.

**Л. КРУШЫНСКАЯ.**

## ЯНЫ ПРЫСЯГАЛІ РАДЗІМЕ

*Новая дакументальная стужка кінастудыі «Беларусьфільм»*

«Начдзіў Азін» прысвечана нашаму земляку, легендарнаму камандзіру 28-й дывізіі, якая праславілася сваімі подзвігамі ў гады грамадзянскай вайны. У. Азін вадзіў сваіх «чырваназорных арлоў» у бой за вызваленне Казані, Іжэўска, Сарапула, Свярдлоўска. У карціне выкарыстаны новыя, да гэтага часу невядомыя матэрыялы, звязаныя з жыццём і барацьбой камдзіва, у прыватнасці, успаміны Ларысы Рэйснер. З пачуццём глыбокай пашаны расказвае аб ім былы камандзір палка 28-й дывізіі, Маршал Савецкага Саюза В. Чуйкоў.

Пра баявы сцяг — сімвал доблесці і геройства, зняў кароткаметражную стужку малады рэжысёр М. Ждаscore ўскі па сцэнарыі І. Шахрая. «Сцягі і людзі» — так называецца гэтая дакументальная карціна. Яе героі — беларускі селянін Цяпін, які захаваў воінскі сцяг у гады Вялікай Айчыннай вайны, прафесар Маскоўскага ўніверсітэта А. Гусеў, які ўзняў Чырвоны сцяг перамогі над Эльбрусам пасля выгнання фашыстаў з Каўказа. Захаваліся кадры, якія адлюстроўваюць іх подзвігі ў цяжкую ваенную пару.

Зараз у планах беларускіх кінадокументалістаў новыя фільмы пра сённяшні дзень Савецкай Арміі, пра воінаў-танкістаў Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі. Намечаны здымкі поўнаметражнага фільма аб гераічнай абароне Магілёва — «Пядзь зямлі».



У зале Рэспубліканскай нарады кінафікатараў Беларусі.

## ПАЎПРЭДЫ КІНО

Заслужанай павагай карыстаюцца ў працаўнікоў беларускіх вёсак кінамеханікі Яўген Хітрык з Баранавіцкага раёна, Пётр Шчукін з Лепельскага, Фёдар Лагвіновіч з Капыльскага, Анатоль Гадавaнец з Гродзенскага, Тамара Бахановіч з Асіповіцкага раёнаў і многія іх калегі. Тамара Бахановіч дабілася таго, што кожны жыхар вёскі Свіслач, дзе яна працуе, на працягу года 45 разоў пабываў у кіно.

Гэтыя і многія іншыя факты сапраўды творчага падыходу да справы кінаабслугоўвання насельніцтва, прапаганды лепшых мастацкіх, дакументальных і навукова-папулярных фільмаў, перадавога вопыту ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы прывёў 19 лютага ў сваім дакладзе на рэспубліканскай нарадзе актыву работнікаў кіно старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі У. В. Мацвееў.

Нарада абмеркавала ход выканання ў рэспубліцы задач, пастаўленых партыяй і ўрадам па кінаабслугоўванню насельніцтва, намеціла новыя рубяжы работнікаў кінасеткі і кінапракату, якія вынікаюць з рашэнняў снежаньскага (1972 года) Пленума ЦК КПСС.

Прыняты сацыялістычныя абавязацельствы работнікаў кінасеткі і кінапракату БССР на 1973 год. Горача падтрымліваючы ініцыятыву перадавых калектываў краіны па датэрміноваму завяршэнню планаў трэцяга года пяцігодкі, праваднікі самага масавага з мастацтваў далі слова выканаць гадавы план кінаабслугоўвання насельніцтва рэспублікі да 26 снежня, а план развіцця кінасеткі — да 1 снежня. Прадугледжана, у прыватнасці, абслужыць на працягу года не менш чым 118 мільёнаў гледачоў, у тым ліку 25,5 мільёна дзяцей, арганізаваць 240 тысяч сеансаў хранікальна-дакументальных, навукова-папулярных і сельскагаспадарчых фільмаў.

У рабоце нарады прынялі ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцалеў.

**БЕЛТА.**

## НА ПАВЕРЦЫ — НАРОДНЫЯ ТЭАТРЫ

Тры дні ў Магілёве праходзіў агляд-конкурс народных тэатраў, драматычных калектываў і агітацыйна-мастацкіх брыгад вобласці, прысвечаны слаўнаму юбілею нашай Радзімы. Народныя тэатры Палаца культуры завода штучнага валакна і Бабруйскага гарадскога дома культуры паказалі спектаклі «Шасцёра любімых» па п'есе А. Арбузава (рэжысура заслужанай артысткі РСФСР Э. Міхайлавай, мастацкае афармленне В. Акулава) і «Амністыю» па п'есе М. Матукоўскага (рэжысёр заслужаны дзеяч культуры БССР Б. Шурын, мастак І. Чумакоў).

Артысты-аматары народнага тэатра Магілёўскага дома культуры чыгуначнікаў сыгралі прэм'еру гераічнай камедыі «Іголка і штык» А. Галіева (рэжысёр-пастаноўшчык Л. Марцуль, мастак В. Акулаў). Народны агіттэатр мініяцюр «Усмешка» пазнаёміў са сваёй новай работай «Брыганціна ўзнімае ветразі» (рэжысёр У. Бараноўскі).

Удзельнікі драматычнага калектыву Горацкага раённага дома культуры прывезлі на конкурс-агляд спектакль «Трыбунал».

У конкурсе прынялі ўдзел пяць агітбрыгад — Магілёўскага дома культуры чыгуначнікаў, Краснапольскага, Слаўгарадскага і Асіповіцкага раённых дамоў культуры і аўтаклуба Магілёўскага раённага аддзела культуры.

Права ўдзельнічаць у рэспубліканскім конкурсе заваявалі народны тэатр Палаца культуры завода штучнага валакна, народны агіттэатр мініяцюр «Усмешка», агітацыйна-мастацкая брыгада Асіповіцкага раённага дома культуры.

# ГЕНЕРАЛ



У ДЗВЯРАХ кабінета намесніка начальніка штаба ЧБВА генерал-маёра Аўчыннікава паказаўся афіцэр аддзела баявой падрыхтоўкі:

— Прынёс план марш-кідка, — далажыў ён.

— Так хутка? — здзіўлена паглядзеў Аўчыннікаў.

— Ды справа ж, таварыш генерал, усім вядомая: пад'ём, марш, атака...

Учэпістым позіркам генерал акінуў падначаленага.

— Ну што ж, давайце, паглядзім разам.

Чытаючы паперы ў папцы, генерал коратка запісваў на палях. Афіцэр пагладаў з хваляваннем. Няўжо ў чым-небудзь пралічыўся? Але тут жа сябе супакойваў — не можа быць. Усе разлікі зверaны да апошняй лічбы.

Аляксандр Рыгоравіч энергічным рухам закрыў папку. Твар яго стаў строгі.

— Дрэнна адпрацавалі марш.

— Дрэнна? — здзівіўся афіцэр.

На ўсякі выпадак адкрыў папку для зверкі дадзеных. Але Аўчыннікаў заглядаць у паперы не стаў.

— У тэхнічных аперацыях у вас прамашак не знайшоў, тут усё ў парадку, а вось пра людзей вы забыліся.

Афіцэр здзівіўся.

## СПРАВА, ЯКОЙ ТЫ СЛУЖЫШ

— План складаўся паводле інструкцыі.

— Паводле інструкцыі? А ў інструкцыі, як і ў статуце, між іншым, сказана, што камандзір павінен клапаціцца аб падначаленых. Гэта святая святых нашых армейскіх законаў.

Афіцэр стаяў, апусціўшы галаву. Аўчыннікаў узяў у яго папку.

— Колькі ў суткі воіны павінны адпачываць? Дзе і ў які час харчавацца? Калі рабіць прывалы?

Афіцэр паціснуў плячыма:

— Такімі дэталямі не цікавіўся...

— Шкада, вы ж рашаеце лёс бою. А ён залежыць у першую чаргу ад людзей. За імі апошняе слова ва ўсякім баі. Разумееце, у баі! Падумайце пра гэта...

Генерал аддаў афіцэру папку, падышоў да вакна. Раптам успомніўся яму самы цяжкі ў яго жыцці бой...

НА ПОДСТУПАХ да Беларусі на беразе ракі Ловаць у руках гітлераўцаў была вышыня, якая панавала над мясцовасцю і прыкрывала раку. Называлася яна Святая гара.

Узяць вышыню было загадана атраду, якім камандаваў капітан Абаньшын. Намеснікам яго прызначылі капітана Аўчыннікава. Трэба было прайсці тры рады калючага дроту, знішчыць доты. Аўчыннікаў прапанаваў такі план дзеянняў — штурмаваць вышыню не адразу, а пасля трэніровак і ўзяцця створанага самімі такога ж умацаванага пункта.

Байцы трэніраваліся ўдзень і ўначы. Дзейнічаць даводзілася ў вельмі цяжкіх умовах: шумела веснавая паводка, дзьмуў сыры вецер.

Вось тады капітан Аўчыннікаў можа ўпершыню так востра адчуў, як важна зберагчы кожнага салдата, як важна, каб у байцоў быў добры настрой, высокі маральны дух.

Толькі што закончылася трэніроўка. Азяблыя, мокрыя да касцей прыйшлі ў зямлянку байцы. У кутку на патроннай скрыні сядзеў бялявы, вяснушкаваты салдат. Ён задуменна глядзеў на полымя капцілкі, спяваў нейкую беларускую песню.

— Што, сябра, зажурыўся, — спытаў Аўчыннікаў.

— Дом успомніў, таварыш капітан, — цяжка ўздыхнуў салдат. — Побач мая Беларусь, рукой да яе падаць, за Ловаццю...

— Не тужы, — падбадзёрыў камандзір. — Выкурым фашыста, у госці да цябе па дарозе заедзем.

А праз мінуту акружылі яго байцы і пайшла гаворка аб доме, аб родных, каханых... Эх, як хораша тады пагаварылі...

...Трасіруючыя кулі, ракеты паласавалі начную цемру. Зямля ўздрыгвала ад выбухаў. Камякі снегу і гразі ляцелі на байцоў. Кожны метр даваўся з вялікай цяжкасцю. У разгары бою загінуў капітан Абаньшын. Яго месца заняў Аўчыннікаў.

— За мной! — павёў ён салдат наперад.

Бой працягваўся цэлы дзень. Гітлераўцы зрабілі дзесяць контратак, каб узяць адабраную ў іх вышыню. Але савецкія воіны змагаліся мужна і стойка, выстаялі да прыходу асноўных сіл. Вышыня была ўзята.

Камандарм Галіцкі пасля бою расцалаваў капітана Аўчыннікава, сваімі рукамі прымацаваў да яго гімнасцёркі ордэн Чырвонай Зоркі...

Яшчэ не адзін ордэн упрыгожыў потым грудзі афіцэра за высокую доблесць і адвагу ў баях пры вызваленні Беларусі, Польшчы, штурму Берліна.

ВОСЬ УЖО трыццаць год служыць ва Узброеных Сілах Аляксандр Рыгоравіч Аўчыннікаў. Камуніст-франтавік, ён працуе з маладым запалам і апантанасцю, спяшаецца аддаць моладзі усё, што ведае і ўмее.

Салдацкая навука перамагаць не прыходзіць сама па сабе. Сучасны бой — дынамічны і напружаны. Складаная тэхніка, але яшчэ больш складаныя людзі, якіх вучыць і выхоўвае генерал.

Па абавязку службы мне некалькі разоў давялося пабываць у кабінеце Аўчыннікава, пабыць з ім разам на вучэннях, слухаць яго гутаркі з афіцэрамі і салдатамі.

...Мотастралковы батальён, фарсіраваўшы раку, сустрэў моцнае супраціўленне «праціўніка» і быў спынены на беразе. Стварылася крытычная абстаноўка. Асабовы склад і баявыя машыны маглі трапіць пад згубны агонь «праціўніка».

Генерал-маёр Аўчыннікаў знаходзіўся разам з камбатам у цэнтры баявога парадку. Бывалы воін уважліва сачыў за ходам бою. На вучэнні ён спецыяльна стварыў такія ўмовы, якія патрабуюць ад камандзіра самастойных дзеянняў, ініцыятывы. кемлівасці.

Генерал назіраў за дзеяннямі маладога камбата, які ўпершыню на гэтай пасадзе выконваў такую адказную задачу. Дарагая кожная секунда. Рашаецца лёс бою.

— Таварыш генерал, пераношу асноўныя сілы туды, — камбат паказаў пальцам у бок левага фланга, дзе па лагчыне непрыкметна для праціўніка рухаліся два бронетранспарцёры.

— Малайчына! — адгукнуўся генерал. — Я так і думаў.

Неўзабаве лавіна машын, мотастралкі пад адхонам, праз дробны хмызняк, выйшлі на пазіцыю і ўдарылі па «праціўніку», не даўшы яму апамятацца. Бой ля ракі быў выйграны.

— Дзякуй, таварыш генерал, за цяжкі, але павучальны ўрок. Я ж, памятаеце, скардзіўся на складанасць рэльефу, баяўся, што людзі не вытрымаюць гэтага выпрабавання, прасіў аблегчыць задачу, — сказаў камбат.

Генерал усміхнуўся і нічога не адказаў.

ЁСЦЬ НА Валагодчыне вёска Нікольская. Тут некалі пайшоў Саша Аўчыннікаў у першы клас, тут правёў першую баразну. Быў калгасным брыгадзірам, камсамольскім сакратаром. Адсюль праводзіла яго ў далёкую дарогу маці.

Генерал часта прыязджае ў родныя мясціны, з хваляваннем сустракаецца з сябрамі маладосці, пытаецца пра вясковыя навіны.

— Сёлета абавязкова зноў паеду да землякоў, — сказаў мне Аляксандр Рыгоравіч.

Глядзеў на каржакаватую фігуру генерала, на яго шырокі адкрыты твар, слухаў трохі окаючую спакойную гаворку, яго расказы пра землякоў, і думаў: два дамы ў старога салдата — Расія і Беларусь. І абодва — дарагія і блізкія яго сэрцу.

**А. КОСАЎ.**



**Сотні кіламетраў пралеглі паміж пагранічнай заставай імя Завідава і Калінінскай вобласцю. Але адлегласць дружбе не перашкода. Памяць пра адважнага пагранічніка Аляксандра Завідава, які загінуў 28 год назад у няроўнай схватцы з парушальнікамі граніцы, аб'яднала воінаў і калінінцаў. Імя героя носіць застава, аб яго подзвігу расказваюць многія матэрыялы ў пакоі баявой славы. Імем пагранічніка на яго радзіме ў Калінінскай вобласці названы многія піянерскія дружыны. Землякі Аляксандра Завідава — частыя госці на заставе. Яны прыязджаюць ушанаваць памяць, сустрэцца з воінамі, якія нясуць службу па ахове дзяржаўнай граніцы.**

**На здымку — землякі А. Завідава ў пакоі баявой славы заставы.**

Фота В. ГЕРМАНА. (БЕЛТА).

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

# ПАХОДЫ

## КУРСКІ МЕРЫДЫЯН

Аляксею ПЫСІНУ.

*Нічога ў памяці не сцерці:*
*Быў смерч над Курскаю дугой,*
*Стаялі між жыццём і смерцю*
*Мы на зямлі і над зямлёй.*

*Глядзі —*
*На поўнач і на поўдзень,*
*Праз дым апаленых палян.*
*Праз пекла,*
*Дзе ніхто не пройдзе,*
*Праходзіў наш мерыдыян.*

*І колькі там, у родных далях,*
*Узводзячы за дзотам дзот,*
*Зямлі сваёй перакапалі*
*Дзесяткі, сотні нашых рот!*

*І аўтаматы і лапаты —*
*Усё на ўліку ў нас было.*
*За друга — друг*
*І брат — за брата!—*
*Адзінства гэта ў бой вяло.*

*Зямля ў акопах нас радніла*
*І кроў цяжкіх байцоўскіх ран.*
*Неперарэзанаю жылай*
*Стаў Курскі наш мерыдыян.*

*Мы засланілі край сабою —*
*Далей павёў на захад шлях,*
*Дзе пад вясёлкавай дугою*
*Запалымнеў чырвоны сцяг.*

*Нічога ў памяці не сцерці:*
*Быў смерч над Курскаю дугой,*
*Ды не спалохаліся смерці,*
*Мы на дузе той агнявой.*

## ДЗЕ ІШЛІ НАШЫ РОТЫ...

*Над Прыпяццю вялізнае сяло*
*З сыпучымі пяскамі.*
*Тут не адно стагоддзе адцвіло*
*Бялюткімі садамі.*

*Калісьці мы праходзілі зімой*
*Па вуліцах Нароўлі.*
*Быў за Нароўлю вельмі жорсткі бой,*
*Бой з ворагам няроўны.*

*Ільды насустрач па рацэ плылі —*
*Дрыгва, лясы, балоты.*
*Але упарта і жалезна йшлі*
*Наперад нашы роты.*

*Там зараслі даўно травой грудкі,*
*Насыпаныя намі...*
*Глядзяцца ў неба з жыта васількі*
*Вясёлымі вачамі.*

*А па-над Прыпяццю — царыцай рэк,—*
*Звініць, лунае песня.*
*Я ваяваў тут... І са мной навек*
*Цудоўнае Палессе.*

## ПОДЫХ АКІЯНУ

Вялікі мой і ціхі акіян.
Рыгор НЯХАЙ.

*Ад вёскі ўдалеч бегла поле*
*Аж да калінавых палян.*
*Юнацтва нашага раздолле,*
*Наш залацісты акіян!*

*Калі жанчыны жыта жалі, —*
*Снапы мы ў копы клалі ў золь.*
*Нас уздымалі нівау хвалі*
*І апускалі зноў на дол.*

*Пайшлі мы сцежкамі крутымі*
*Праз дым, агонь і ураган.*
*«Калі ж, — пыталі, — зноў уздымеш*
*Ты нас, бурлівы акіян?»*

*Карпаты. Дукля. Перавалы*
*Праз мноства рэк, вяршынь, палёў.*
*І ўсюды хвалі —*
*Вал за валам —*
*Як гул баёў і шум бароў.*

*І воінам і партызанам,*
*Шмат давялося нам прайсці.*
*Сваймy з нас кожны акіяну*
*Заўсёды кланяўся ў жыцці.*

*Заціхлі грозныя віхуры*
*Над цёмным борам партызан.*
*Але шуміць, ты чуеш, бурны*
*Палёў і пушчаў акіян?*

1973.

НАДРУКАВАНА У «МАЛАДОСЦІ»

# ПАТЭНЦЫЯЛ МУЖНАСЦІ

Ул. ЮРЭВІЧ

ВАСІЛЬ БЫКАЎ піша пра вайну. І не пісаць пра яе не можа. Гэта адчуваеш усё больш у кожным новым яго творы. Сёння ўжо можна гаварыць пра яго, менавіта быкаўскую, традыцыю. Яна сфарміравалася як імкненне паказваць паводзіны чалавека на вайне, яе радавога працаўніка, «чорнарабочага», таго, хто кожным крокам здабываў перамогу і таму так добра ведаў цану гэтай перамогі над ворагам.

Было б няправільна, аднак, кожны новы твор В. Быкава ацэньваць толькі як традыцыйны. Няма падстаў, як тое яшчэ нядаўна рабілася, кідаць пісьменніку дакоры ў тым, што ён нібы топчацца на адным месцы, на ім самім выбраным «пятачку», і не выходзіць на шырокае поле ваенных баталій. Па-першае, шырыня пісьменніцкага даследчага «ўчастку» не мераецца аператыўнай прасторай для размяшчэння палкоў і дывізій, бо мастак заклапочаны больш глыбінёй даследавання індывідуальнага характару. Па-другое, перад нядаўняй аповесцю «Дажыць да світання» (часопіс «Маладосць», № 1, 1973 г.) былі ажно тры запар «выхады» пісьменніка за лінію фронту, у варожы тыл, дзе ішла народная вайна. І зусім слушна зазначае В. Каваленка («Неман, № 1, 1973 г.), што В. Быкаў «звярнуўся да тэмы партызанскай барацьбы з-за больш адкрытай маральнай аголенасці дзеянняў і ўчынкаў удзельнікаў гэтай барацьбы».

Аператыўная прастора для В. Быкава вымяраецца якраз тымі абсягамі, якія дазваляюць яму псіхалагічна абгрунтаваць сутнасць савецкага чалавека на вайне, раскрыць гэтую сутнасць у абставінах, тыповых для абранага пісьменнікам часу. Пісьменнік разумее творчасць па-горкаўску, як спалучэнне мноства дробязей у адно больш-менш буйнае цэлае дасканалай формы. Ён паказвае жыццё, сацыяльнае змаганне, характары пад павелічальным шклом сваёй творчай фантазіі, што абапіраецца галоўным чынам на асабісты вопыт.

Аповесць «Дажыць да світання» ўваскрашае падзеі першых месяцаў вайны. Сюжэт разгортваецца ў канцы лістапада сорак першага, калі, як вядома, нашы войскі вялі цяжкія абаранняльныя баі, калі байцы Заходняга фронту сэрцам пачулі голас палітрука Клачкова: «Вялікая Расія, але адступаць няма куды, ззаду Масква!». Гэта быў адзін з самых напружаных момантаў вайны, адна з яе шматлікіх кульмінацый. Пісьменнік, верны жыццёвай праўдзе, верны сваім творчым прынцыпам, даследуе паводзіны невялікай групы савецкіх воінаў, што кіруюцца ў варожы тыл, за лінію фронту, на выкананне важнага задання.

Выходзяць на баявую аперацыю зусім новыя людзі, якіх трэба згуртаваць, пераканаць, абагрэць бацькоўскім клопатам камандзіра. Маладога камандзіра, да якога слова «бацькоўскім» не надта стасуецца. Званне лейтэнанта Іваноўскі атрымаў незадоўга да таго, як пачалася вайна. Паказаць, як у пекле першых месяцаў вайны сталела ў юнака мужнасць, як правяралася вайной чалавечнасць, як прыходзіла воля да перамогі над ворагам і як яна брала верх над збянтэжанасцю ад першых ваенных няўдач, над роспаччу, адчаем — ці не такі галоўны творчы клопат Быкава на гэты раз?

Жыццё групы разведчыкаў баявога падраздзялення пададзена сцісла, скупа, але тымі яскравымі штрыхамі, што высвечваюць самыя глыбіні ваеннага побыту, даступныя чалавеку, якога абпаліў пажар вайны. А менавіта такім і з'яўляецца Васіль Быкаў. Ён не гісторык, але апавядае пра ўсё гістарычна дакладна, далікатна пераводзячы гісторыю ў маральна-этычны план. Пісьменнік не гаворыць у лоб пра адступленне, ён робіць гэта мімаходзь, абгрунтоўваючы канчатковае і беспаваротнае рашэнне — пераходзіць перадавую лінію фронту «тут і цяпер, таму што колькі можна адкладваць! І так ён чакаў амаль шэсць сутак—было зусім блізка, якіх трыццаць кіламетраў, стала шэсцьдзесят».

Перадгісторыя галоўнага героя — з тых звыклых для першага этапа вайны, калі ў цяжкіх абараняльных баях трэба было і знясільваць ворага, і ашчадна размяркоўваць свае сілы. Хоць не заўсёды гэта ўдавалася. Вайна ёсць вайна. Яна выяўляе ў кожным тое, на што ён здатны, выяўляе і адмоўныя рысы характару. Як важна пісьменніку прасачыць станаўленне мужнасці, без якой на вайне цяжка!

Мужнасць — рэч складаная і не такая выяўная, як гэта з першага позірку здаецца. Не разгубіцца, сустрэўшы з вока на вока ворага, — мужнасць. Паўзці праз лінію фронту, калі невядома, дзе прытаіўся вораг, —мужнасць. Здольнасць прыняць агонь на сябе, каб выратавалася як мага больш тваіх таварышаў, — мужнасць. Але ж мужнасць мае і менш прыкметную выяўнасць.

На самым пачатку дарогі ў невядомасць, калі разведчыкаў «нішто болей не прыкрывала ад таго перадавога акопа», калі «над поплавам узгарэўся сапраўдны ракетны пажар», наладжаны ворагам, у аднаго з байцоў, самага маладога — Судніка, вінтоўка «з заперагальніка саскочыла» і стрэліла. Стрэліла, калі страляць нельга было. Вынік — страшны. Загінулі цяжка паранены Кудравец і Шалудзяк, якога лейтэнант паслаў забраць параненага. У групе засталося восем.

У такую хвіліну рашэнне адно — расстраляць вінаўніка. На гэта падбівалі некаторыя з групы, абураныя здарэннем. Колькі ж трэба было мужнасці, той, што схавана недзе глыбока ўнутры, каб не сарвацца, не пайсці за першымі эмоцыямі. Але «лейтэнант меў арганічную агіду да такога звычайнага на вайне пакарання, калі без таго гінулі тысячы». Перамагла зноўтакі мужнасць.

Мужнасць не пакінула лейтэнанта і тады, калі ён з двума ўцалелымі разведчыкамі перайшоў лінію фронту і з'явіўся ў штаб арміі, каб «далажыць аб усім, што здарылася за два тыдні іх блукання па нямецкіх тылах». Не пакінула яго мужнасць і тады, калі ў прысутнасці начальніка разведкі арміі, які, аднёсся да лейтэнанта-акружэнца «без асаблівай увагі», выпаліў смела: «Палкоўнік не хоча разбірацца, таварыш генерал».

Калі б лейтэнант не перасіліў у сабе страху, абыякава адступіўся ад таго, што не дае спакою, дык і хадзіў бы з плямай акружэнца. А так з вуснаў генерала прагучала найсправядлівейшае: «Ерунда! Яго ўжо праверылі. Немцы праверылі. А гэта будзе другой праверкай». Праз суткі, калі група з дзесяці чалавек была гатова, той жа генерал па-бацькоўску благаславіў іх на ратны подзвіг: «Сынкі! Вы ведаеце, куды ідзяце? Ведаеце, што будзе цяжка? Але трэба. Бачыце, мяце... Авіяцыя на прыколе. На вас уся надзея...».

Не адна спагада, а і справядлівасць генерала ўзнімалі дух лейтэнанта, «які з гэтай хвіліны гатовы быў на ўсё, абы толькі выканаць баявую задачу. Нават смерць у гэты час не здавалася яму чымсьці жахлівым, ён гатовы быў рызыкаваць жыццём, калі гэта спатрэбіцца для Радзімы».

Гэта не прыгожыя словы, а выяўленне тых глыбінных імпульсаў, што вялі лейтэнанта па дарогах вайны. Хай сабе ўзбочнымі, але вельмі важнымі сцежкамі, праз выпрабаванне мужнасці сваёй і сваіх падначаленых.

Характар Іваноўскага пададзены ў аповесці буйным планам і ў тым дынамічным развіцці, якое абумоўлівалася прынятай для сюжэта абмежаванасцю часу. Гэта — традыцыйна ўжо для В. Быкава: укладвацца ў строгія кампазіцыйныя рамкі. Таму такая насычанасць дзеяннямі, учынкамі, такія рэзкія павароты падзей, такая імгненная рэакцыя на іх.

Дакараючы часам В. Быкава ў зададзенасці пэўных сітуацый, нават катэгарычна сцвярджаючы, што «так у жыцці не бывае», мы забываемся на адну вельмі слушную думку, якую выказаў у свой час М. Дабралюбаў пра неабходнасць інтэнсіўнага мыслення мастака. «**Зразумець** ісціну, — зазначыў крытык, — можа кожны разумны чалавек, **імкнуцца да дабра** павінен і хоча кожны чалавек, не пазбаўлены высакароднасці душы. Але моцна **адчуць** і праўду, і дабро, знайсці і жыццё і хараство, выявіць іх у прыгожых і акрэсленых вобразах — гэта можа толькі паэт і наогул мастак».

Аўтар аповесці «Дажыць да світання» моцна адчувае праўду і дабро. Больш таго, ён жадае, каб гэтак жа моцна іх адчулі тыя, хто будзе чытаць твор. Таму так заклапочаны ён пра псіхалагічную абгрунтаванасць кожнага кроку людзей, якія трапілі ў поле зроку пісьменніка.

Вядучы «пафас» (як не стасуецца гэтае слова да засяроджанай манеры апавядання!) характару Іваноўскага —незгінальная сіла духу, нязломнасць волі, той высокі патэнцыял мужнасці, што ўласцівы сапраўды народнаму характару і які так шматзначна выявіўся на вайне.

Дзе вытокі гэтага пафасу? Ці варта шукаць іх у біяграфіі героя, які жыў падлеткам-самапасам на пагранзаставе? Побач з ім баец Піваварaў, які рос у сям'і настаўніцы, што падымала ўсіх дактароў на ногі, калі хварэў яе сын. У Піваварава таксама высокі патэнцыял мужнасці...

Уплыў сацыяльных перадваенных умоў на фарміраванне характару Іваноўскага прасочаны ў аповесці без той паўнаты, на якую спадзяешся. Была, праўда, у Ігара Іваноўскага адна нёмалаважная для сфарміравання цэльнага характару акалічнасць, якую аўтар і падае як вызначальную.

Падлетак Ігар падвёў блізкага чалавека, з якім пасябраваў. Неразумны блазенскі ўчынак (выкраданне лодкі) запаў хлопцу ў душу моцна. І калі ён уступіў у самастойнае жыццё, сумленнасць, праўдзівасць, мужнасць сталі вызначальнымі рысамі характару. Дзяцінства тых, хто ўступаў у вайну юнакамі, жывілася рамантыкай высокіх спраў і ўчынкаў і адкрытай пагардай да ілжывага, нізкага, пачварнага.

І ў юначыя гады, калі малады лейтэнант едзе ў пункт першага прызначэння ў Гродна, ён не здраджвае высакароднасці сваёй душы. Спатканне з дзяўчынай Янінай у цягніку, вандроўка з ёй праз усю чэрвеньскую ноч па горадзе поўныя цнатлівай чысціні. Гэта лішні раз выяўляе ў Іваноўскім чалавека, які пазней уступіць у складанае ўзаемадачыненне з абставінамі па-чалавечаму чыста і высакародна.

Калі гаварыць пра рэтраспектыўныя планы аповесці, уведзеныя дзеля вытлумачэння перадгісторыі галоўнага героя, дык яны напісаны ніжэй магчымасцей аўтара, на ніжэйшым узроўні псіхалагічнай абгрунтаванасці, без тых штрыхоў і падрабязнасцей, па якіх можна ўявіць агульную карціну перадваеннай пары. Яны маюць характар ўстаўных навел, бо неабходны ў агульнай кампазіцыі як разрадка пасля драматычна напружаных раздзелаў.

Па-быкаўску вострыя павароты лёсу даюць магчымасць выявіць у характары найгалоўнейшае — усё той самы патэнцыял мужнасці. Нямецкай базы на тым месцы, дзе яе засек Іваноўскі, няма. Толькі голыя слупы, без дроту. Базу вораг перамясціў. А столькі ж патрачана высілкаў — спачатку ішлі на кукішках, потым паўзлі па-пластунску. Страцілі дваіх. Натыкнуліся на немцаў. Іваноўскага паранілі ў плячо. Знік Хакімаў. Знайшлі яго цяжка параненага. Цягнуць на лыжах па чарзе — Іваноўскі і Піваварaў. Спыніліся ў супроцьтанкавым рове. Ідуць двое. Базы не знаходзяць нідзе ў бліжэйшым наваколлі.

Аўтар адчувае сябе ўпэўненым, паказваючы прадметна, адчувальна кожны крок невялічкай групы, пакуль яны разам. І неяк нечакана парушае гэты прынцып, калі шасцёра кіруюцца назад, у часць, забываючыся пра гэтых шасцярых. Ці вярнуліся яны — задаеш такое пытанне, бо лёс іх не прасочаны да канца.

# З КЛОПАТАМ АБ ЮНЫМ ЧЫТАЧУ

ВЫНІКАМ мінулага года быў прысвечаны чарговы сход секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў. З дакладам выступіў старшыня бюро секцыі Васіль Хомчанка. Ён адзначыў, што за год шмат зроблена па прапагандзе твораў для дзяцей, праведзены шэраг сустрэч, якія былі карыснымі і пісьменнікам, і чытачам.

У прыватнасці, летась у Мінску адбылося ўрачыстае адкрыццё Усесаюзнага тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі. Лагічным завяршэннем яго быў Усесаюзны сімпозіум «Праблемы інтэрнацыянальнага выхавання ў нашай літаратуры». Глыбокім і змястоўным атрымаўся на сімпозіуме даклад Еўдакіі Лось, якая разгледзела гэтыя праблемы ў беларускай літаратуры. Адзін з нумароў часопіса «Детская литература» расказаў усесаюзнаму чытачу пра беларускіх дзіцячых пісьменнікаў.

Значную частку свайго выступлення В. Хомчанка прысвяціў аналізу дзіцячай прозы і паэзіі мінулага года. Ён аднёс да набыткаў літаратурнага года аповесці П. Місько «Навасёлы», С. Александровіча «На шырокі прастор», Ул. Машкова «Я сам», «Алесеву кніжку» К. Кірэенкі.

Сярод кніг паэзіі В. Хомчанка адзначае зборнікі вершаў В. Зуёнка «Сонечны клубочак», Н. Галіноўскай «Сяргейкаў параход», С. Шушкевіча «Колькі кіпцікаў у кошкі».

Прыемна, што летась выйшла шмат перакладаў беларускіх аўтараў на рускую мову, а таксама на іншыя мовы народаў СССР. У ліку лепшых дакладчык назваў кнігу Е. Лось «Сінія дні», якая выйшла ў Маскве.

Але не ўсе кніжкі адпавядаюць высокім патрабаванням. Так, зборнік апавяданняў С. Грахоўскага «Агеньчык у акне», на думку В. Хомчанкі, атрымаўся тэматычна разрозненым. У кніжцы «Званкі- званочкі» Ул. Ляпёшкіна шмат слабых вершаў...

Уладзімір Юрэвіч слушна заўважыў, што ў дзіцячай літаратуры слаба паказана сённяшняя школа, настаўнік. Мова, якой пішуць літаратары, адрозніваецца ад той, якой карыстаюцца вучні. Пісьменнікі часта адстаюць ад жыцця. Больш цяснейшымі павінны стаць кантакты з педагогамі. Адных выступленняў перад чытачамі мала. Магчыма, варта наладзіць шэфства над школамі.

Алесь Якімовіч прапанаваў членам бюро секцыі часцей заглядаць у планы савета па дзіцячай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў СССР. Там разглядаецца шмат тэм, абмеркаванне якіх было б цікавым і ў Беларусі.

Цікавым было выступленне Янкі Брыля. Пісьменнік яшчэ раз напомніў на неабходнасць выдання ў рэспубліцы серыі «Жыццё выдатных людзей». Аб ажыццяўленні гэтай добрай задумы павінны паклапаціцца дзіцячыя рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Некалькі заўваг па арганізацыйных пытаннях зрабіў Станіслаў Шушкевіч.

На сходзе абраны новы склад бюро секцыі дзіцячай літаратуры. У яго ўвайшлі — П. Кавалёў (старшыня), Ул. Юрэвіч (намеснік старшыні), М. Гамолка (сакратар), Э. Агняцвет, А. Васілевіч, В. Вітка, А. Вольскі, В. Зуёнак, В. Хомчанка, А. Якімовіч.

Уся ўвага — на дваіх, якія абмываюць сваёй крывёю кожную пядзю зямлі, роднай зямлі, па якой ходзіць вораг. «Чорная» работа на вайне паказана В. Быкавым з той ступенню дакладнасці, якая па сіле толькі відавочцам.

Базы няма. Толькі застаецца загад знішчыць яе. Іваноўскі і Півавараў падыходзяць да вёскі. Лейтэнант ідзе першы, натыкаецца на вартавога.

Пагоня. Востры ўдар у плячо. Апошнім напружаннем волі Іваноўскі дабягае да Піваварава. Баец валачэ на сабе лейтэнанта. «Гінуць ён не хацеў, пакуль быў жывы, гатовы быў змагацца хоць усю ноч, суткі, хоць вечнасць, абы ўцалець, выжыць, дабрысці да сваіх». Лейтэнант глядзеў з надзеяй на свайго баявога паплечніка, дзівіўся, адкуль «яшчэ бралася ў гэтага хліпкага, заморанага з выгляду хлопца» сіла. Але «ён ведаў, што калі яны ўпадуць і не здолеюць падняцца, то далей будуць паўзці. Бо які-ніякі паратунак у іх наперадзе, ззаду ж іх пільнавала смерць».

Яны прытуліліся ў лазні, што за 200 метраў ад вёскі, дзе немцы. Яны засталіся без харчу, без вады, без лыж, а снег — па калена. Лейтэнант «на пакутным рубяжы між жыццём і смерцю».

Ззаду былі немцы, наперадзе таксама. Але наперадзе яшчэ і змаганне, хоць да апошняга стрэлу. «Каб выжыць, трэба было перамагчы, але перамагчы можна было толькі выжыўшы — у такое чортава кола загнала людзей вайна. Абараняючы сябе і краіну, трэба было забіць не аднаго, а шмат, і чым больш было забіта, тым больш надзейным было існаванне аднаго і ўсіх. Жыццё праз пагібель ворага» — так няспынна працуе думка Іваноўскага, ваяўнічага гуманіста. Яго адданасць агульнай справе, вернасць загаду, бескарыслівасць кожнага кроку ўспрымаюцца як асаблівасць сацыяльнай псіхалогіі чалавека, выхаванага на рэвалюцыйным вопыце пакаленняў. Гэта канкрэтнае, не дзеля гучнай фразы, выяўленне савецкага патрыятызму.

Актыўная думка робіць мабільным, нават дынамічным унутранае жыццё героя, якога цяжкія раны скавалі. Півавараў ідзе ў вёску па лыжы, каб даставіць лейтэнанта праз лінію фронту да сваіх. Іваноўскі адзін. Але не ў роспачы, толькі час ад часу ў забыцці. «Яго вырвалі з забыцця стрэлы... Іваноўскі падхапіўся на локаць, але ў грудзях у яго штосьці сціснулася, ад болю заняло дыханне...» Дакладны стан чалавека. Чалавека знясіленага і поўнага веры, што трэба жыць, а дзеля гэтага трэба паўзці. І ён паўзе. Паўзе тым самым шляхам, па якім паслаў Піваварава. Натыкаецца на забітага і ўжо змёрзлага таварыша.

У аповесці шмат крыві, шмат смярцей. Але хіба іх менш было на вайне, асабліва ў тую страшную зіму 41-га? Каб было менш, хіба гаварылі б мы і сёння яшчэ пра багата палітую крывёю сваіх сыноў родную зямлю? Гаворым жа мы гэта стрымана, гэта горкі ўспамін пра жывую рэальнасць нядаўняга мінулага.

Так і ў аповесці Быкава. Усё, пра што апавядае пісьменнік, жывая рэальнасць. Свет з'яў і вобразаў, створаных пісьменнікам, не аднамерны, ён аб'ёмны, унутрана дынамічны, скіраваны на сцвярджэнне жыцця.

Іваноўскі і смяртэльна паранены не адступае. Заключны раздзел — гэта апафеоз, перамагае жыццё. Лейтэнант збірае апошнія сілы, каб «толькі дажыць да світання». Ён выпаўзае на дарогу, спадзеючыся сустрэць там першую машыну з немцамі і ўзарваць яе.

Але злая іронія няўмольнага лёсу бярэ верх: «Пасля стольках смярцей, пакут і перажыванняў замест базы боепрыпасаў, замест генерала ў шыкоўным «опель-адмірале» і нават штабнога, з партфелем палкоўніка яму наканавана ўзарваць двух нягеглых абознікаў з возам саломы».

Іваноўскі не адступае, хоць мэта подзвігу драбнее. Ён узрывае гранату тады, калі адзін немец падыходзіць зусім блізка...

Эмацыянальны змест аповесці — гэта трагічная радасць быцця чалавека на вайне, якая абавязкова закончыцца перамогай народа, бо яе здабываюць такія людзі, як Іваноўскі, як Півавараў.

Мы прымаем за бясспрэчную ісціну формулу ваенных гісторыкаў: «Крыніцай нашай перамогі з'явілася духоўная моц савецкага народа, які вытрымаў націск ворага і выйшаў пераможцам таму, што ўсведамляў справядлівыя мэты вайны, змагаўся за Сацыялістычную Айчыну, за сваю светлую будучыню». Для мастака, які піша пра вайну, гэтая формула вымагае выяўлення той самай ісціны толькі з захаваннем усёй яскравасці, усёй сілы і паўнаты непасрэднага эмацыянальнага ўражання. Тым і вялікі чалавек, што адчувае сябе часткай народа, як лейтэнант Іваноўскі.

У аповесці Васіля Быкава «Дажыць да світання» мы бачым само жыццё. Сутыкаемся з жывой з'явай ва ўсёй яе цэласнасці і непаўторнай індывідуальнасці. Сутнасць яе тут матэрыялізуецца словам у канкрэтных адзінкавых з'явах, даючы магчымасць глыбей і дакладней успрыняць хараство подзвігу на вайне, якое існуе аб'ектыўна, хоць не заўсёды кідаецца ў пярэймы павярхоўнага позірку.

# НА МОВАХ БРАТНІХ НАРОДАЎ




У маскоўскім выдавецтве «Детская литература» выйшла ў свет стотысячным тыражом кніга Станіслава Шушкевіча «Адважны Марат», прысвечаная жыццю і подзвігу Героя Савецкага Саюза Марата Казея. На рускую мову кнігу пераклала Т. Медзвядкова, мастак—М. Сакалоў.




Аповесць Аркадзя Марціновіча «Неадкрыты востраў» выдадзена ў Кішынёве. Пераклад на малдаўскую мову зрабіў С. Вангелі. Мастак М. Пракапенка. Тыраж—15 тысяч экземпляраў.

# КРЫТЫКА БУРЖУАЗНАЙ ІДЭАЛОГІІ

Савецкая шматнацыянальная літаратура... Сцвярджаючы камуністычныя ідэалы, яна нясе народам свету ў яркай мастацкай форме праўдзівае, страснае слова аб нашай рэчаіснасці, расказвае аб велічных здзяйсненнях савецкіх людзей, якія будуюць камуністычнае грамадства. Поспехі літаратуры і мастацтва краіны сацыялізму — несумненныя. За слаўнае пяцідзесяцігоддзе нязмерна вырас яе міжнародны аўтарытэт.

Менавіта гэта прымушае буржуазных ідэолагаў яшчэ больш вытанчана і інтэнсіўна весці вайну супраць літаратуры сацыялістычнага рэалізму, супраць камуністычнай ідэйнасці і партыйнасці мастацкай творчасці.

Так званыя саветолагі за мяжой, змагаючыся супраць ідэй сацыялізму, імкнуцца дасягнуць сваёй мэты рознымі шляхамі, у прыватнасці, сеюць у асяроддзі інтэлігенцыі капіталістычных краін недавер да тых цудоўных умоў, якія створаны ў нас для плённага развіцця мастацкай творчасці, прапагандуюць псеўданавуковыя тэорыі і канцэпцыі, разлічаныя на расслаенне інтэлігенцыі краін сацыялізму, і перш за ўсё, Савецкага Саюза. Але як бы ні маскіраваліся буржуазныя прапагандысты, робячы выгляд, што яны нібыта «клапоцяцца» аб творчым развіцці савецкай культуры, ім не схаваць сваіх сапраўдных намераў раскалоць рады савецкай інтэлігенцыі, аслабіць кіруючую ролю КПСС у развіцці мастацкай культуры сацыялізму. Дарэмныя патугі паноў-антыкамуністаў, бо «...усе іх спробы,— як рашуча адзначылі ў сваім пісьме Цэнтральнаму Камітэту КПСС дэлегаты Пятага з'езда савецкіх пісьменнікаў,— асуджаны на правал! Савецкія пісьменнікі выступаюць з'яднанымі радамі, яны бязмежна адданыя партыі і народу».

Ва ўмовах вострай ідэалагічнай барацьбы на савецкую эстэтычную навуку, літаратуразнаўства ўскладаецца асаблівая адказнасць у развянчанні розных рэакцыйных, антыкамуністычных і антысавецкіх тэндэнцый і канцэпцый.

У гэтых адносінах выклікае вялікую цікавасць зборнік артыкулаў «Ідэалагічная барацьба ў літаратуры і эстэтыцы», які выданы ў мінулым годзе ў Маскве. Аўтары падвяргаюць аналізу і крытыцы сучасную буржуазную эстэтыку, паказваюць яе ідэйную і навуковую беспадстаўнасць і банкруцтва.

Асаблівую ўвагу звяртае на сябе артыкул У. Шчарбіны «Шлях сацыялізму, шляхі мастацтва». Прасочваючы на багатым фактычным матэрыяле, як ідэолагі буржуазнага свету імкнуцца ачарніць дасягненні сацыялізму, асновы яго палітычнай і духоўнай культуры, усяляк абгаварыць, узвесці паклёп на савецкае грамадства, не грэбуючы ніякімі злоснымі выдумкамі аб жыцці нашай краіны і брацкіх краін сацыялізму, аўтар у артыкуле бязлітасна крытыкуе погляды прадстаўнікоў буржуазнай ідэалогіі, якія выступаюць супраць асноўных прынцыпаў савецкай літаратуры і мастацтва — партыйнасці і народнасці.

Рэвізуючы асноўныя прынцыпы навуковага сацыялізму, рэальны вопыт развіцця сацыялістычнай культуры і мастацтва, ідэолагі антыкамунізму і аўтары-рэвізіяністы тыпу Э. Фішара, Р. Гарадзі, В. Страды свае меркаванні развіваюць перш за ўсё ў аспекце асобы. Ім не падабаецца, што савецкія пісьменнікі ствараюць гераічныя цэласныя характары, услаўляюць чалавека працы, ім не падабаецца характар узаемаадносін савецкага чалавека з грамадствам у самім жыцці і літаратуры, яго гатоўнасць да самаахвярнасці ў імя здзяйснення велічных гераічных спраў. Буржуазныя рэвізіяністы ад эстэтыкі намагаюцца прадставіць рухаючым фактарам і зместам мастацтва толькі пафас адмаўлення. «Мастак заўсёды быў больш крытыкам грамадства, чым яго апалагетам»,— піша амерыканскі тэарэтык мастацтва Макс Рызер. Тое ж у трактаце Альбера Камю «Міф аб Сізіфе»: «Мастацтву верна служыць толькі адмаўляючая думка». Па сцвярджэнню філосафа Герберта Маркузе, які жыве ў ЗША, сапраўднае мастацтва заўсёды ў апазіцыі да грамадства...

Такім чынам, як падкрэслівае аўтар артыкула У. Шчарбіна, палажэнне аб непазбежнасці канфлікту асобы і грамадства — адзін з асноўных тэзісаў антыкамуністычнай прапаганды, накіраванай супраць асноў сацыялізму.

Насуперак гістарычным фактам, насуперак нашай савецкай рэчаіснасці буржуазныя ідэолагі, што займаюцца «антрапалагічнымі» даследаваннямі ў галіне літаратуры, лезуць са скуры, каб даказаць, нібыта рэвалюцыя і сацыялізм не змянілі чалавека. Разглядаючы творы савецкіх пісьменнікаў, тэндэнцыйныя замежныя літаратуразнаўцы робяць выгляд, што яны не заўважаюць тыповых новых рысаў сацыялістычнай асобы, і па зусім зразумелых прычынах спрабуюць растварыць іх ва «ўсеагульных», «агульначалавечых» стандартах...

У пацвярджэнне выказаных У. Шчарбінам думак варта нагадаць зусім свежы факт. Нядаўна (матэрыялы аб гэтым змешчаны ў «Литературной газете» ад 14 лютага г. г.) у заходнегерманскай газеце «Вельт дэс бухес» выступіла з рэцэнзіяй на аповесць Васіля Быкава «Сотнікаў» Шарлота Шмітц. Скажона вытлумачыўшы сэнс твора, аўтар рэцэнзіі вельмі тэндэнцыйна тлумачыць і паводзіны Сотнікава: героя, які бясстрашна ідзе на пакутніцкую гібель, з верай у сваю справядлівую справу, Ш. Шмітц называе «маралістам з ... бяссэнсавай ахвярнай смерцю».

Што ж, аўтар аповесці, беларускі пісьменнік Васіль Быкаў у сваім адказе даў дастойную водпаведзь рэцэнзенту заходнегерманскай газеты:

«Упэўнен, што любыя спробы замежных «спецыялістаў» сказіць нашы задумы, сказіць сутнасць нашых кніг дарэмныя. Спадзяюся, што непрадузяты чытач ясна бачыць сапраўдны гуманістычны сэнс савецкай літаратуры і яго не саб'юць з толку рэцэнзенты, падобныя Ш. Шмітц».

У артыкулах аб савецкай літаратуры апошніх гадоў заходнегерманскі крытык Барбара Бодэ і амерыканскі «саветолаг» Джордж Гібіан намагаюцца ўнушыць чытачу думку, нібыта ідэйная яснасць пазіцыі пісьменніка, раскрыццё ім сацыяльнай прыроды характару героя пазбаўляюць твор духоўнай натуральнасці і глыбіні. Менавіта з такіх пазіцый разглядаюць буржуазныя літаратуразнаўцы творы савецкай літаратуры нашых дзён. Калі ў асобных творах некаторых пісьменнікаў яны знаходзяць, напрыклад, прыкметы абстрактнага гуманізму, дэгераізацыі, гэтыя творы ўхваляюцца. І наадварот, усяляк прыніжаюцца мастацкія вартасці кніг, у якіх акрэслена выяўлены марксісцка-ленінскі светапогляд пісьменніка. Ідэолагі рэакцыі нават павучаюць, каго варта з пісьменнікаў адзначыць, вылучыць, а на каго не звяртаць увагі...

У. Шчарбіна ў канцы артыкула звяртае ўвагу на неабходнасць яшчэ больш наступальна, больш актыўна весці барацьбу з антыкамунізмам, з замежнымі зласліўцамі ад літаратуразнаўства. Менавіта аб гэтым гаворыцца ў рэзалюцыі XXIV з'езда КПСС:

«Галоўнае ў ідэалагічнай рабоце партыі —прапаганда ідэй марксізму-ленінізму, непрымірымая наступальная барацьба супраць буржуазнай і рэвізіяніцкай ідэалогіі».

Няма сумнення, што чытач з не меншай цікавасцю і вялікай карысцю для сябе пазнаёміцца і з артыкуламі астатніх дзевяці аўтараў зборніка, такімі, як «Буржуазнае амерыканскае грамадства і літаратура», «Літаратуразнаўства ў ЗША і антыкамунізм», «Сацыялістычны рэалізм і «саветалогія» і іншымі.

**Я. КАРШУКОЎ.**

«Ідэалагічная барацьба ў літаратуры і эстэтыцы». Зборнік артыкулаў. На рускай мове. М., «Художественная литература», 1972.

Васіль КАЗЛОЎ

# СЯМ'Я

**18 лютага споўнілася 70 год з дня нараджэння В. І. Казлова—вернага сына савецкага народа. Ад прoстага рабочага на чыгунцы ён вырас да вядомага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча— Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Савецкія людзі добра ведаюць Васіля Іванавіча як аднаго з таленавітых арганізатараў партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1942 годзе В. І. Казлову было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.**

**Работа над дакументальнай кнігай «Людзі асобага складу» аб дзейнасці Мінскага падпольнага абкома партыі, аб разгортванні партызанскага руху на Міншчыне, у нас працягвалася некалькі гадоў. За гэты час я бліжэй пазнаў Васіля Іванавіча, часта бываў у яго на рабоце; разам з ім выязджаў у службовыя камандзіроўкі. Мяне, як літаратара, цікавіў гэты чалавек не толькі партызанскай дзейнасцю, а і наогул пэўнымі асаблівасцямі свайго характару, даволі адметнымі, зусім неабходнымі для грамадскага і дзяржаўнага дзеяча.**

**Прапаную ўрывак з другой часткі кнігі- «Людзі асобага складу». Літаратурны запіс зроблены пры жыцці Васіля Іванавіча.**

**Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**

АДНЫМ З САМЫХ юных падрыўнікоў у брыгадзе Мікалая Мікалаевіча Розава быў Федзя Каранец. Ён прыйшоў з партызанскай вёскі Вярхуціна Старадарожскага раёна. Тады яму было толькі пятнаццаць год. Прыйшоў разам з усёй сваёй сям'ёй. Актыўнымі партызанамі сталі яго маці, сястра Ксеня, муж сястры і нават самы меншы брат — Андрэйка, якому тады было ўсяго дзевяць год. Гэты хлопчык потым быў пры штабе, меў карабін і выконваў некаторыя даручэнні камандавання, удзельнічаць у баях яму, вядома, не дазвалялі, але хлопчык у цяжкія моманты нечакана для ўсіх з'яўляўся ў самых небяспечных месцах.

Аднаго разу ён, як з-пад зямлі, вынырнуў у час штурму чыгуначнай станцыі Вярхуціна, з адным адважным партызанам кінуўся на дот і быў цяжка паранены. Вылечыўся ў атрадзе і потым ваяваў да самай Перамогі.

Цяжкі партызанскі шлях прайшла маці Федзі і Андрэя Марыя Яфімаўна. Ёй было тады больш пяцідзесяці год, і не для яе былі штодзённыя пакутлівыя паходы, голад і холад, бяссонныя трывожныя ночы. Аднак жанчына мужна пераадольвала ўсе выпрабаванні. Ні аднаго дня, ніводнай гадзіны яна не была ў атрадзе непатрэбным чалавекам. У большасці выпадкаў яна абслугоўвала партызанскую друкарню, а то брала санітарную сумку і разам з атрадам, следам за сваімі дзецьмі ішла на баявыя аперацыі. Ішла кроках у дзесяці ад Федзі, ад Ксені, яе мужа і, вядома, не аб сабе ў гэты час думала, не аб сабе трывожылася: яе душа балела аб сям'і...

Прызвычаілася ўжо маці да ўсякай небяспекі, прывыкла кожны дзень выпраўляць сваіх дзяцей у бой і з трывожнай нецярплівасцю чакаць іх звароту. Прызвычаілася сама хадзіць на баявыя заданні з атрадам і перавязваць раненых, памагаць ім у самых цяжкіх умовах. Ды не магла толькі прывыкнуць да аднаго: назіраць, як яе дзеці ідуць у атаку, баючыся за іх кожную хвіліну — вось-вось паласне з кулямётаў вораг, і, магчыма, уся сям'я загіне адразу. Трывожылася яшчэ і за Андрэйку, які кожны момант мог вынырнуць з кустоў — дарма, што загадвалі яму не пакідаць лагер. Хіба ж вытрымае гэтае хлапчанё: хіба не сарвецца ды не дагоніць атрад перад самымі баявымі пазіцыямі?

Партызаны ідуць у атаку... А маці не ведае, што рабіць, каб дапамагчы дзецям. Каб можна было як-небудзь перанесці ўсё на сябе, прыкрыць дзяцей сабою, яна зрабіла б гэта без вагання. Але санітарка павінна ісці хоць на некалькі крокаў ззаду: ды чым паможаш, калі высунешся наперад? І толькі адно ў такіх выпадках можа зрабіць маці: яна просіць камандзіра, каб ён хоць раз'яднаў дзяцей, паставіў аднаго на правы фланг, другога на левы. А калі раптам з'явіцца самы меншы, то каб адправіў яго назад, бо толькі камандзіра ён цяпер паслухае, а маці, яму ўжо не камандзір.

Брыгадзе Розава даводзілася трапляць у вельмі цяжкія блакады. Бывала, па некалькі тыдняў людзі не вылазілі з балота, прэла ад макроцця вопратка, аблазіла скура на нагах і руках. Цярпелі яны голад, холад, пераадольвалі тыфозныя і малярыйныя эпідэміі. І ўсё перажыла Марыя Яфімаўна, усё вытрымала, перамагла. Вярнулася дадому, калі Беларусь ужо была вызвалена, нейкі час працавала яшчэ ў калгасе, а потым памёрла ад цяжкай хваробы неўзабаве пасля вайны.

Засталася ў жывых дачка Ксеня, вярнуўся з вайны многа раз паранены выхаванец партызанскага атрада Андрэй. Што ж датычыць Федзі, то пра яго баявыя подзвігі нам хацелася б сказаць асобна.

З першых дзён партызанскага жыцця Федзя звярнуў на сябе ўвагу камандавання сваёй надзвычайнай смеласцю, ініцыятывай і вялікай любоўю да вайсковай справы. Пачаў з таго, што першы паведаміў камандзіру атрада, дзе можна па-сапраўднаму разжыцца ўзрыўчаткай для мін. Хлапец даведаўся, што каля станцыі Урэчча былі вялікія артылерыйскія склады. Перад адыходам нашы часці не паспелі вывезці ўсе боепрыпасы, не паспелі нават і ўзарваць іх поўнасцю. Частка была ўзарвана, а многа снарадаў засталося цэлымі.

Рызыкуючы жыццём, Федзя пачаў прабірацца на тым месцы, абясшкоджваць снарады і дастаўляць у лагер. Тут з іх выплаўлялі тол і рабілі міны. У якія формы разлівалі расплаўлены тол, такія былі і міны. Калі патрэбна была вялікая міна, дык рабілі вялікую форму. Для падрыву рэек ішлі, вядома, формы невялікага памеру.

Першая проба годнасці Федзевага толу адбылася ў атрадзе яшчэ ў сорак другім годзе. Разам з партызанам Сцяпанам Удовіным яны напоўнілі расплаўленым толам цэлае карытца. Калі тол застыў, выдзеўблі ў ім гняздо для капсуля і зацягнулі гэтае карыта пад мост на шасейную дарогу.

Многа радасці было ў атрадзе, калі гэтае Федзева карыта, як жартавалі партызаны, вельмі ўдала ўзарвалася. Як толькі на мост уз'ехаў нямецкі бронетранспарцёр, дык і паляцеў у паветра, а разам з ім дваццаць восем гітлераўцаў.

З таго часу Федзя Каранец больш за ўсё выконваў заданні на чыгунцы. Спачатку ён уваходзіў у падрыўную групу Бачарова, а потым і сам кіраваў падрыўнікамі. Нялёгка нават пералічыць баявыя справы гэтага юнага патрыёта, усёй душой і сэрцам адданага сваёй Радзіме.

Федзя быў сапраўдным майстрам падрыўной справы і валодаў вельмі каштоўнымі якасцямі партызанскага разведчыка. Ён ніколі не губляўся ў самых складаных і небяспечных абставінах, заўсёды разумна ацэньваў сітуацыю, ніколі не вяртаўся, не выканаўшы задання, якім бы цяжкім яно ні было. І калі ў атрадзе, а то і ва ўсёй брыгадзе складвалася надзвычай цяжкае становішча, калі ад самай складанай разведкі залежала вельмі многае, тады гэта даручалася Федзю. Амаль кожны раз хлопец сам вызываўся ісці ў разведку. І чым больш складанай яна была, тым больш ахвотна юнак браўся за справу. Трэба было ісці ў тыл ворага — ішоў. Трэба было дастаць «языка» — выконваў і гэта.

Асабліва вялікую дапамогу брыгадзе аказваў Федзя ў час нечувана цяжкіх блакад у сорак чацвёртым годзе. Тут ад яго разведак часта залежаў лёс цэлых груп і атрадаў. Не адзін раз брыгада паспяхова прарывала варожае акружэнне толькі дзякуючы таму, што дасканала ведала, дзе найбольш слабое месца ў гэтым акружэнні. А разведваў і вывучаў гэтыя мясціны ў большасці выпадкаў Федзя Каранец.

Аднак жа вядома, што на фронце, у цяжкіх баях могуць здарацца і са-



Хведар ЖЫЧКА

# ЮТА

*ФРАГМЕНТЫ З АПОВЕСЦІ*

ЛЕЙТЭНАНТ ЯГОРАЎ падвёў мяне да белакурай дзяўчыны, прадставіў:

— Старшы матрос Сыраежка, сакратар камсамольскай арганізацыі і лепшага тэхнічнага падраздзялення.

«Намеснік сакратара»,—хачу паправіць я, але язык нібы прысох да нёба, не варочаецца. Дзе я сустракаў гэту дзяўчыну? Дужа знаёмая ўсмешка, адкрыты круглы твар. І гэтыя вялікія блакітныя вочы, што глядзяць на мяне ва ўпор.

— Юта,— працягвае руку дзяўчына.— Рада пазнаёміцца...

І асеклася, прыкусіла губу, асцярожна вызваляе руку, якую я аблапіў і не выпускаю. Лейтэнант заўважыў наша замяшанне, пачынае расхвальваць мяне:

— Нягледзячы на тое, што падраздзяленне знаходзіцца далёка ад базы, таварыш Сыраежка праводзіць вялікую выхаваўчую работу. Камсамольцы чытаюць газеты, перапісваюцца з перадавікамі вытворчасці. Нават мастацкая самадзейнасць ёсць, хаця... іх там... маленькая жменька.

— Гэта на мысе Вуоры? — Юта зноў упіваецца ў мяне блакітнымі вачамі.

Я не адказваю, пазіраю на лейтэнанта Ягорава,— месца раcпалажэння, ці як гавораць па-вайсковаму, дыслакацыя падраздзялення з'яўляецца ваеннай тайнай. Лейтэнант усміхаецца:

— Прыблізна ў тым раёне, але гэта не мае значэння...

— Паньятна,— косіцца на лейтэнанта Юта. Гаворыць яна з эстонскім акцэнтам, але голас яе прыемны, нагадвае ціхі плёскат хваляў.

— Значыць, выступаеце? — дастае з сумачкі запісную кніжку, ручку.

— Ды што вы?.. Ды я...

— Нічыво. Маракі не адступаюць,— запісвае маё прозвішча.

Мы прахаджваемся па фае старога, яшчэ не цалкам аднoўленага кінатэатра. Матросы і салдаты весела паглядаюць у наш бок,— маўляў, узяў марачок дзяўчыну на абардаж.

Юта расказвае пра свой рыбгас. Працуе яна вагаўшчыцай-прыёмшчыцай. І ўзначальвае камсамольскую арганізацыю. Невялічкая яна, бо мясцовая моладзь знаходзіцца яшчэ пад уплывам рэлігійных і буржуазных перажыткаў. Вялікую дапамогу могуць аказаць вайскоўцы. Трэба часцей сустракацца. Аб гэтым і будзе гаворка на канферэнцыі...

Я і не заўважыў, куды знік лейтэнант Ягораў. Паспрабуй цяпер знайсці яго! Столькі людзей сабралася, і ўсе незнаёмыя... А во і званок звініць, запрашае ў залу.

— Мне ў прэзідыум, я ж член бюро райкома,— кажа Юта і кіўком галавы развітваецца.

Зала вузкая і доўгая. Усе заднія месцы заняты.

— Праходзьце наперад,— запрашае з прэзідыума белабрысы хлопец.— Смялей, таварышы вайсковыя.

Гэта першы сакратар райкома камсамола. Ён адкрывае канферэнцыю, зачытвае парадак дня і дае слова дакладчыку.

Я амаль не слухаю даклада, любуюся Ютай. Сядзіць яна ў прэзідыуме ў другім радзе. Злёгку схіліла галаву, уважліва слухае. Вось заўважыла мяне, усміхнулася, вырвала з запісной кніжкі лісток, перадала сакратару. Няўжо яна і сапраўды запісала мяне для выступлення? Вс будзе фокус! Я зусім не рыхтаваўся. Аб чым гаварыць? Сораму толькі набярэшся... Не, трэба на перапынку адмовіцца... Скончыцца даклад — павінен быць перапынак. Колькі сядзім? Няўжо толькі гадзіну? Дакладчык закругляецца ўжо... Могуць і без перапынку...

Першы сакратар перашаптаўся з суседзямі, аб'яўляе:

— Ёсць прапанова перайсці да спрэчак. Іншых прапаноў няма? Галасаваць не будзем. Слова мае...— ён бярэ са стала паперку, якраз тую, што перадала Юта.— Слова мае сакратар камсамольскай арганізацыі перадавога воінскага падраздзялення таварыш Сыраежка.

«Не ісці, схавацца за спіны. Хто мяне тут ведае?» — мільганула думка. Але ўспомніў лейтэнанта Ягорава, які недзе тут, неахвотна падняўся с месца. «Ну, пранясі міма!» — як любіў гаварыць Башкіраў...

Нібы наліты свінцом, іду паміж радамі, падымаюся на сцэну.

— Таварышы!..

А што далей? Тое, што я не прасіў слова? Падвяду Юту.

— Таварышы, тут невялічкая памылка,— нарэшце знаходжу зачэпку.— Я не сакратар, а толькі намеснік. Але тое, што я раскажу, можа расказаць любы наш камсамолец...

Цяпер не страшна ўжо. Расказваю пра тое, як мы прыбылі на пост, як нас вучылі старaслужачыя Шкода, Багданаў, Башкіраў авалодваць складанай баявой тэхнікай. І хоць мы жывём на пустынным беразе, сумаваць няма часу. Чытаем кнігі, перапісваемся са знатнымі людзьмі краіны, развучваем новыя песні. Расказаў, якую «перапіску» вялі раней, як Аўхіменка«травіў» дзяўчатам пра свае франтавыя подзвігі...

У зале смяюцца. Напэўна, і ў іншых падраздзяленнях было нешта падобнае. А мо і цяпер ёсць? У нас жа няма. Мы пішам сур'ёзныя пісьмы... Што яшчэ сказаць? Юта ўспамінала пра шэфства. Сапраўды, жывём побач, а нічога адзін пра аднаго не ведаем. Добра было б пазнаёміцца з рыбакамі, паглядзець, як яны жывуць. Можна нават правесці сумесны вечар адпачынку, патанцаваць з дзяўчатамі...

# КАРАНЦОЎ

мыя нечаканыя і непрадбачаныя з'явы могуць складацца такія пагражальныя абставіны, што і самаму геройскаму байцу, самаму спрактыкаванаму і звыкламу да ўсяго воіну вельмі цяжка знайсці выйсце, уратавацца.

Аднаго разу, у час вельмі цяжкай блакады, Федзя пайшоў у разведку. Яму трэба было разведаць, якія варожыя сілы стаяць у саўгасе «Жалы» і яго аколіцах, якія ўмацаванні тут усталяваў вораг і якая ў яго зброя. Задача была надзвычай складаная. Немцаў тут было многа, пасты тырчэлі ўсюды, а падыходы з усіх бакоў бязлесыя, адкрытыя, нават хмызняк вакол умацаванняў паліцаі высеклі.

Цэлы дзень Федзя праляжаў у бліжэйшым ад саўгаса балоце. Зыркае і спрактыкаванае вока разведчыка сачыла за варожым гарнізонам, прыкмячала і вывучала ўсё, што толькі можна было ў тых абставінах. Увесь час жыла надзея, што можа з'явіцца хто з такіх людзей, з кім можна было б пагаварыць, параіцца. А магчыма, і распытаць пра сёе-тое ўдалося б.

Але пачынаў спускацца вечар, і нідзе нікога не было. Відаць, усе сумленныя людзі ўцяклі з саўгаса, а на месцы засталіся толькі паліцаі ды іх сем'і. З такімі лепш не сустракацца.

Прыцемкам Федзя стаў падпаўзаць бліжэй да гарнізона, каб высветліць, якая новая тэхніка зусім нядаўна прыбыла. Ледзь не каля самага пасёлка яго заўважыў адзін з нямецкіх вартавых і ўзняў трывогу. Усе месцы тут пэўна былі прыстраляныя, бо адразу вакол разведчыка засвісталі кулі, зрашацілася зямля.

Федзя рыўком кінуўся назад, бліжэй да балота. Потым упаў, рэзка падаўся ўбок, прытаіўся. Кулі засвісталі збоку. Яшчэ адным рыўком перабег, нібы скаціўся ў нізіну, выбраў зручнае месца для абароны. У цемнаце дык яшчэ можна было абараняцца. Але ж ці доўга пабыло цёмна? Хутка над нізінаю адна за адной пачалі ўзнімацца ракеты: іголку тут можна было заўважыць, а не толькі чалавека...

Убачыўшы, што разведчык адзін, паліцаі сталі намагацца ўзяць яго жывым. Група аўтаматчыкаў, чалавек з дваццаць, рынулася ў кругавы абход. Да хмызнякоў заставалася ўжо не вельмі далёка, Федзя і трымаў напрамак туды, але некалькі паліцаяў адрэзалі яму тую дарогу. Пачаўся заняты паядынак аднаго з дваццаццю. Юны разведчык страляў метка, выбіраючы мішэні і наводзячы прыцэл. Але ў аўтамаце быў далёка не поўны дыск, трэба было эканоміць патроны.

Паліцаі стралялі з усіх бакоў, аднак агонь іх быў не надта прыцэльным. Магчыма гэта ад таго, што ім не дазвалялася адразу забіваць партызанскага разведчыка ды, пэўна ж, і змрок нямала шкодзіў. Ракеты пускаць цяпер яны не маглі, бо зыркі агонь асвечваў не толькі разведчыка, а і саміх паліцаяў.

Для кругавой абароны Федзю ўдалося выбраць правалінку паміж купін. Паліцаям нялёгка было яго заўважыць у гэтым укрыцці. А ён сам ворагаў бачыў лепш, бо яны часта перабягалі, мянялі свае месцы. У моманты такіх перабежак ён страляў. Амаль кожная куля не ішла, як кажуць, па малако. Гэта Федзя адчуваў па дзікіх енках раненых і па страшэннай лаянцы тых, хто пакуль што аставаўся цэлым.

Паліцаі звужалі круг, аднак вельмі асцярожна. Пасмялелі толькі тады, калі разведчык раптам замоўк. Кінуліся з усіх бакоў, нават пра сваю маскіроўку не надта турбаваліся. Відаць, былі ўпэўнены, што ў хлапца ўжо зусім скончыліся патроны.

— Здавайся, бандыт! — крычалі адусюль. — Вылазь, калі хочаш застацца жывы!

Федзя не адгукаўся, не кратаўся з месца. Калі паліцаі падпаўзлі зусім блізка, ён прыўзняўся і выпусціў апошнія патроны. Чарга выйшла нядоўгая, абарвалася нібы раптоўна і больш ужо не паўтарылася. Азвярэлыя паліцаі зразумелі гэта. Націск іх яшчэ памацнеў, хоць раненых сярод іх стала больш. І цяпер яны ўжо трацілі надзею ўзяць разведчыка жывым. Ад дзікага адчаю, што цэлым атрадам не могуць справіцца з адным партызанам, яны пачалі абстрэльваць купіны. Абстрэльвалі і падбіраліся ўсё бліжэй. Нарэшце адзін з іх гучна свіснуў, відаць падаючы знак сваім, і кінуў гранату.



У гасцях у Васіля Іванавіча Казлова (другі злева) пісьменнікі Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Іван Шамякін і Пятрусь Броўка.

Федзя адчуў моцны і гарачы ўдар па плячах, ад выбуху залажыла вушы, зазвінела ў галаве, потым сціснула дыханне едкім, удушлівым газам.

Яшчэ, мабыць, не паспелі асесці асколкі, што шуганулі ўгору, як некалькі паліцаяў апынуліся каля тых купін, дзе ляжаў адважны разведчык. Адзін з іх усім сваім цяжарам наваліўся на юнака, вырваў з рук аўтамат. Адчуўшы на сваіх далонях гарачую, ліпкую кроў, адхінуўся, палез у кішэню, каб узяць ліхтарык.

— Ён ужо ўвесь, — сказаў з жалем, што не будзе пахвалы ад начальства. Мабыць, ты яго гранатай!..—Перавярнуў хлопца, асвяціў твар.—Ой, і блазнюк жа яшчэ, проста дзіця, каго баяліся! Гаварыў жа табе, дурню, што не трэба кідаць гранату!

— То няхай бы ты лез без гранаты! — агрызнуўся паліцай. — Паглядзелі б, што з цябе асталося!

На святло ліхтарыка падышлі і астатнія паліцаі, хто яшчэ мог ісці. Першы з іх, відаць, камандзір групы, штурхнуў Федзю ў бок нагой і пагардліва спытаў:

— Ну што цяпер будзем з ім рабіць? На што ён, каму патрэбен нежывы? Толькі людзей дарма перавялі!

— Давай сцягнем у кусты, — прапанаваў нехта з гурту, — ды не скажам у гарнізоне, што ваявалі з дзецюком.

— Бяры яго за ногі, — загадаў старшы.

...Калі ён выключыў ліхтарык, прагучэў моцны падвойны выбух...

Прабітае асколкамі гранаты цела юнага партызана цяпер ужо не было каму цягнуць у кусты. Перад світаннем тае ж ночы сюды прыйшлі партызаны з атрада імя Громава. Яны забралі астанкі Федзі Каранца, прынеслі ў свой часовы лагер і тут жа, непадалёку, пахавалі.

---

Добра гавару ці дрэнна — не гэта важна. Абы не маўчаць. Вунь яшчэ нават і пляскаюць.

Пасля мяне выступаюць больш спрактыкаваныя аратары. Шпараць цытатамі, усё да месца, усё да ладу. Калі-небудзь і я навучуся так, буду запісваць думкі загадзя.

На перапынку падбягае Юта, цісне мне руку:

— Малайчына! А казаў, што не рыхтаваўся. Лепш за ўсіх гаварыў. Тут табой зацікавіўся карэспандэнт. Дзе ж ён? Ага, вунь. Хадзем.

Нізенькі, кучаравы як баран карэспандэнт узяў мяне пад руку, адвёў у ціхі куток. Ён задае недарэчныя пытанні: колькі ў нас працэнтаў класных спецыялістаў, якія дыспуты праводзілі, якія пытанні абмяркоўвалі на сходах.

— Ніякіх,— кажу,— працэнтаў у нас няма. Усе спецыялісты, усе самастойна нясуць баявую вахту.

— Значыць, сто працэнтаў? Так і запішам.

Пішы, што хочаш. Якая мне да таго справа? Праз цябе толькі не паспеў пагаварыць з Ютай. Трэба ж было хоць спытаць яе прозвішча, запісаць адрас...

□

Мерна туркоча матор, пенячы вінтом жаўтаватую ваду затокі. Я сяджу на банцы, спіной наперад, любуюся прыгожым следам, які пакідае за кармой шлюпка.

За рулём Пецька. Сур'ёзны, засяроджаны. Адпускаючы нас, камандзір строга загадаў яму:

— Адказваеш за сябе, Сыраежку і шлюпку. Ніякіх там шураў-мураў. Афіцыйная размова з начальствам аб наладжванні шэфскай работы. Калі папросяць, правядзеш палітгутарку з моладдзю.

Таму такі сур'ёзны Пецька.

А я думаю толькі пра Юту. Ці сустрэну яе? Едзем без папярэджання, у будзённы дзень. Цікава, якая яна на працы...

— Ты толькі не падавай выгляду, што абрадаваўся,— павучае Пецька.— Трымайся дастойна. Бачыў, маўляў, і не такіх. Заглядайся на іншых дзяўчат, яе сябровак,—няхай параўнуе.

Вядома, пастараюся. Прыкінуся абыякавым. Вазьму сваё сэрца ў абцугі.

А яно ўжо грукоча, аж заходзіцца. Трымайся, Лявон, не падкачай!

— Заўважылі, бягуць,— паказвае кіўком галавы Пецька.

Азіраюся. Мы ўжо каля самага пасёлка. Ён не такі маленькі, як здаецца нам з мыса. Домікі, крытыя толем баракі. Ля прычалу — караблі, шлюпкі, лодкі. Сушацца развешаныя на шасты сеці. З-пад іх і вынырнуў натоўп, здаецца, адны жанчыны. Спыніліся ля кромкі, глядзяць з-пад рук насупраць сонца. Каторая з іх Юта? А можа, яе няма сёння — выхадная ці куды паехала?

— Вунь ляціць твая Юта,— усміхаецца Пецька.— Аж пыл з-пад ног...

— Не бачу.

— Ды вунь, у сінім сарафане.

Сапраўды, яна, Юта! Відаць, я нават прыўзняўся, бо Пецька паказаў кулак, прасіпеў:

— Сядзець спакойна, партызан!

Ён падрульвае да прычалу, паважна вылазіць на бераг, бярэ пад казырок:

— Дэлегацыя камсамольскай арганізацыі энскага воінскага падраздзялення прыбыла.

— Ух, як афіцыйна! — хмурыцца Юта і працягвае руку спачатку Пецьку, затым мне.— Вітаем вас на сваім беразе. Хадземце, пазнаёмімся.

Падводзіць да купкі жанчын, нешта гаворыць ім па-эстонску. І ўжо нам:

— Улічыце, што пажылыя эстонцы добра гавораць па-руску. А моладзь абсалютна не разумее.— І зноў да жанчын: — Пакліччце Юхана. Дзе ён запрапасціўся?

— Я тут! — рассоўваюцца сеці і з-пад іх вылазіць каржакаваты сівы мужчына. Увесь твар яго пасечаны дробнымі маршчынкамі.

— Госці да нас, а вы, начальнік, хаваецеся.

— Гасцям рады, — падыходзіць Юхан бліжэй, вітаецца. — Дырэктар рыбгаса. Узвалілі на мяне, старога, такую ношу. Дыхнуць няма калі...

Дырэктар вядзе нас паказваць сваю гаспадарку. Падбіраючы словы, расказвае пра поспехі і няўдачы, скардзіцца на недахоп рыбакоў, тары... Юта выбрала момант, адцягнула мяне ўбок:

— Ты чаго такі хмуры?

— На службе я.

— Кінь хітрыць! — вочы яе ясныя, ясныя. — Пакрыўдзіўся, што тады не прыехала? А я проста не магла, Юхан не пусціў. Бач, які ён у нас строгі.

— Добры ён, — кажу.

— Добры, але строгі. Ведаеш, што ён сказаў мне? «Да ваенных марачкоў на спатканне рвешся. А ў мяне — план. Мне лепш, калі ты са сваімі хлопцамі будзеш сустракацца.

Пецька сваю справу ведае, — заўважыў, што мы адсталі, кліча Юту:

— Дзе вашы камсамольцы? Пагаварыць трэба.

Камсамольцаў на месцы толькі трое: дзве дзяўчыны і хлопец-інвалід, без нагі — падарваўся на міне. Астатнія ў моры. Юта прапанавала правесці гутарку з усімі, хто ёсць — маладымі і старымі. Для знаёмства.

Пад сасной, у цяньку, паставілі збітую з дошак лавачку. Для Пецькі і для мяне. І Юхан сеў на краёчак. Астатнія паўкругам размясціліся на траве.

Пецька расказвае пра міжнароднае становішча, пра выступленне савецкага прадстаўніка на апошняй сесіі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У заключэнне прапануе наладзіць цесны кантакт:

— Мы будзем прыязджаць да вас, а вы да нас.

— Гэта добра, — абзываецца жанчына ў белай хустцы. — Жаніхі нам патрэбны.

— Керсці! — ківае пальцам ёй дырэктар.

А тая не ўнімаецца:

— Што Керсці? Хіба ж я няпраўду кажу. Дзяўчат у нас многа. Справа маладая, няхай дружаць. Можа хто і астанецца ў нас. Мужчын цяпер мала.

— Вяселле згуляем, — падхоплівае яе суседка. — Ты, Юта, моцна трымай іх за зебры!

— Юту першую ў Расію звязуць, — смяецца Керсці.

Гутарка пераходзіць на вясёлы лад. Пецька не паспявае адказваць на пытанні, трывожна пазірае на сонца, якое садзіцца за дзюну.

— Э-э, галубок, не думай уцякаць, — Керсці падымаецца, падыходзіць да Пецькі, лагодна ляпае яго па плячы.—Ты яшчэ юшкі нашай не каштаваў. Хеле-е-на!—крычыць яна ў бок барака, над якім уецца сіні дымок. — Нясі юшку.

Жанчыны рассцілаюць на траву абрус, прыносяць глыбокія гліняныя міскі з юшкай, тоўстыя скібы хлеба. Рассаджваемся вакол абруса, пачынаем абедаць. Юшка, сапраўды, смачная, як піва. Так і хочацца нагнуць міску і піць набгом.

□

Мы сядзім пад свежай, толькі што складзенай намі капой сена і любуемся. Юта любуецца морам, я — Ютай.

Мора прыгожае, чыстае. Ніводнай маршчынкі. Толькі каля берагу ледзь прыкметная зыб, малюсенькія хвалі рытмічна плёскаюць на пясок.

А Юта яшчэ прыгажэйшая. Усё ў яе незвычайнае: лоб, вочы, губы, вушы. І гэтая кудзерка ля вуха.

Яна сядзіць, па-дзіцячаму абняўшы рукамі калені і паклаўшы на іх падбародак. Пазірае на мора і думае.

Я гладжу яе загарэлую руку, шапчу:

— Юта...

— Што, родны?

— Добра мне з табой.

Юта косіцца на мяне, усміхаецца адныміі губамі. І зноў пазірае далёка-далёка, за сіні небасхіл.

— Што ты там бачыш, Юта?

— Сваё дзяцінства.

— Раскажы.

І яна расказвае, нібы спявае задушэўную песню. Расказвае пра родную рыбацкую вёску пад Талінам. Юта, тады яшчэ зусім маленькая, вось так сядзела з мамай на беразе, чакала, калі на гарызонце пакажуцца рыбацкія чаўны. Чакала тату. Дужы і спрытны, ён прывозіў многа рыбы. У калянай робе выходзіў на бераг, вялізнымі рукамі хапаў Юту і падымаў высока-высока, паказваў ёй мора...

За рыбу плацілі грошы, бацька купляў Юце ласункі, абновы. І так з году ў год — ад пуціны да пуціны, ад провадаў у мора да сустрэч...

(Заканчэнне на стар. 13.)



# ГЭТА—ЧЭХАЎ

Старая, як свет, ісціна — лепш адзін раз пабачыць самому... Так, пра хараство і высокае майстэрства мхатаўцаў яшчэ ў школьныя гады мы чуем, чытаем, знаёмімся з прадстаўнікамі славутай артыстычнай трупы на кінаэкране, пазнаём галасы Качалава або Грыбава, Кніпер-Чэхавай або Тарасавай у радыёперадачах, сустракаемся з імі і іх калегамі на старонках кніг і часопісаў. І ўсё ж тыдзень, што МХАТ гастралюе ў Мінску, дае незабыўныя ўражанні.

Калі прыслухоўваешся да размоў у фае Дома афіцэраў, звяртаеш увагу на тое, што сярод мінчан ёсць добрыя знаўцы тэатра. Хтосьці, звяртаючыся да намесніка дырэктара МХАТа Л. Белакапытава, прыгадвае, што хлопчыкам з просьбамі наконт «месцечка» ён турбаваў Фёдара Мікалаевіча Міхальскага. Яшчэ адзін сівы мужчына гаворыць, што ў яго недзе захаваўся білет на «Тры сястры», якія тут жа, на гэтай сцэне, павінны былі ігравацца ў чэрвені сорак першага года, але на той дзень прыпала самая жорсткая бамбёжка горада нямецка-фашысцкімі самалётамі...



С. Каркошка—Ніна Зарэчная.

**Адкрылася заслона. І пад дрэвамі парку на беразе возера ў маёнтку Пятра Мікалаевіча Сорына прагучаў трывожны, з адценнем прасветленай надзеі голас настаўніка Сямёна Мядзведзенкі: «Чаму вы заўсёды ходзіце ў чорным?» Здаецца, звычайнае пытанне закаханага, але нейкі ток прабег па зале, бо Н. Аляксееў прамовіў яго, нібы даючы «камертон» спектаклю. І выканаўца ролі Машы І. Мірашнічэнка чула падхапіла інтанацыю дзівоснай шчырасці, калі яе гераіня з сумнаватым жартам адказала: «Справа не ў грошах. І бядняк можа быць шчаслівым...»**

**Загучала музыка натуральных і ў нечым сімвалічных споведзей дзеючых у «Чайцы» асоб. У розных варыянтах, але настойліва і па-трапяткому прабіваецца гэтая думка: чалавек можа быць шчаслівым. І ўсе яны не маюць шчасця. Слухаюць адзін аднаго і, здаецца, не чуюць, чаму з'яўляецца неабходнасць гаварыць менавіта гэтыя словы, пра што ідзе гаворка. Фатаваты Трыгорын — праслаўлены пісьменнік, яго кахаюць жанчыны, ён валодае сакрэтамі рамяства. І ён у выкананні Л. Губанава выглядае знешне паважным, але глыбока няшчасным. Мядзведзенка стаў мужам Машы, а духоўнай раўнавагі не знайшоў. Зарэчная стала актрысай, адшукала прытулак, аб якім марыла, і гора не адступае ад яе ні на крок. Дуэтныя сцэны паміж ёй (С. Каркошка) і Трэплевым (А. Стрыжэнаў) па-трагедыйнаму ўзнімаюцца да апагею, пасля якога аднаму з іх немагчыма жыць... І — чалавек можа быць шчаслівым, можа, можа...**

Цяперашняму спектаклю МХАТа якіх пяць гадоў. Неўзабаве пасля прэм'еры «Чайкі» (яе часам называюць «ліванаўскай») Віктар Шклоўскі, які даволі рэдка бярэ голас у размовах пра драматычны тэатр, так гаварыў пра гэту сцэнічную рэдакцыю: «Не лічу сябе тэатральным чалавекам, глядзеў пастаноўку Барыса Мікалаевіча Ліванава як звычайны глядач, захапляючыся п'есай і як бы нанава пазнаючы герояў... Дзякуючы новым адносінам да тэксту Чэхава, дзякуючы даверу да гледача, які можа зразумець задуму чэхаўскую, п'еса пастаўлена з новай прастатой...»

У чым жа яна, гэтая новая прастата? Мінчане мелі магчымасць ацаніць рэжысёрскую смеласць, калі «Чайка» сёння, праз семдзесят пяць гадоў пасля першай пастаноўкі п'есы на сцэне, так усхвалявала вобразным роздумам пра лёс таленту і пра шчасце чалавека. Бядуе той, хто любіць сябе ў мастацтве, імкнецца да эгаістычных выгод і не адчувае рэальных запатрабаванняў рэчаіснасці. На спектаклях у Мінску публіка зноў і зноў захаплялася і была ўзрушана тым эфектам «нечаканай праўды», які так цаніў у чэхаўскай драматургіі Ул. Неміровіч-Данчанка (блізкая да музычнай формы завершанай санаты трэцяя дзея; «вяртанне» ў маёнтак Сорына Аркадзінай і Трыгорына; поўны ўнутранага драматызму фінал з узрушанымі і акамянелымі інтанацыямі ў голасе Машы — Мірашнічэнка). Рэжысура агаляе канфліктныя сітуацыі, і калі хтосьці з герояў паводзіць сябе па-кабацінску або набліжаецца да мяжы пошласці, то гэта і гучыць на сцэне на ўвесь голас. Толькі і самыя рэзкія кантрасты не парушаюць акварэльнай афарбоўкі і псіхалагічна вытанчанай лініі сюжэтнага развіцця спектакля.

**Тэатр далучае гледачоў да напружаных інтэлектуальных шуканняў Сорына і Дорна, хай сабе і смешных часам, запозненых, але шуканняў, і так гэта і іграюць Г. Калчыцкі і Л. Іваноў. Парадаксальнае спалучэнне ўнутрана пакрыўджаных і прыніжаных істот з іх дзіўным пачуццём годнасці раскрываецца ў вобразах Паліны Андрэеўны і Шамраева (Е. Ханаева і М. Болдуман). Ювелірная работа — Аркадзіна А. Сцяпанавай: эмацыянальныя блуканні і амаль фанатычны культ уласнай асобы, па-жаночы пераменлівы характар, які адно і ведае, што пераконвае сябе, быццам яна, Ірына Мікалаеўна, не можа быць, а і на самой справе — шчаслівая...**

**І пакрысе ствараецца ўражанне, што маёнтак Сорына — гэта каўчэг, дзе сабраліся людзі, якія цьмяна здагадваюцца аб неабходнасці змен не толькі ў сваім лёсе, а і ў грамадскім клімаце краіны. Больш таго — самым фактам свайго існавання яны сведчаць пра блізкія такія змены...**

Цуд тэатра — мы ўспрымаем «Чайку» як драматычную паэму. Сказаць, што перад намі ансамбль выдатных выканаўцаў — мала. Акцёры настроены на высокі паэтычны лад. Вядома, тут па-мхатаўску захоўваецца гранічнае праўдападабенства ва ўсіх бытавых праявах жыцця ў маёнтку Сорына. І сапраўды, здаецца, што гэтыя людзі ядуць, ловяць рыбу, іграюць аматарскія спектаклі, клапоцяцца пра будзённыя патрэбы, —і адначасова адбываецца трагедыя. Ліванаўская рэжысура, паўторым, акварэльная, аднак яна і рэзка кантрастная, і спектакль не затрымліваецца на элегічных нотах. Калі хочаце, ён аспрэчвае чэхаўскае вызначэнне жанру п'есы — «камедыя». Блуканні па пакутах Ніны Зарэчнай, якой яе іграе С. Каркошка, або няспыннае змаганне за месца пад сонцам Аркадзінай у трактоўцы А. Сцяпанавай не могуць і не маюць права быць смешнымі. Хай часам яны выклікаюць у нас усмешку, гэта таму, што цяпер, праз многа гадоў, у бег якіх выбухам уварвалася і рэвалюцыя, гэтыя людзі выглядаюць наіўнымі — то як пакутнікі і ахвяры, то як апантаныя няяснымі для іх саміх ідэаламі.

**Глядзець такі спектакль з надзеяй на духоўны «адпачынак» — нельга. Мхатаўская «Чайка» бярэ ў палон, прымушае думаць, абуджае асацыятыўныя эмоцыі. Мабыць, Б. Ліванаў і меў за мэту прымусіць гледачоў па-новаму аднавіць знаёмства з жыхарамі маёнтка Сорына. Не паспачуваць ім і не пасмяяцца з іх, а з гістарычнай перспектывы ацаніць права і магчымасць людзей мінулага быць шчаслівымі. Пафасам сваім гэтая «Чайка» ваяўніча выкрывае фальш і хлусню, сардэчную глухату і валявую індыферэнтнасць. Выкрываючы, яна і славіць адвечна прывабнае імкненне чалавека да святла і праўды.**

Чатыры разы сыгралі мхатаўцы «Чайку». І чатыры разы мінчане пасля таго, як апускалася заслона, перажывалі хвіліны цішыні, такія дарагія любому тэатру. Якімі б ні былі кароткімі тыя хвіліны, яны нясуць нам радасць, што нараджаецца ў нас, калі мы далучаемся да сапраўднага хараства высокага мастацтва. А пасля — апладысменты, апладысменты, апладысменты... Пачуццё падзякі МХАТу застанецца з тымі, хто пабываў на прадстаўленнях гэтай п'есы ў лютым 1973 года ў Мінску, надоўга. Магчыма, на ўсё жыццё.

**В. ІВІН.**

З пошты ЛіМа

# А КАЛІ ПАДУМАЦЬ ПРА ДЗЯЦЕЙ

**Нядаўна мне давялося паглядзець спектакль Рэспубліканскага тэатра юнага гледача «Чаму ж мне не пець, чаму ж не гудзець...» (сцэнічны жарт па камедыйных творах М. Чарота «Мікітаў лапаць» і Я. Купалы «Прымакі»). Не магу не падзяліць думку, якую выказваюць многія педагогі горада і студэнты, што рыхтуюцца стаць настаўнікамі. Спектакль у рэжысёра Л. Тарасавай і выканаўцаў ролей атрымаўся добры, смешны. Са сцэны гучаць жарты, якія правільна можа зразумець дарослы, сталы чалавек. Але ж у глядзельнай зале збіраюцца пераважна вучні—ад шостага па дзесяты класы сярэдняй школы.**

**І гэта трывожыць. Бо многае з таго, што робіцца на сцэне, часам бянтэжыць юных гледачоў. Тым больш, што ёсць мізансцэны, якія маюць падвойны сэнс. Захапіўшыся каларытнымі камедыйнымі сітуацыямі, калі муж падазрае жонку ў здрадзе або, калі два мужы памяняліся жонкамі, артысты, на мой погляд, празмерна падкрэсліваюць грубаваты гумар, дэманструюць некаторыя інтымныя падрабязнасці. Паўтараю, для сталага чалавека самы «смелы» жарт—зразумелы. А дзеці пачынаюць рагатаць, здагадваючыся, што тэатр гаворыць аб тым, аб чым па-за сценамі тэатра, мабыць, гаварыць непрыстойна.**

**З дазволу рэжысёра, акцёры адвольна пераастаўляюць словы ў рэпліках дзеючых асоб, робяць паўзы там, дзе аўтары ніякіх паўз не прадугледжвалі. Я не буду прыводзіць тут цытаты, але хай работнікі тэатра паслухаюць, што і як гавораць дзейныя асобы «Мікітавага лапця» пра аборку (з'ява X у п'есе) або пра сваркі з-за курэй (з'ява V),— яны самі пачуюць двухсэнсоўныя акцэнты ў інтанацыях і непатрэбныя паўзы.**

**Добра будзе, калі работнікі тэатра звернуць увагу на тое, як рэагіруюць юныя гледачы на спектакль. Яны пачуюць пашлаватыя выказванні-каментарыі хлопчыкаў да таго, што адбываецца на сцэне. Рэплікі дзейных асоб, якія гучалі са сцэны з «намёкамі» або з падвойным сэнсам далёка не высакароднага плана, паўтараюцца потым і ў фае, і на вуліцы.**

**«Прымакі» наогул чужыя ў рэпертуары Тэатра юнага гледача. Паслухайце толькі гэтыя амаль па дваццаць разоў паўтораныя «пілі... цалаваліся... пілі... цалаваліся»! Пачуццё меры страчана. Як і пры вымаўленні рэплік накшталт «Хоць я і невялічка, але добра ведаю, чаго хлопцам ад мяне хочацца!»**

**Упэўнена, што «Чаму ж мне не пець, чаму ж не гудзець...» нельга паказваць школьнікам. Тэатр пераблытаў адрас гэтай сваёй пастаноўкі. Спектакль супярэчыць намаганням школы выхоўваць у дзяцей высакародныя пачуцці, духоўнае хараство і добры густ. Каб на яго ішоў дарослы глядач, трэба, мабыць, хоць бы пачынаць не ў 18.30, а пазней у 19.30...**

**Крыўдна робіцца, калі слухаеш рэакцыю падлеткаў на тое, што яны тут бачаць і чуюць.**

**А. ШАБУНЕВІЧ.**

# У КАНТАКЦЕ З ЗАЛАЙ

*«ЧАЛАВЕК ЗБОКУ» І. ДВАРЭЦКАГА У МАГІЛЕЎСКІМ АБЛАСНЫМ ДРАМАТЫЧНЫМ ТЭАТРЫ*

Аляксей Чашкоў—малады, па-творчы няўрымслівы інжынер з п'есы І. Дварэцкага «Чалавек збоку» — не першы тэатральны сезон трыумфальна крочыць па сцэнах краіны, выклікаючы ў гледачоў шчырую цікавасць.

На сцэне Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра інжынер-металург Аляксей Чашкоў (арт. А. Рудакоў) у будні вялікай вытворчай фірмы ўваходзіць імкліва і, мы сказалі б, дзелавіта. Выканаўца ролі—у адпаведнасці з задумай рэжысёра спектакля Ул. Караткевіча — паказвае героя чалавекам, апантаным справай, непрымірымым да праяў коснасці і руціны. У гэтым чалавеку няма падкрэсленай манументальнасці, як гэта часамі бывае ў некаторых тэатрах. Не, ён чалавечны і можа быць строгім, але ўсмешка ў яго сапраўды нечакана па-дзіцячы адкрытая. Аб'ёмнасць вобраза, створанага А. Рудаковым, падкрэслівае рысы настойлівасці, нават напорыстасці, бязлітаснага стаўлення маладога камандзіра вытворчасці да абыякавасці, расхлябанасці людзей, разам з якімі яму даручана «выцягнуць» цэх з адстаючых.

Чашкоў на магілёўскай сцэне не герой-адзіночка, ён — паплечнік тых, хто гэтак жа змагаецца з застыласцю традыцый. Асабліва востра адчуваеш такога Чашкова ў эпізодзе, калі ён размаўляе са сваім былым начальнікам—дырэктарам Ціхвінскага завода Сапсакаевым (арт. В. Гусеў). Іх гутарка—увасабленне арганічнай сувязі двух пакаленняў металургаў, пераемнасці іх, разумення партыйных прынцыпаў кіраўніцтва старэйшага малодшым.

Верыш А. Рудакову і тады, калі яго герой нават у некаторай супярэчнасці са сваімі прынцыпамі спісвае недастачу, якая ўзнікла па віне яго папярэднікаў. І адчуваеш — такое рашэнне ідзе не ад уседаравальнасці ці мяккацеласці: Чашкоў умее «ўвайсці ў становішча» калегі, зразумець нават таго ж Граматкіна, свайго папярэдніка і, пэўным чынам, антыпода. Адным словам, А. Рудакоў стварыў вобраз неаднапланавы і тым пакарае гледача.

**У Магілёве ёсць свае металургі, адзін з іх, начальнік ліцейнага цэха завода «Строммашына» Рыгор Ляшчук пасля спектакля сказаў: «Я сёння гляджу спектакль другі раз. І зноў знайшоў нешта новае для сябе. Трынаццаць гадоў працую начальнікам цэха. Калі б такога Чашкова я ўбачыў тады, калі займаў сваю пасаду, то гэта было б нешта накшталт маральнага інстытута. Пасля спектакля хочацца яшчэ і яшчэ раз прааналізаваць сваю работу, знайсці свае недахопы, хочацца нешта пераняць ад героя. Спачатку Чашкоў падаваўся мне занадта строгім чалавекам, а сёння бачу, што якраз такі, які патрэбен цяпер на вытворчасці».**



Чашкоў — заслужаны артыст БССР А. Рудакоў, Сапсакаеў— артыст В. Гусеў.
Фота А. ГОЛЫША.

І ўсё ж А. Рудакову хацелася б пажадаць большай унутранай сабранасці. Артысту верыш тады, калі яго герой засяроджаны, а не тады, калі ў супярэчнасці з характарам персанажа, мітусіцца на сцэне, нервуецца. Няўжо гэта робіцца дзеля таго, каб Чашкоў выглядаў «цяплейшым»?!

У спектаклі па-рэжысёрску дакладна падкрэслена знітаванасць Чашкова з Рабініным. Іменна ж Рабінін яшчэ да з'яўлення Чашкова наносіць першы ўдар па аджылых традыцыях заводскай эліты. Артыст Ю. Труханаў у гэтай ролі лагічны і натуральны. Намеснік дырэктара фірмы ў Неражы Глеб Рабінін у яго прамы і шчыры, патрабавальны да крутасці, але тут няма смакавання «хамскіх» (паводле п'есы) паводзін і інтанацый. Здагадваешся, што гэты чалавек таксама металург па прызванні, любіць сваю справу. І сам Рабінін называе ў сябе хамствам толькі некаторую прасталінейнасць. У іх з Чашковым розныя метады, але па сутнасці яны імкнуцца да адной і той жа мэты і на адной заквасцы замешаны. Гэта і вызначае іх духоўнае яднанне ў завяршальных сцэнах спектакля. Добра, што Ю. Труханаў — эканамічны ў акцёрскіх фарбах, эмацыянальна сабраны на сцэне.

**Такой жа лаканічнасцю характарызуюцца вобразы Граматкіна (арт. С. Бульчык), Падключнікава (арт. Ф. Кустоў), Палуэктава (арт. С. Яворскі), Плужына (арт. М. Радзіёнаў), Валенціка (арт. В. Сівіцкі) і іншых, што надае спектаклю своеасаблівы «дзелавы» настрой — напружанасць канфлікту тут не ў нагнятанні эмоцый. Канфліктуюць розум і воля прыхільнікаў розных пунктаў гледжання на перабудову вытворчасці.**

Вялікае і важнае месца займае ў п'есе роля Ніны Шчогалевай—жанчыны, якая вырасла на мясцовых традыцыях, звязана лірыч-

# НА ЭКРАНЕ—ПОДЗВІГ

НАС, гледачоў, вельмі радуе, што беларускае кіно з кожным годам дасягае новых вышынь у асвятленні партызанскай барацьбы. Цяпер ужо можна гаварыць пра серыю фільмаў — кароткіх і поўнаметражных, у якіх ярка і змястоўна раскрываецца гэта гераічная тэма.

І вось выходзіць на экран стужка «Балада аб мужнасці і любві», створаная ў аб'яднанні «Летапіс» студыі «Беларусьфільм». Ужо адбыліся грамадскія прагляды яе ў Мінску і Маскве. Усюды ёй даюць высокую, па-мойму, заслужаную ацэнку. Так, былы камандуючы Першага Прыбалтыйскага фронту Маршал Савецкага Саюза І. Х. Баграмян сказаў:

— Беларускім дакументалістам удалося стварыць значны, маштабны фільм. Ён аднаўляе вобразнымі сродкамі слаўную старонку подзвігу народных мсціўцаў у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Думку савецкага палкаводца надзяляюць усе ўдзельнікі прагляду новага твора кінапубліцыстыкі.

Аб чым ён расказвае, з чым можна павіншаваць яго аўтараў?

Як вядома, вясной 1944 года рыхтавалася славутая «аперацыя Баграціён». У той час у розных раёнах рэспублікі былі моцныя партызанскія зоны, на якіх былі сканцэнтраваны дзесяткі брыгад, сотні атрадаў.

**Адной з такіх зон з цэнтрам у мястэчку Ушачы была Полацка-Лепельская. Буйнае партызанскае злучэнне ўзначальваў Герой Савецкага Саюза Уладзімір Елісеевіч Лабанок. Яшчэ ў пачатку 1944 года гэтая зона злілася з Барысаўска-Бягомльскай. Тут камандаваў сакратар Мінскага падпольнага абкома партыі, Герой Савецкага Саюза Раман Навумавіч Мачульскі. Такім чынам, партызаны кантралявалі значную частку тэрыторыі, на якой налічвалася звыш тысячы населеных пунктаў. Гэта стварала вялікую пагрозу для тылоў групы нямецкіх армій «Цэнтр», асабліва для 3-й танкавай. Фактычна ўсе яе «гарачыя» камунікацыі знаходзіліся пад пільным вокам партызан. Такое становішча не на жарты ўстрывожыла гітлераўскае камандаванне, асабліва ў сувязі з наступленнем Савецкай Арміі. Фюрэр загадаў любымі сродкамі адцясніць партызан ад прыфрантавой паласы і вывесці з-пад пагрозы тылы 3-й танкавай арміі.**

**Для правядзення гэтай аперацыі пад кодавай назвай «Веснавое свята» было прыцягнута некалькі дывізій з рэзерву групы армій «Цэнтр», дывізія бамбардзіровачнай авіяцыі, танкавыя і артылерыйскія часці, войскі СС, СД, брыгада здрадніка Камінскага і іншыя.**

**Былы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі, начальнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху П. К. Панамарэнка сведчыць, што баі ў Полацка-Лепельскай і Барысаўска-Бягомльскай зонах увесну 1944 супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў з'явіліся самай буйнай аперацыяй партызан за ўсю гісторыю Вялікай Айчыннай вайны. У тыле ворага быў, па сутнасці, створаны «другі фронт»... Вялікую мужнасць і гераізм праявілі партызаны, і выстаялі. У крытычны момант Полацка-Лепельскай зоне прыйшла на дапамогу брыгада «Жалязняк» з Барысава-Бягомльскай зоны, якая пачала наступленне на поўнач з разлікам прарваць кальцо акружэння і даць магчымасць партызанам і мясцовым жыхарам выйсці з ціскоў.**

**Так разгортваліся падзеі ў тыя незабыўныя гераічныя дні...**



*На гэтых здымках — кадры дакументальнага фільма «Балада аб мужнасці і любві».*



А цяпер паглядзім, наколькі аўтарам сцэнарыя А. Вялюгіну, М. Тараткевічу і рэжысёру-аператару І. Вейняровічу ўдалося расказаць аб гэтым ў кінастужцы «Балада аб мужнасці і любві». Яе багацце і абаяльнасць заключаецца перш за ўсё ў праўдзівасці, у непаўторных унікальных кадрах. Адкуль яны ўзяліся? Аказваецца, група энтузіястаў - кінааператараў прабралася ў варожы тыл да беларускіх партызан і праводзіла здымкі, як кажуць, на натуры.

Часта кінахранікёры плацілі за гэта жыццём, паміралі, як салдаты, а баявое заданне выконвалі. І сёння аўтары фільма аддаюць належнае ім. Сагрэтыя іх сэрцамі кадры ўвайшлі ў кінастужку, а пра саміх аператараў у цітрах сказана: М. Пісараў — загінуў у блакадзе, М. Сухава — загінула ў блакадзе...

Быў сярод партызанскіх аператараў і І. Вейняровіч. Яму пашчасціла. Зараз ён рэжысёр дакументальнага кіно. У новы фільм увайшлі не толькі ўласныя фрагменты, але і фрагменты яго баявых таварышаў па мастацтву. Знятае ў гады ваеннага ліхалецця становіцца сёння здабыткам мільёнаў людзей.

У той хроніцы мы бачым не адны пейзажы, выбухі на чыгуначным палатне, але і канкрэтных людзей, жывых выканаўцаў баявых аперацый, людзей з простым і ў той жа час цікавым і гераічным лёсам.

Такім, напрыклад, паўстае перад намі У. Е. Лабанок, партызанскі важак, буйны арганізатар, камуніст. На кінастужцы адлюстравана некалькі эпізодаў з яго баявой дзейнасці. Скажам, у цеснай сялянскай хаце Уладзімір Елісеевіч праводзіць нараду са штабнымі работнікамі напярэдадні аперацыі. На твары камандзіра ніякай разгубленасці, жалезная вытрымка, перакананасць, глыбокая вера ў перамогу. Аўтары гавораць пра яго сціпла, праўдзіва, цікава. Перад намі ўзнікае вобраз сялянскага хлопца, які вырас да партызанскага важака. Гэта характэрная, тыповая і разам з тым звычайная з'ява ў нашай рэчаіснасці. Само жыццё, калі гэта спатрэбіцца, нараджае мужных байцоў, абаронцаў, герояў.

**У фільме шмат хвалюючых кадраў. На экране паказана, як партызаны, рыхтуючыся да бою з фашыстамі, спяшаюцца вывезці на Вялікую зямлю дзяцей. Захопнікі збіраліся браць у іх кроў для сваіх параненых галаварэзаў. Але дзякуючы мужнасці пілота Мамкіна яны — будучыя інжынеры, урачы, настаўнікі, рабочыя — былі дастаўлены на прызначанае месца, хоць сам ён загінуў ад варожага асколка...**

**А па гэты, заходні, бок фронту ішла падрыхтоўка да рашаючага бою. Лінія партызанскай абароны працягнулася аж на дзвесце кіламетраў. Дэвіз для ўсіх быў адзін: біцца да апошняга патрона, стаяць насмерць, як стаялі сталінградцы.**

Заслуга аўтараў фільма яшчэ і ў тым, што яны здолелі паказаць моцную еднасць народа, яго бязмежную патрыятычную адданасць партыі і Радзіме. У сваёй барацьбе народныя мсціўцы не былі адзінокімі. Пра іх ведалі ў Маскве, у Стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, у штабе Першага Прыбалтыйскага фронту. Усюды наспяваў моцны і канчатковы ўдар па фашызму.

Многія кадры ўзрушаюць гледачоў. Нельга без болю глядзець, як на санчках, з небагатым скарбам, захутаўшы дзяцей ў што папала, жанчыны, старыя пакідаюць роднае жыллё, вёскі, якія немінуча будуць спалены карнікамі. З гісторыі вядома, што некаторыя жыхары спрабавалі заставацца дома, мяркуючы, што іх, старых, фашысты не зачэпяць. Людзі абманвалі сябе. Ратунку не было нікому. Той, хто выжыў, шмат чаму навучыўся. Адзінае выратаванне — ісці да партызан. Дужыя возьмуцца за зброю, а слабыя знойдуць тут надзейнае сховішча, прытулак, хоць не такі ўжо надзейны і не такі ўжо прытулак, бо з ўсіх бакоў набліжаецца пекла бою...

Варта адзначыць, што еднасць партызан і насельніцтва паказана ўдала і зноў-такі ў хранікальных кадрах. Сёння мы ўспрымем іх як гістарычны дакумент нашай эпохі.

**У «Баладзе аб мужнасці і любві» шырока адлюстравана братняя дружба савецкіх народаў. Як вядома, у Полацка-Лепельскай зоне, як і ў іншых злучэннях, былі атрады і брыгады смаленскіх і бранскіх партызан. Рускія браты прыйшлі на дапамогу беларусам. Паспяшаўся сюды, пад Полацк, і полк І. Садчыкава. Яго падначаленым быў юнак Ягораў, які потым праславіць нашу Радзіму, узняўшы сцяг перамогі над рэйхстагам і якому будзе прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.**

**Згуртаванасць усіх народаў, прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцей і з'явілася асноўнай крыніцай поспеху.**

Стваральнікі фільма на гэты раз маштабна раскрываюць стратэгію партызанскай вайны. Экран паказвае, што партыя арганізавала народныя сілы, і яны строга падпарадкоўваліся жалезнай ваеннай дысцыпліне, ваенным законам. І не менш выразна перададзена тое, што ў аснове ўсяго гэтага была высокая патрыятычная свядомасць савецкіх людзей.

Фільм — гэта плён настойлівай, па-творчы даследчай працы сцэнарыстаў Анатоля Вялюгіна і Міхася Тараткевіча, іх зладжанасці з рэжысёрам і ўсім здымачным калектывам.

Мы ведаем, што вынікам творчай садружнасці А. Вялюгіна і І. Вейняровіча з'явіліся ў свой час кінастужкі «Дарога без прывалу», «Балада аб маці», «Генерал Пушча», якія набылі шырокую папулярнасць не толькі ў нашай рэспубліцы. І вось «Балада аб мужнасці і любві», яшчэ адзін прыклад ваяўнічай кінапубліцыстыкі, дзе спалучаецца гістарычнае даследаванне з мастацкім асэнсаваннем рэчаіснасці.

**Праўда, калі параўноўваеш фільмы, зробленыя беларускімі дакументалістамі раней, з гэтым, апошнім, то ў вочы кідаецца такая аналічнасць. У іх (пры розных, канечне, сітуацыях) даволі часта паўтараюцца адны і тыя ж кадры.**

**Няхай даруе мне рэжысёр І. Вейняровіч такую заўвагу, але я ўбачыў у гэтай стужцы хроніку, знятую калісьці ў мясцінах, якія не маюць дачынення да Віцебшчыны, гэта значыць, да месца падзей, адлюстраваных у фільме «Балада аб мужнасці і любві».**

**Узнікае пытанне: ці можна вінаваціць рэжысёра і аператара за такія паўторы? Разумееш, што прычына тут ёсць: вельмі мала засталося дакументальных кадраў з таго гераічнага часу. Іх даводзіцца збіраць па кавалачках, праглядаць сотні метраў стужак, наб адабраць патрэбнае, бо, як вядома, у дакументальным кіно існуюць свае законы: не дапускаць нічога іграбога. Інакш губляецца сэнс дакументальнасці. Але і штучна «падганяць» хроніку з аднаго «аб'екта» колішніх здымкаў да чарговай тэмы, відаць, нельга. Гэта і павінны былі мець на ўвазе аўтары, якія маюць багаты вопыт у кінапубліцыстыцы. На гэты раз яны дазволілі сабе, хай і зрэдку, але адвольны мантаж вядомых кадраў.**

«Балада аб мужнасці і любві» — этап у распрацоўцы кінематаграфістамі гераічных старонак партызанскай эпапеі. Яе здабыткі, як і пэўныя пралікі творчага парадку, мабыць, будуць павучальнымі для тых, хто пойдзе ў гэтай распрацоўцы далей. Бо агульнае ўражанне стужка пакідае яркае, выклікае ўзрушаны роздум аб подзвігу народа ў вайну.

**Рыгор НЯХАЙ.**

---

ымі адносінамі з адным з камандзіраў вытворчасці Манагаравым. І яна таксама стане побач з Чашковым. У актрысы А. Барысавай Ніна сапраўды плоць ад плоці і кроў ад крыві тутэйшая, неражская. Паміж ёй і Чашковым спачатку адлегласць вялікая. І тут хацелася б бачыць **працэс нарастання** цікавасці да Чашкова. Пакуль што гэтага няма. На наш погляд, А. Барысава кладзе на свой вобраз крыху больш рэтушы, чым трэба, і таму, як і на фатаграфіі, рысы яго змазваюцца.

**Былому яе выбранніку Манагараву (арт. Л. Палонскі) у спектаклі ўласцівы мяккацеласць, імкненне да духоўнага і жыццёвага камфорту. Але толькі навошта надаваць яму неапраўдана непрыемныя рысы? Проціпастаўленне Манагарава Чашкову ў п'есе ідзе зусім па іншым кірунку. Сакрэт не ў тым, што ў Чашкова няма адмоўных якасцей, а ў Манагарава яны ёсць. Якраз сутыкаюцца мяккая воля аднаго з яснай мэтанакіраванасцю другога. Яны не традыцыйныя канкурэнты ў адносінах да Ніны, а розныя індывідуальнасці. Нейкія рысачкі саладжавасці — ці не ідуць у Л. Палонскага ад звыклых «амплуа» папярэдніх роляў і вобразаў?**

...Ёсць у спектаклі кульмінацыйная сцэна, вызначальная для ўсяго яго грамадскага гучання — «бунт камандзіраў». Адзін за адным заяўляюць Чашкову—Рудакову кіраўнікі вытворчасці аб сваім нежаданні працягваць работу з ім і пакідаюць яго. Рудакоў не звяртае ўвагі на гэтыя пратэсты, за ім — вера ў сваю справу. А месцы пусцеюць адно за адным... І вось — напружаная, красамоўная паўза. І тыя, хто застаўся (сярод іх і «пакрыўджаны» Граматкін і баязлівы Пухаў — Г. Аляксеюс), каб лепей чуць Чашкова, перасаджваюцца да яго бліжэй. На вачах гледача адбываецца згуртаванне тых, хто пойдзе за Чашковым, і выроўніванне тых, каму гняла душу ранейшая арганізацыя вытворчага працэсу.

Новае перамагае!..

І ў гэтым — сэнс спектакля, пастаўленага рэжысёрам Ул. Караткевічам. На нашу думку, ён правільна прачытаў п'есу і найбольш паспяхова ўвасобіў сваю задачу там, дзе выканаўцы іграюць неадназначна або карыстаюцца прасталінейнымі характарыстыкамі (як, напрыклад, М. Радзіёнаў) разумна і мэтазгодна.

**Алесь МАЖЭЙКА.**

# ЖЫВОЕ ДРЭВА...


М. ДАБРАНАЎ. «Араты».


С. ЖЫГОЛКІН. «Вясёлыя старыя».


А. МІХЕЕНКА. «Дрывасекі».


Ю. ЧАРНОЎ. «Казка».


Н. АЛЬШЭЎСКІ. «Буслы».


М. ПУПКО. «Хворы».

Фота В. ДУБІНКІ.

НАРОДНЫЯ разбяры... Звычайна гэта людзі душой і сэрцам адданыя свайму майстэрству, якія сцвярджаюць у ім сваё адчуванне прыгажосці. У іх розныя службовыя абавязкі, розныя прафесіі і тым не менш — яны мастакі. Мастакі па інтуіцыі, па адчуванню, па няўтольнаму жаданню расказаць людзям пра свой свет, пра яго прыгажосць. Праўда, у іх творах нельга шукаць дакладнай мадэліроўкі, правільных, з пункту гледжання прафесійнага мастацтва, суадносін частак і цэлага, бо ў народных мастакоў свае законы творчасці, сваё бачанне свету, свае традыцыі, якія не адно стагоддзе ўсталёўваліся, выкрышталізоўваліся з усяго мастацкага вопыту народа. Гэтым — непарыўнай сувяззю з эстэтычным ідэалам свайго народа і адметнае мастацтва сапраўднага народнага майстра, сапраўднага народнага мастака.

Майстэрства разьбы па дрэве на Беларусі ўрастае сваімі карэннямі ў сівую даўніну. З дрэва рабіў беларускі селянін сваю хату, з дрэва выразаў калыску для дзіцяці, драўлянай сахой араў зямельку-матухну, з дрэва рабіў амаль усе хатнія і гаспадарчыя прылады, дзіцячыя цацкі. І заўсёды, калі браў ён у рукі просты драўляны цурбачок і востры нож — задумваўся над тым, як зрабіць рэч больш прыгожай, як надаць ёй нейкія адметныя рысы.

За апошнія дзесяць—пятнаццаць год драўляная народная скульптура на Беларусі ўзбагацілася новымі жанрамі, а разам з імі і новымі стылістычнымі знаходкамі. Бытавы, анімалістычны жанр, казачны фальклор, героі літаратурных твораў ажылі ў дрэве, сведчачы пра тое, што беларускія разбяры-ўмельцы ўступілі ў якасна новы перыяд творчага пераасэнсавання спадчыны. Разбяры акунуліся ў сваю родную стыхію, якая заўсёды жывіла і жывіць народнае мастацтва. У гэты час з'явіліся адмысловыя скульптурныя групы А. Пупко, накшталт яго «Дзеда і бабы», «Лірніка» якія былі прасякнуты цёплым гумарам, сапраўднай мастакоўскай пільнасцю да рэчаіснасці, з'явіліся таленавітыя работы віцебскага майстра А. Міхеенкі «Гусляр», «Лявоніха», «Рыбак», у якіх ён узнавіў прыёмы народнай стылізацыі.

А. Міхеенка, як і А. Пупко, пазбягаў падабенства і мадэліроўкі ў іх натуралістычным разуменні, яго фігуры здзіўлялі незвычайным спалучэннем геаметрычных парэзак, камізмам дыспрапорцый. А. Міхеенка і сёння ўдала выкарыстоўвае характэрныя для яго творчасці прыёмы. На рэспубліканскай выстаўцы народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якая адбылася ў Мінску зусім нядаўна, з цікавасцю можна было пазнаёміцца з яго «Дрывасекамі», «Рыбаловамі», «Дзедам на адпачынку», «Музыкамі», «Дзедам Талашом», «Салдатамі рэвалюцыі». Але не ва ўсіх сённяшніх яго работах адчуваецца подых той упэўненасці ў сабе, нават, гарэзлівасці, якімі вызначаліся яго ранейшыя кампазіцыі.

Працуюць беларускія разбяры і ў жанры партрэта. На рэспубліканскай выстаўцы можна было пабачыць бюст У. Леніна работы П. Буслевіча, гарэльефныя партрэты Горкага і Руставелі М. Івінскага, бюст С. Прытыцкага, зроблены С. Быкам, і цудоўны абагулены вобраз народнага песняра - лірніка, выразаны маладым майстрам з Гродзеншчыны І. Астрамовічам.

У апошні час цікавыя работы з'явіліся ў жанры анімалістычным. Адлюстраванні звяроў, птушак, хатніх жывёл заўсёды былі характэрныя для творчасці народных разбяроў беларускага краю. Сёння папулярнасцю карыстаюцца фігуркі зробленыя самабытным майстрам В. Альшэўскім. Створаныя ім фігуры коней, ласёў, баброў, зубра, ваўкоў, мядзведзяў і іншых сапраўды ўражваюць. У іх ёсць тонкае адчуванне пластыкі і гармоніі. Вартасць работ В. Альшэўскага ў тым, што майстар захаваў тыя адносіны да жывёл, якія скланіся ў сялянскім асяроддзі. Захаваў і перадаў з тонкім гумарам і ненагойлівым замілаваннем.

У мінскага разбяра Н. Ерафеева — таксама галерэя анімалістычных вобразаў. Тут рысь, дзікі кот, вінтарогі казёл, архар, лось, казуля, зубрыха з зубранём, заяц, гарнастай, пясец — цэлы свет прыгожай дзічыны, які чаруе сваёй найтанчэйшай мадэліроўкай, ювелірнай тэхнікай апрацоўкі дрэва пад натуру. Глядзіш часам на архара ці казулю, і здаецца, што звер, спалоханы тваёй прысутнасцю, вось-вось скокне ўбок і ўцячэ.

Ёсць разбяры, якія абытаўляюць фауну. У А. Царкоўскага, напрыклад, ліса, мядзведзь і зайцы глядзяць тэлеперадачу, а мядзведзь Б. Васількова фатаграфуе зайца, які прыняў адпаведную позу на пні. Калгасны статак у сюжэтнай кампазіцыі «Сон старшыні калгаса» С. Гуткоўскага на сваім агульным «сходзе», «здымае стружку» са старшыні за яго нядбайнасць на жывёлагадоўчай ферме.

Можна было б прывесці шмат прыкладаў з творчасці разбяроў-анімалістаў, якія сведчаць аб шырокіх тэматычных, стылявых пошуках і ўдачах у гэтым жанры.

Бытавы і анімалістычны жанры акумуліравалі найбольш цікавыя творчыя ўдачы і знаходкі народных разбяроў. У творах гэтых жанраў вызначыліся стылістычныя прыёмы, больш за ўсё арганічныя народнай скульптуры. Ёсць у іх гратэск, гіпербала, адмысловая стылізацыя. Усе яны прасякнуты народным гумарам, цёплай усмешкай, а часам — і сатырычнай іроніяй, якая таксама закладзена ў прыродзе народнага мастацтва, глыбока аптымістычнага ў сваёй аснове. Многія работы — непаўторныя ўзоры адмысловай дэкаратыўнасці, якая становіцца сёння вельмі перспектыўнай тэндэнцыяй у народным разбярным майстэрстве. Чаму гэта тэндэнцыя пераважае сёння?

Справа ў тым, што амаль усе работы, створаныя ў народным разбярстве да 60-х гадоў, як правіла, станковага характару, прызначаліся ў асноўным для выставак і музейных экспазіцый, у той час як народная скульптура мае больш шырокае прызначэнне. Яна можа ўжывацца і для ўпрыгожання хатняга, грамадскага інтэр'еру. У эпоху тэхнічнага прагрэсу, калі стэрэатыпы займаюць у нашым жыцці ўсё большае месца, чалавек з асаблівай вастрынёй адчувае патрэбу ва ўнікальнасці, у вырабах, сагрэтых цяплом чалавечых рук і святлом яго фантазіі.

Можа, якраз таму так шырока ў апошні час раскрыліся перад самабытнай драўлянай мініяцюрай дзверы нашых кватэр, можа, якраз таму набылі папулярнасць арыгінальныя сувеніры, якіх шмат у спецыялізаваных і неспецыялізаваных магазінах і кіёсках. Можа таму, што попыт вялікі, а задаволіць яго дабраякаснымі рэчамі цяжка, не ўсё тое, што прадаецца у гэтых магазінах і кіёсках, задавальняе сапраўдныя эстэтычныя запатрабаванні.

Ды ці вінаваты ў гэтым народны разбяр?..

З работамі разбяроў лепей за ўсё знаёміцца на выстаўках, якія час ад часу праходзяць альбо у Мінску, альбо ў абласных цэнтрах. Пасля закрыцця выставак многія творы вяртаюцца аўтарам, а некаторыя набываюцца дамамі народнай творчасці альбо краязнаўчымі музеямі, у запасніках якіх і ляжаць потым гарамі мёртвага дрэва.

А што ж на прылаўках? А на прылаўках масавыя вырабы, якія гоняць у тыраж па эталонах не заўсёды якасных. Як жа лепш стымуляваць работу народных разбяроў, як падштурхнуць іх працаваць творча не ад выстаўкі да выстаўкі, а ўвесь час. Відаць, не апошнюю ролю у гэтай справе павінна адыгрываць і матэрыяльная зацікаўленасць.

На Украіне, напрыклад, увайшло ў звычай пасля закрыцця выстаўкі народнага дэкаратыўна - прыкладнога мастацтва тут жа арганізоўваць продаж экспанатаў. Ад пакупнікоў няма адбою, ды і майстрам прыемна, што іх рэчы выклікаюць такую цікавасць. Відаць, не менш аматараў народнай разьбы па дрэве знайшлося б і ў нас у Беларусі.

Неабходна падумаць і пра стварэнне такой арганізацыі, якая аб'ядноўвала б усіх народных майстроў, дапамагала б ім матэрыяламі, і прапагандай іх творчасці.

Такія ўстановы ёсць у Літве, Эстоніі і ў некаторых іншых рэспубліках. Яны сабралі найбольш таленавітых умельцаў у аб'яднанні, якія знаходзяць самыя разнастайныя формы заахвочвання творчасці і ініцыятывы ўмельцаў. Апраўдала б сябе такое аб'яднанне і ў нашай рэспубліцы. Прынамсі, была б створана вытворчая база, якая намнога палегчыла б працу разьбяроў. А то дайшло да таго, што разбяры, якія жывуць у горадзе, нідзе не могуць набыць патрэбны матэрыял. Інструмент, прыдатны для мастацкай разьбы, таксама стаў праблемай. У прыватным выпадку яго проста цяжка набыць.

Самае ж галоўнае — аб'яднанне захавала б унікальнасць мастацкіх твораў і саміх майстроў. Некаторыя разбяры сёння працуюць на фабрыках мастацкіх вырабаў, дзе многія з іх вымушаны «ствараць» мастацкія рэчы па чужых эталонах. А свае, у многіх выпадках сапраўды ўнікальныя творы пакрываюцца пылам у запасніках ці дома, у той час, як месца іх — у жылым або грамадскім інтэр'еры і на тых жа сувенірных прылаўках.

Многія стагоддзі жыве дрэва ў вобразах, створаных рукой скульптара-мастака. У эпоху тэхнічнай рэвалюцыі з'явіцца безліч пластычных матэрыялаў, якія, магчыма, заменяць гіпс, мармур, гліну, але нішто не заменіць дрэва.

Дрэва не памірае, бо калі да яго дакранаецца рука мастака, яно пачынае сваё другое жыццё у вобразах, створаных мастацкай фантазіяй, бессмяротнай прагай прыгожага.

**А. ЛЯВОНАВА,**
**мастацтвазнаўца.**

---

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ АРХІТЭКТАРАЎ



**КРЫВАНОСАВА Рэўміра Іванаўна.** Нарадзілася ў 1940 годзе ў Новасібірскай вобласці. Закончыла Новасібірскі інжынерна-будаўнічы інстытут. Працуе ў Мінскім абласным філіяле інстытута Белдзяржпраект. Удзельнічала ў распрацоўцы праектаў Ніжнекамскай, Кіраўскай, Уфімскай, Кастрамской цеплаэлектрацэнтраляў. Выканала праект рэканструкцыі Мінскага матоцыкла завода, будынка камбіната «Беларуськалій».



**КРЫВАШЭЕЎ Уладзімір Мікалаевіч.** Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Алма-Аце. Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе ў Мінскім абласным філіяле інстытута Белдзяржпраект. Па яго праектах пабудаваны шпіталь інвалідаў вайны ў Бараўлянах, водны басейн Акадэміі навук, 9- і 5-павярховыя жылыя дамы ў Мінску.



**КУЗЬМЕНКА Уладзімір Мікалаевіч.** Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Кастраме. Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе ў Інстытуце Белкамунпраект. З'яўляецца аўтарам праекта добраўпарадкавання г. п. Расоны, комплексу паркаў у Оршы. Удзельнічаў у праектаванні адміністрацыйнага будынка ў Мінску, у распрацоўцы рабочых чарцяжоў Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў.



**НОВАШ Ларыса Іванаўна.** Нарадзілася ў 1940 годзе ў Дзяржынску. Закончыла Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе ў Інстытуце Белніігіпрасельбуд. Удзельнічала ў праектаванні адміністрацыйных і гандлёвых будынкаў для раённых цэнтраў, калгасных і саўгасных пасёлкаў БССР. У аўтарскай садружнасці распрацавала праекты музычнай школы і спартыўнага комплексу.



**ПУТРАЎ Валянцін Георгіевіч.** Нарадзіўся ў 1934 годзе ў Мінску. Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе архітэктарам Цэнтральнага раёна г. Мінска. Па яго праектах забудоўвалася цэнтральная сядзіба калгаса «Новы быт» Мінскага раёна, мікрараён у Лагойску, пабудаваны прамысловы вузел у Чэрвені.



**САХНО Віктар Іванавіч.** Нарадзіўся ў 1938 годзе ў Херсонскай вобласці. Закончыў Днепрапятроўскі інстытут інжынераў транспарту. Працуе ў Мінскім абласным філіяле інстытута Белдзяржпраект. Распрацаваў шэраг праектаў забудовы гарадоў Данбаса, а таксама праекты забудовы цэнтральнай плошчы ў Чэрвені, тэхнічныя праекты мікрараёнаў у Дзяржынску і Стаўбцах.

ВЕКАПОМНАЕ

# Радкі на турэмнай сцяне

Ул. МЯЖЭВІЧ

— НЕ, НЕ САГНУЦЬ фашыстам наш народ, — з хваляваннем сказала Таццяна Канстанцінаўна. — Вы, дзеткі, убачыце, як будуць бегчы немцы, як іх насцігне суровая кара...

Вяртаючыся на пошту, дзе кожны дзень Поля Зуева з агідай штампялявала пісьмы, пакавала і афармляла пасылкі, выдавала і прымала заказную карэспандэнцыю, дзяўчынка думала пра словы Таццяны Канстанцінаўны. Якая яна добрая і клапатлівая. Выгадавала аж сямёра дзяцей. А вось Поля расла сіратой. Ёй было тры гады, калі сухоты заўчасна звялі ў магілу татку — салдата, які ў сырых і халодных акопах першай сусветнай і грамадзянскай войнаў правёў шмат год. А потым памерла і маці.

У сям'і Андрыеўскіх Паліна адчувала сябе так, нібы яна была малодшай дачкой Таццяны Канстанцінаўны, сардэчная дружба звязвала яе з названымі братам і сястрой — Віктарам і Вандай. Яны працавалі на запалкавай фабрыцы і часта расказвалі Паліне пра тое, як сабатуюць загады фашыстаў, выводзяць, дзе могуць, са строю абсталяванне.

— Вось бы і мне куды на сапраўдную справу, — сказала яна аднойчы сябрам.

— Не спяшайся, пачакай, можа быць і на пошце ты зможаш прынесці карысць нашай справе, — пачаў адгаворваць Віктар.

Яна абурылася.

— Замест аднаго класці два штэмпелі на пісьмы праклятых фрыцаў?

— Там не толькі штэмпелі...

— А што? Пасылкі рабаўнікоў... Не, абрыдла, больш не магу. Пайду на дрэваапрацоўчы камбінат, там, кажуць, патрэбны рабочыя.

— Там патрэбны людзі на падкатку бярвенняў. Ад рэчкі да пілара́мы. Але ж гэта работа не па тваіх сілах, Поля. Не кожны дужы мужчына вытрымае.

— А я вытрымаю!

ШЭФ КАМБІНАТА гаўптман Гольдман шукаў на свой асабісты «Опель-капітан» надзейнага шафёра з цывільных. Нехта яму параіў узяць Анатоля Бінкіса. Добры механік, вопытны шафёр.

—Сваякі ў яго ёсць? — запытаў Гольдман.

— Сястра тут жыве, — далажылі шэфу. — У яе муж і васьмёра дзяцей. Усе дарослыя.

— Даўно тут жывуць?

— Даўно. У першую сусветную вайну былі ў бежанцах і аселі ў Барысаве. Самі яны з Літвы. Некалі Андрунасамі зваліся.

— Цікава, — сказаў Гольдман. — Хачу пабачыць гэтага Бінкіса.

Неўзабаве перад шэфам стаяў высокі, з волатаўскімі плячыма чалавек. Стаяў і разглядаў Гольдмана. Погляд смелы. У постаці незалежнасць. Такія людзі ведаюць сабе цану.

— Камуніст? — тыцнуў яму шэф пальцам у грудзі.

— Не.

— Карашо. А машыну ўмееш вадзіць?

— Я шафёр першага класа.

— Будзеш працаваць у мяне на «Опель-капітане». Ты рады?

— Вядома. Працаваць на легкавушцы лепш, чым на грузавіку.

— А да партызанаў мяне не завязеш? — спытаў гаўптман і сам зарагатаў. Потым ляснуў Бінкіса па плячы. — Гэта жарт. Бачу, што ты сур'ёзны і добры чалавек. О, я псіхолаг! Мяне сам чорт не ашукае!..

НА КАМБІНАЦЕ дзейнічала група падпольшчыкаў, якой кіраваў Іван Фёдаравіч Субоцін, інжынер, масквіч. Полю з ім пазнаёміў Віктар.

— Увесь час просіцца на справу, — сказаў Віктар Субоціну.

— Добра, улічым. Сябруеце?

— Сябруем, — шчыра прызнаўся Віктар. — Яна цудоўная, але вельмі парывістая, неасцярожная...

На падкатцы бярвенняў Поля не адставала ад сваіх сталых суседак. К канцу змены так стамлялася, што ледзь трымалася на нагах. Але была задаволена, што працуе ў рабочым калектыве. А хутка яна даведалася, што падпольшчыкі рыхтуюць Гольдману «падарунак».

Усе тры пілара́мы працавалі дзень і ноч. Камбінат штодзень выдаваў сотні кубаметраў дошак і бруса. Лес грузілі ў вагоны і везлі ў Германію. А Гольдману ўсё было мала. Ён браў з мясцовага шталага людзей і прымушаў зняволеных працаваць па дзве змены. Многія не вытрымлівалі такой катаргі і валіліся, як снапы. Наглядчыкі падымалі іх бізунамі. Поля бачыла, як людзей забівалі насмерць.

Аднойчы каля штабеляў Поля сустрэла Івана Фёдаравіча. Прыпыніла яго.

— Колькі можна чакаць? Нельга далей цярпець здзекаў! Трэба спыніць адгрузку дошак! Няўжо мы не можам узняць у паветра пілара́мы?

— Можам, Палінка, можам, але не хапае надзейных людзей. Трэба перанесці ўзрыўчатку, а пры такой ахове гэта не проста.

— Глупства! Даручыце мне!

У позірку Паліны было столькі рашучасці, што Іван Фёдаравіч паспяшаўся сказаць:

— Добра, Палінка, мы ўлічым тваю згоду...

Хутка адна за адной адбыліся падзеі, якія ўскалыхнулі ўвесь Барысаў.

БІНКІС — шафёр Гольдмана — прызнаўся аднойчы сябрам, што ў яго пачынаюць рукі свярбець, калі ён бачыць паблізу свайго шэфа.

— А ты яго звязі да партызан, — ціха шапнуў яму Рыгор Носаў, які быў звязаны з барысаўскім падполлем.

— Куды? — выдыхнуў Анатоль Канстанцінавіч.

— Скажаш яму, што на ўскраіне горада жыве адзін добры самагоншчык. Маўляў, гоніць выдатны шнапс. Запрашае шэфа на дэгустацыю. Мы яго так пачастуем, што ён прачнецца толькі праз дзень. Можна завезці не толькі ў лес, а хоць у Маскву.

Так яно і здарылася.

Бінкіс пры дапамозе Рыгора Носава завёз п'янага Гольдмана ў партызанскую брыгаду Лапаціна. Назаўтра немец толькі расплюшчыў вочы і адразу зароў:

— Бінкіс, дзе ты там! Хутчэй — піва!

У адказ пачуўся выбух рогату.

Зірнуў, а перад ім людзі з чырвонымі стужкамі на шапках, з вінтоўкамі ў руках. Няўжо партызаны?

Ад жаху Гольдман заплюшчыў вочы. Думаў, што гэта сасніў. Тут жа стаяў Бінкіс. Па яго твары блукала ўсмешка. Успомніў, як шэф, наймаючы яго на працу, спытаў, ці не завязе яго шафёр да партызанаў. Нібы ў ваду глядзеў.

ПАДПОЛЬШЧЫКІ, сярод іх была Поля Зуева, закончылі падрыхтоўку да дыверсіі. Надышла рашаючая ноч.

У тую ноч Серафіма Трусава вазіла ад пілара́мы на тачцы пілавінне. Стомленая, спынілася на хвіліну. Зірнула як у тумане патанае рака, лес на тым беразе. Там было пачала прабівацца вузкая палоска світання, але туман хутка схаваў яе. Сіма цяжка ўздыхнула і зноў пакаціла сваю тачку. Пачала шуфлем насыпаць пілавінне. Узняла вочы, а перад ёй стаіць электрык Алесь Кудрэвіч.

— Ідзі адсюль, Сіма! — загадаў Кудрэвіч.

— Куды?

— Як мага далей.

— А чаму?

— Бяжы хутчэй, не пытай!

— Дасыплю тачку...

— Кідай тачку, неразумная баба, і спяшайся, калі табе дорага жыццё, — падштурхнуў Трусаву Кудрэвіч.

Трусава адбеглася метраў за трыста, схавалася за штабялямі. Тут якраз і грымнуў выбух. Задрыжэла зямля, заварушыліся, як жывыя, штабелі бярвенняў, у неба шугануў фантан полымя.

БОЛЬШ за шэсць месяцаў гітлераўцы аднаўлялі камбінат. Гестапаўцы лютавалі. Адной з першых схапілі Зуеву, пасадзілі ў мясцовую турму. Ванда Андрыеўская была яшчэ на волі. Разам з маці, Таццянай Канстанцінаўнай, сабралі перадачу, панеслі ў турму. Ім пашчасціла не толькі перадаць Полі прадукты, але нават пабачыць яе. Поля, падцягнуўшыся на руках, выглянула ў акенца, нешта крыкнула ім, але слоў было не разабраць. Паліцаі адагналі ад турмы Андрыеўскіх.

Праз тры дні Таццяна Канстанцінаўна зноў панесла перадачу, але яе не прынялі. Сказалі наглядчыкі, што Зуеву перавезлі ў нейкую іншую турму.

У Барысаве на той час ужо ведалі, куды перавозілі вязняў. Перавозілі іх туды, адкуль не вяртаюцца. Расстрэльвалі патрыётаў за горадам, у лесе.

...Віктар пакутліва перажываў гібель сваёй сяброўкі. Прыходзіў дахаты пануры, засяроджаны. Маці з трывогай углядалася ў твар сына. Аднойчы Віктар вымавіў:

— Каб я змагаўся супраць фашыстаў, дык так проста не трапіў бы ў іх рукі...

Маці паглядзела ў вочы спачатку сыну, потым дачцы. Яны адмоўна крутанулі галовамі. Маці ведала, што гэта святая хлусня. Дзівакі, стараюцца яе заспакоіць. Няхай сабе думаюць, што яна нічога не ведае.

Калі ж схапілі і расстралялі Віктара, Таццяна Канстанцінаўна сказала Вандзе:

— Я, дачушка, ведала, што наш Віця хадзіў той жа сцежкай, што і Поля.

НА ЗАПАЛКАВАЙ фабрыцы працаваў даўні сябра сям'і Андрыеўскіх Фама Фішараў. Не пазбегнуў і ён лёсу іншых падпольшчыкаў. Здарылася так, што ён трапіў у тую ж камеру № 16, дзе сядзела Поля Зуева.

На каменнай сцяне Фама знайшоў надпіс, зроблены крывёю. Ён прыглядзеўся да роўных радкоў, выведзеных нібы на ўроку чыстапісання. Фаме ўдалося не толькі прачытаць надпіс, але перадаць на волю запіску, у якой быў прыведзены тэкст. Вось ён:

«Дарагія таварышы!

Я не шкадую, што паміраю маладая, а шкадую, што так мала зрабіла для Радзімы. Бывайце! Перадайце прывітанне майму брату, які для мяне быў бацькам і маці. Поля Зуева».

Прайшло шмат год. У 1965 годзе я надрукаваў заметку ў адной маскоўскай газеце, дзе расказаў пра апошні рэйс гітлераўца Гольдмана. Успомніў там пра Полю Зуеву.

Неўзабаве рэдакцыя пераслала мне пісьмо маёра запаса М. Д. Зуева. Ён паведамляў, што ў 1939 годзе ў Барысаве пакінуў сваю сястру Паліну. Прывёз яе сюды зусім малую з Калінінскай вобласці, пасля смерці маці. Поля жыла з ім, вучылася ў школе.

Калі падрасла — пайшла працаваць на пошту і працягвала вучобу ў вячэрняй школе. Фінская, а потым Айчынная войны, разлучылі яго з сястрой. І тут раптам артыкул у газеце... Няўжо гэта яго Поля, яна ж была кволая, баязлівая дзяўчынка... Ён прасіў удакладнення.

А можа сапраўды гэта была іншая Поля Зуева?

Мае сумненні адразу рассеяла Ванда Мацвееўна Андрыеўская.

— Тая самая, — сказала яна. — Брат Полі служыў у авіяцыі. У 1939 годзе яго перавялі з Барысава некуды на поўнач, а там хутка пачалася вайна з белафінамі. Яны згубілі адзін аднаго.

Чытач можа запытаць, — а што адбылося з Вандай Андрыеўскай, як уцалела яна ў той страшэннай навале?

Ванда Мацвееўна прайшла цяжкі шлях. Ён пачаўся ў Барысаўскай турме, а скончыўся ў лагеры смерці Асвенціме. Вызваленая нашымі салдатамі, яна вярнулася ў родны Барысаў. Не знайшла ні бацькі, ні маці — іх расстралялі фашысты. Многа іншых страт панесла іх вялікая сям'я. Але Андрыеўскія жывуць. Растуць дзеці Ванды, яе сясцёр. У горадзе шырока вядома гэтае прозвішча. Жыве ў памяці людской Поля Зуева, яе словы, напісаныя ўласнай крывёю.

З АРХІЎНЫХ ПАЛІЦ

# «З САМАЙ СУР'ЁЗНАЙ УВАГАЙ...»

*Ю. ТАРЫЧ ПІША С. ЭЙЗЕНШТЭЙНУ*



К. Елісееў зрабіў гэты малюнак з юнака С. Эйзенштэйна ў 1920 годзе ў Беларусі. Вось чаму мы разглядаем яго як каштоўную рэліквію.

Перш чым пазнаёміць чытачоў з двума лістамі першага беларускага кінарэжысёра Ю. В. Тарыча да С. М. Эйзенштэйна, хочацца прыгадаць, што гэта не адзіныя факты, якія гавораць аб сувязях сусветна вядомага кінематаграфіста з нашай рэспублікай.

Добраахвотна ўступіўшы ў рады Чырвонай Арміі ў сакавіку 1918 года, тэхнік, а потым прараб С. Эйзенштэйн апынуўся ў Полацку. Менавіта тут (май 1920 года) ён пераходзіць у распараджэнне тэатральнай часткі палітаддзела Заходняга фронту, упершыню па-сапраўднаму мае магчымасць далучыцца да мастацтва. Затым у Магілёве ён спрабуе стварыць паказальны франтавы тэатр. У пачатку жніўня дваццацідвухгадовы Эйзенштэйн у якасці мастака-дэкаратара пераязджае ў Мінск, дзе разам з рэжысёрам, мастаком і акцёрам К. Елісеевым прымае ўдзел у пастаноўцы на сцэне БДТ-І (цяпер тэатр імя Я. Купалы) спектакля «На дне». Адначасова на станцыі Мінск яны распісваюць агітвагоны, якія праз некалькі дзён накіруюцца на фронт.

У жыцці і творчасці Эйзенштэйна хвалюе кожная дробязь. На адным яго малюнку, які рэжысёр падарыў К. Елісееву, можна вельмі выразна прачытаць не толькі тэкст: «Дарагому маэстра, у знак таго, што я ніколі не забуду таго, што ім для мяне зроблена. Душэўнае дзякуй. Не забуду ніколі», але і месца дзеяння, дату: «Мінск, 25/IX-20 г.»

Дарэчы, гэтыя радкі адрасаваны таму самаму К. С. Елісееву, з якім шмат гадоў сябраваў Янка Купала.

Пра знаходжанне ў Мінску С. Эйзенштэйн пакіне аўтабіяграфічны запіс. Так і хочацца яго назваць вершам у прозе.

*«Памятаю ноч у Мінску...*

*Мастак перасоўных франтавых груп, ускудлачаны качаецца на ложку. Мастаку трэба зрабіць самае непрыемнае ў жыцці, трэба прыняць кардынальнае рашэнне — чым быць і як быць. Я ведаю, як мастаку цяжка. Бо мастак гэты — я.*

*Бяссонная ноч.*

*Я ліхаманкава качаюся ў ложку...*

*Да раніцы рашэнне гатова.*

*Паламаны шлях, клапатліва прызначаны бацькоўскай рукой.*

*Хамут парваны..*

*Жэрабя кінута...»*

4 чэрвеня камісія Прэзідыума Цэнтральнага выканаўчага камітэта СССР у сувязі са святкаваннем 20-годдзя рэвалюцыі 1905 года вынесла рашэнне пра пастаноўку Эйзенштэйнам фільма «1905 год» (хутка вызначыцца новая назва, якую ведае зараз ўвесь свет — «Браняносец «Пацёмкін»!).

Высветліўшы, што два яго асістэнты А. Антонаў і А. Леўшын знаходзяцца ў гэты час у

# ДАРОГА БЕЗ ПРЫВАЛУ

ЛЮБІМЫЯ ПЕСНІ заслужанага артыста БССР Барыса Паўлавіча Макарава — пра вайну. Вось і цяпер ён ціхенька цягне: «Эх, дарогі, пыл ды туман...». Старая песня пра цяжкія паходы, пра сяброў, што не вярнуліся з вайны...

У далёкім сорак трэцім на адзін з палявых аэрадромаў прыехаў франтавы ансамбль песні і танца. Калі скончыўся канцэрт, да кіраўніка ансамбля Аляксандра Фёдаравіча Усачова падышоў невысокі каржакаваты салдат у форме аэрадромнай службы і папрасіў праслухаць яго. Праспяваў адну песню, другую... Пахваліў Аляксандр Фёдаравіч. З тае пары і звязаў свой лёс з ансамблем Барыс Паўлавіч Макараў.

— Бягуць гады,— задуменна гаворыць ён,—толькі, здаецца, быў новенькім у ансамблі, а не прыкмеціў, як стаў ветэранам. Жартачкі, трыццаць гадоў... Мяне жывой гісторыяй ансамбля называюць.

...Дата нараджэння ансамбля — 17 лютага 1938 года. У гэты дзень адбыўся першы яго канцэрт у адным з ваенных шпіталяў. Арганізаваў калектыў Аляксандр Фёдаравіч Усачоў — цудоўны музыкант, дырыжор, чалавек апантаны, улюбёны ў мастацтва. За які год-два ансамбль ператварыўся ў першакласны калектыў. У 1940 годзе ён прымаў ужо ўдзел у першай Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве.

Потым грымнула вайна, і ў першыя ж дні ваеннага ліхалецця ансамбль Заходняй ваеннай акругі пачаў называцца франтавым. Прайшоў ён ваеннымі дарогамі ад Масквы да Кенігсберга...

Расказвае Барыс Паўлавіч, як выступалі ў пасляваенным разбураным Мінску, іншых гарадах рэспублікі. У 1954 годзе запрасілі ансамбль у Маскву, дзе ён выступаў на свяце, прысвечаным 300-годдзю ўз'яднання Расіі і Украіны. Праз год—зноў маскоўская сцэна. На гэты раз — II Дэкада беларускага мастацтва. Былі потым паездкі ў Прыбалтыку, Польшчу...

...У калоннай зале Акруговага дома афіцэраў грыміць аляксандраўская «Свяшчэнная вайна». Ансамбль рэпеціруе новую вакальную сюіту на тэмы песень грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Аўтар сюіты—мастацкі кіраўнік ансамбля народны артыст Узбекскай ССР Віктар Іванавіч Смыслоў.



Саліст ансамбля, заслужаны артыст Беларускай ССР Б. Макараў.



Саліст ансамбля, заслужаны артыст Казахскай ССР Т. Віхашэрстаў.



Салістка танцавальнай групы Н. Струева.

— «Апрабавалі» гэтую сюіту, — расказвае ён,—на вельмі адказных і дасведчаных слухачах—удзельніках Усесаюзнага семінара лектараў таварыства «Веды» па ваенна-патрыятычным выхаванні працоўных. Прымалі нас вельмі добра.

Мы просім Віктара Іванавіча расказаць, з чаго складаецца рэпертуар ансамбля.

— Калі гаварыць пра вакальную частку, дык гэта ў асноўным песні савецкіх кампазітараў аб партыі, патрыятызме, воінскай доблесці. Сярод іх песня С. Тулікава «Мы людзі ленінскай эпохі», Э. Калманоўскага «Я цябе ніколі не забуду», К. Акімава «Песня аб рускім салдаце». У рэпертуары ёсць некалькі і маіх песень: «Служу Савецкаму Саюзу», «Сталі танкі на прывале», «Песня аб партыі» і інш. Не бывае канцэрта, на якім мы не выконвалі б твораў беларускіх кампазітараў. Гэта і «Верасы» І. Лучанка, і «Расцвітай, Беларусь» Ю. Семянякі, «Суседкі» І. Кузняцова і інш.

У рэпертуары харэаграфічнай групы—салдацкія танцы, танцы народаў СССР...

За час свайго існавання ансамбль выхаваў нямала выдатных спевакоў і танцораў. Гэта ў першую чаргу такая зорка савецкага вакалу, як народны артыст СССР Мікалай Ворвулеў. Гэта вядомыя ў краіне спевакі, заслужаныя артысты РСФСР Іван Картавенка, Юрый Васілеўскі. Спяваў у свой час у ансамблі лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Валерый Кучынскі. Атрымалі пачэсныя званні заслужаных артыстаў БССР Барыс Макараў, Георгій Светашаў, Якаў Яравы, якія і сёння служаць армейскай музе.

Ну, а моладзь? Ёсць тут і таленавітая моладзь, якая пераймае майстэрства старэйшых таварышаў, традыцыі ансамбля. Гэта салісты ансамбля спевакі Іван Рудэнка, Фёдар Буровін, танцоры Раіса Навіцкая, Зінаіда Гарбушына, Аляксандр Шэлехаў, Павел Ясеў і інш.

...«Ходили мы походами в далекие края»—спявае армейскі хор. Маладыя, прыгожыя хлопцы. У далёкія ваенныя паходы хадзілі іх бацькі і дзяды. Нямала дарог, мірных дарог за плячыма і ў хлопцаў з чырвонымі пагонамі на плячах. Але і гэтыя дарогі — без прывалу.

**М. ЗАМСКІ.**

# ЮТА

(Заканчэнне. Пачатак на 6 і 7 стар.)

А потым? Рыбакі ўзбунтаваліся, што ім мала плацяць грошай, забаставалі. Ля прычалаў панура стаялі чаўны, — ніхто не пайшоў у мора. Не было завошта купіць хлеба. Жанчыны трывожна пазіралі на рыбакоў, якія збіраліся ў гурт, мітынгавалі. Ноччу прыехала паліцыя, арыштавала бацьку Юты. Сям'ю выкінулі з барака...

З клункамі за плячамі Юта і маці ішлі па пыльнай дарозе, ішлі ў вялікі горад. Там жылі сваякі, якія дапамогуць у бядзе. Юта прывыкла жыць ля мора, не хацела ісці ў горад...

Да горада яны так і не дайшлі. На дарозе іх сустрэлі магутныя танкі з чырвонымі зоркамі на вежах. Вясёлыя хлопцы ў зялёным адзенні частавалі іх хлебам і цукрам, параілі вярнуцца назад, у сваю вёску...

І яны вярнуліся. Прыйшлі, а там іх чакае бацька. Зноў падхапіў дужымі рукамі Юту, паказаў мора: «Цяпер яно наша, Юта. Наша!» Радаваліся ўсе рыбакі, бо старое начальства збегла за граніцу, і цяпер яны самі сабе гаспадары.

Восенню Юта пайшла ў школу. Ёй даўно трэба было хадзіць у школу, але пры панах у іхняй вёсцы школы не было, а ў горад пасылаць дзяцей на вучобу каштавала дорага. Саветы ж адкрылі школу ў вёсцы, для ўсіх дзяцей, і зусім бясплатную. Мама пашыла Юце новую сукенку, бацька купіў партфель... Гэта быў самы шчаслівы год у яе жыцці...

Затым пачалася вайна. Юта ўжо ведала, чаму фашысты напалі на Савецкі Саюз,—яны хацелі, каб у Эстонію зноў вярнуліся паны і багацеі, каб зноў на іх працавалі простыя людзі, каб зноў закрыць школу, а бацьку пасадзіць у турму... А бацька не жадаў садзіцца ў турму, не хацеў, каб Юту выгналі са школы. Таму і ўзяў у рукі вінтоўку, пайшоў абараняць Савецкую Эстонію.

Юта з мамай селі ў поезд і паехалі ў Расію. Поезд уцякаў ад вайны на ўсход. Вайна яго даганяла,—наляталі самалёты з чорнымі крыжамі, бамбілі эшалон...

Расія вялікая. Ехалі дзень, другі, трэці... І лік згубілі. Усё ж заехалі туды, куды не змаглі далятаць фашысцкія самалёты. Там няма мора, няма лесу. Адзін стэп. Юта з мамай ніяк не маглі прывыкнуць, — яны ж патомныя рыбакі. Мама пачала распытваць у людзей, дзе паблізу ёсць вада. Ім параілі ехаць на Аральскае мора: там—рыбацкія саўгасы, патрэбны людзі. І яны паехалі.

Аральскае мора не такое, як Балтыйскае. І вада там жоўтая. Але ўсё ж—вада. Навокал рыбай пахне.

Бацька не ведаў, дзе яны, не мог прыслаць нават пісьма. Маці пачала шукаць яго, прасіла суседзяў, каб пісалі запросы. На другі год вайны прыйшоў адказ, паведамілі, што бацька загінуў смерцю храбрых пры абароне Ленінграда...

Маці галасіла. Плакала і Юта. Ад гора маці захварэла і хутка памерла. Там, на беразе Аральскага мора, яе і пахавалі...

Юта засталася адна. Добрыя людзі не далі загінуць. Пачуў пра яе гора зямляк дзядзька Юхан, які таксама быў закінуты вайной на Арал, працаваў у суседнім рыбгасе. Прыехаў, забраў Юту. Сам ён часта хадзіў у мора, не мог глядзець за дзяўчынкай, перадаў яе цётцы Керсці. Цётка Керсці і стала яе другой маці, выхоўвала, пакуль Юта не вырасла і пайшла на свой хлеб. Вясёлая яна, цётка Керсці, і добрая. Колькі начэй не даспала, каб Юта была накормлена і адзета, скончыла школу. І цяпер, калі Юта зарабляе грошы, жыве асобна, яна нічога не робіць, не параіўшыся з цёткай Керсці, дзеліцца з ёй сваімі думкамі і марамі.

— Пра цябе расказваю ёй. Як ты любуешся мной, гладзіш мае рукі...

— І што цётка Керсці?

— Радуецца. Кажа: «Ты шчаслівая, Юта, — цябе кахаюць». Яе ж першае каханне разбіла вайна. Жыве яна са сваім Хансам мірна, як яна кажа, дзеля дзяцей. А іх у яе трое, і ўсе хлопцы. Такія вясёлыя і харошыя, як яна сама...

# ШАНУЮЧЫ ПЕСНЮ

На сцэне — віноўнікі ўрачыстасці, удзельнікі народнай харавой капэлы Магілёўскага гарадскога дома культуры, якой споўнілася 25 гадоў.

...Было гэта ў далёкім 1947 годзе. Горад яшчэ ляжаў у руінах. І ў гэты цяжкі час у маленькім халодным пакойчыку абутковай фабрыкі сабраўся невялічкі калектыў аматараў харавога спеву. Першым кіраўніком яго быў Аляксандр Мысаў.

Першае выступленне хору адбылося на ўрачыстым сходзе прадстаўнікоў грамадскасці горада, прысвечаным 30-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Сотні канцэртаў, тысячы ўдзячных слухачоў. Капэла становіцца флагманам харавога спявання на Магілёўшчыне, яе канцэрты заўсёды збіраюць шырокую аўдыторыю. Калектыў—нязменны ўдзельнік гарадскіх, абласных і рэспубліканскіх аглядаў мастацтва. У 1962 годзе капэле прысвоена ганаровае званне народнай.

Тры разы на тыдзень збіраюцца спевакі на рэпетыцыі. Майстэрства заваёўваецца вялікай працай, энтузіязмам, улюбёнасцю ў песню. У капэле спяваюць людзі розных узростаў, прафесій. 76-гадовы Міхаіл Купрыянавіч Каранковіч і маладая настаўніца Алена Курачкіна. Сёстры Галіна і Людміла Сакаловы, браты Юрый і Якаў Кічкероўскія.

15 год працуе тут канцэртмайстрам Уладзімір Шчэрба, а яго жонка Людміла спявае ў хоры. Капэла ганарыцца сваімі салістамі А. Жукавай, А. Галубовічам, Л. Мільхманам, Э. Шыманоўскім. За апошні год у калектыў прыйшла здольная моладзь В. Хомчанка, Б. Басок. Людміла і Аляксандр Хлімановічы і іншыя.

Год назад калектыў узначаліў Аляксей Бянько — загадчык харавога аддзялення Магілёўскага музычнага вучылішча.

Але вернемся да вечара. Пра творчы шлях капэлы, яе актыўную канцэртную дзейнасць расказаў загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Магілёўскага гаркома партыі Уладзімір Пракапенка. Старэйшы калектыў шчыра віталі прадстаўнікі партыйных, савецкіх арганізацый, навучальных і культурных устаноў, прадпрыемстваў горада. Актыўным удзельнікам капэлы былі ўручаны ганаровыя граматы Міністэрства культуры, абкома партыі і аблвыканкома, гаркома КПБ, абласнога ўпраўлення культуры. Былі таксама ўручаны памятныя сувеніры, кветкі.

**Я. КАЛЯДА.**

здымачнай групе фільма «Першыя агні», якую ўзначальваў Ю. Тарыч, С. Эйзенштэйн просіць яго адпусціць вельмі патрэбных яму супрацоўнікаў. Ліст Эйзенштэйна не знойдзены. Захаваўся толькі адказ на яго.

*«Глыбока паважаны Сяргей Міхайлавіч!*

*Да вялікага жалю Антонаў заняты ў мяне ў вельмі адказнай ролі, на якую ў працэсе распрацоўкі сцэнарыя мелі на ўвазе менавіта яго.*

*Замяніць артыста ў дадзены момант зусім няма кім. Так што і вызваліць яго дырэкцыя не згаджаецца.*

*Адносна т. Лейшына—справа працей. Яго можна адпусціць. Прашу лічыць, што для пытання... (у гэтым месцы неразборліва — І. Р.) Вамі аднёсся з самай сур'ёзнай увагай.*

*Цісну Вашу руку.*

*З павагай да Вас Юр. Тарыч.*

*24 VI-25г.».*

Характэрна, што Ю. Тарыч як рэжысёр прыклаў усе намаганні, зрабіў усё магчымае і немагчымае, каб хутчэй вызваліць ад здымак у сваёй карціне Аляксандра Антонава, які праславіцца потым у фільме «Браняносец «Пацёмкін» не толькі як асістэнт С. Эйзенштэйна, але і як выканаўца ролі матроса Вакулінчука.

Другі ліст — ад 10 кастрычніка 1932 года.

*«Дарагі Сяргей Міхайлавіч!*

*Юлія Іванаўна рызыкуе быць змучанай нашымі штодзённымі званкамі і даведкамі пра Ваша здароўе.*

*Патрабуем, каб вы хутчэй ачунялі.*

*Абдымаем і любім Вас —*

*Юр. Тарыч,*
*Тарыч Таццяна,*
*Празароўскі».*

Юлія Іванаўна — маці С. М. Эйзенштэйна. Т. Тарыч — жонка Ю. В. Тарыча. М. Празароўскі — кінаакцёр, які здымаўся амаль ва ўсіх фільмах рэжысёра Ю. Тарыча.

У архіве першага беларускага кінарэжысёра захаваўся план кнігі ўспамінаў, якія Юрый Віктаравіч так і не паспеў напісаць. Пералік прозвішчаў у раздзеле гэтага плана, які называецца «Людзі», адкрываецца Эйзенштэйнам...

**І. РЭЗНІК.**




Малюнак С. М. Эйзенштэйна. Мінск, верасень 1920 года. Прычынай для яго стварэння паслужыла, мабыць, бурная размова К. Елісеева і С. Эйзенштэйна, у якой будучы пастаноўшчык «Браняносца «Пацёмкіна» катэгарычна сцвярджаў, што аддае перавагу ўмоўнаму тэатру масак. Елісееў жа наадварот, аддаваў перавагу толькі жывым людзям, а маскам у яго тэатры месца не будзе... Праз некалькі дзён, успамінае мастак, Сяргей Міхайлавіч з хітравата-чароўнай усмешкай прыпаднёс малюнак, на якім бедалага Арлекін быў паранены ў самае сэрца варварскай кісцю мастака...

## НА «МУЗЫЧНАЙ СЕРАДЗЕ»

На чарговай «музычнай серадзе» ў Саюзе кампазітараў Беларусі былі праслуханы новыя творы кампазітараў П. Падкавырава і Р. Суруса.

«Квартэт для кларнетаў» П. Падкавырава — першае ў савецкай музыцы сачыненне для чатырох кларнетаў.

У магнітафонным запісе на «серадзе» прагучалі два творы маладога кампазітара Р. Суруса — вакальна - танцавальная сюіта «Сватон», якая складаецца з пяці беларускіх народных песень, цікава апрацаваных кампазітарам, і кантата «Упарты Фама» — на вершы С. Міхалкова.

Сюіта прагучала ў выкананні вакальнай групы хору і аркестра Беларускага тэлебачання і радыё. Кантату выканаў хор хлопчыкаў сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі і аркестр Беларускага тэлебачання і радыё.

20—25 ЛЮТАГА
ЧЭХАСЛАВАЦКІ НАРОД
СВЯТКУЕ ДВАЦЦАЦЬ ПЯТУЮ ГАДАВІНУ
СВАЁЙ ПЕРАМОГІ
НАД СІЛАМІ РЭАКЦЫІ.
У ЛЮТЫМ 1948 ГОДА
ПА ЗАКЛІКУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ
ПРАЦОЎНЫЯ РЭСПУБЛІКІ ЎЗНЯЛІСЯ
НА АБАРОНУ СВАІХ ПРАВОЎ,
ПРАДЭМАНСТРАВАЛІ РАШУЧАСЦЬ ІСЦІ
ПА ШЛЯХУ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ
ПЕРАЎТВАРЭННЯЎ



ПРАГА. Год 1973.

СЁННЯ яму было б 70. Было б. Яго няма. Ён — выдатны чэхаславацкі журналіст, друг нашай краіны — памёр маладым. Жыццё сваё ён аддаў у барацьбе за светлую будучыню свайго народа і народаў Еўропы, у барацьбе з фашызмам.

У нашай краіне ведалі і любілі Юліуса Фучыка задоўга да таго, як яго бессмяротны «Рэпартаж з пятлёй на шыі» пачаў свой трыумфальны марш па краінах свету. Карэспандэнт «Рудэ права» ў Маскве, ён праехаў Краіну Саветаў ад заходняй да паўднёвай граніцы. Дарогі яго пралягалі і па Беларусі — тут, у Негарэлым, ён сустракаў рабочыя дэлегацыі і потым суправаджаў іх да сталіцы СССР.

Ён ведаў Беларусь і беларусаў, жывучы ў Празе. Для прагрэсіўнага беларускага часопіса «Новы прамень», які выходзіў у дваццатыя гады ў сталіцы Чэхаславакіі, ён напісаў артыкул «Аб чэшскай сацыяльнай паэзіі».

У нас, на Беларусі, з цікавасцю і сімпатыяй сачылі за журналісцкай і грамадскай дзейнасцю Фучыка. У 1928 годзе рэдакцыя часопіса «Полымя» так яго прадстаўляла сваім чытачам: «Ю. Фучык — тэмпераментны рэдактар лепшага левага літаратурна - крытычнага часопіса ў Чэхаславакіі «Кмен». А пазней, характарызуючы штотыднёвік «Творба», які выдаваўся Ю. Фучыкам, «Полымя» падкрэслівала: «Платформа часопіса — пралетарская, змест яго жывы і разнастайны». А калі ў 1930 годзе пражская паліцыя арыштавала маладога камуніста - рэдактара Фучыка, нашы выданні апублікавалі пратэсты чытачоў.

Іван СКАЛА

## ВІТАЮ ВАС, ВОКНЫ!

*Вітаю песняю вас, вокны!*
*Вы мне прыносіце рассвет*
*І дорыце такі пяшчотны,*
*Прыгожы свет, чароўны свет.*

*Сярод паперак не зачахнуў,*
*У грамадзе яшчэ не знік*
*І сам сябе шукаць па частках*
*У вашых люстрах я прывык.*

*Больш не чаргуюцца ў змаганні*
*Дні згоды з днямі барыкад...*
*А году год дыктуе планы,*
*Рахунак поспехаў і страт.*

*Святлом кватэры ўсе заліты.*
*Ды чую: хтосьці хоча зноў*
*Азмрочыць дзень наш працавіты*
*Атрутным чадам гучных слоў.*

*Туга былая грудзі поўніць,*
*І хочацца сяброў гукаць,*
*І зноў на сэрцы неспакойна...*
*А вокны — вокны аж гараць!*

*За ноччу дзень бяжыць без стомы...*
*Я — раб сваіх жаданняў, дум —*
*Свет невядомы і вядомы*
*Бясконца адкрываць іду.*

Уладзімір БРАНДЭЙС

## Д А В Е Р

*Крочу я родным краем,*
*Акідваю позіркам далі,*
*Рытміку вершаў звяраю*
*З песняй дуброў і металу.*

*Крочу я родным краем,*
*Зайздрошчу рэчкам імклівым,*
*Жыццё сваё давяраю*
*Дарогам, вятрам і ліўням.*

*Крочу я родным краем,*
*Сілай зямлі акрылёны,*
*Самота, нясмеласць сцякаюць*
*Крынічнай вадою з далоні.*

Ян ПІЛАРЖ

## Р А Д А С Ц Ь

*Для радасці маю такія прычыны:*
*Што ранак — блакітны,*
*Што ніва — зялёная,*
*Што дзверы — без рыпу,*
*Што студня — сцюдзёная,*
*Што моладзь — з задорам,*
*Што ліпы ўсе — ў цвеце,*
*Што сонцам сагрэты і вокны, і дзеці,*
*Што рэчка цячэ ў акіян без спачынку,*
*Што спеюць у сэрцы бадзёрыя песні,*
*Што дорыш пяшчотныя ты мне*
*пагляды,*
*І мне б утрымаць гэту крохкую радасць,*
*Як купал нябесны,*
*Хоця б на хвілінку.*

Пераклаў з чэшскай Хв. ЖЫЧКА.

Юліус ЛЕНКА

## ВОСЕНЬ, 1944

*Нёс вецер смерць над жоўтым сумам траў,*
*Як злоўленую лань стары драпежнік.*
*А з нашых гор успыхваў сцяг мяцежны.*
*Хто быў мужчынам — зброю ў рукі браў.*

*І больш не азіраўся ў паняверцы,*
*Ступаючы сцяжынай ран і страт.*
*Калі ўжо барацьбе аддана сэрца,*
*Не збочыш ты—няма шляхоў назад.*

*Святлее ўсмешкай небасхіл шырокі,*
*Калі нізрыне з хмары вадаспад...*
*Так на галовы здрадніцкіх улад*
*Людскога гневу падалі патокі.*

*Не засланяй ад жорсткай праўды твар,*
*Калі яшчэ дарога не абрана,*
*На досвітку, чакаючы ахвяр,*
*Кат вывярае шыбеніцу старанна...*

*Пятля або глыток вады з біклагі,*
*За што сваім сумленнем заплаціў.*
*А трэцяга не дадзена ў жыцці,*
*Дзе поўзае пазбаўлены адвагі.*

*Свабода не мядзяк, што жабраку*
*З далоні пана падае ў руку.*
*Яна, нібы жанчына, пайстае*
*Прад тым, хто мужна б'ецца за яе!*

Пераклаў са славацкай П. МАКАЛЬ.

Канстанцін БІБЛ

## ЛЮТЫ, 1948

*Гэта не так ужо важна,*
*Як уздумаецца камусьці*
*Зірнуць у трэшчыну старой аканіцы*
*На новы свет за акном.*

*Гэты свет яшчэ здаецца камусьці*
*Перакрэсленым бамбардзіроўкай —*
*Амерыканскай і англійскай.*

*Гаворыць Клемент Готвальд*
*На плошчы Старамескай,*
*І зноў асыпаюцца шыбы*
*У душах нашых ворагаў.*
*Не бяда,*
*Што часамі сыплюцца асколкі шчасця.*
*Усё роўна, нягледзячы на налёты,*
*Якія былі і будуць,*
*Нягледзячы на свіст самалётаў*
*Над народнай рэспублікай нашай,*
*Нягледзячы на ўсё,*
*Еўропа,*
*Цябе чакае шчасце!*
*На самых артэрыях Прагі,*
*На ўскраі Вацлаўскай плошчы*
*Узняўся Клемент Готвальд*
*Сказаць народу з трыбуны,*
*Сказаць бунтоўным натоўпам,*
*Сказаць бясконцым натоўпам,*
*Доўгім, як прыгнёт пралетарыяў,*
*Доўгім, як чаканне шчасця,*
*Сказаць —*
*адстаўка палахлівых міністраў*
*Нарэшце прынята!*

*Ён сказаў на тым самым месцы,*
*Дзе пралілася калісьці рабочая кроў*
*І цякла, агінаючы помнік святога Вацлава,*
*Уздоўж трамвайных рэек*
*Налева*
*На праспект Народны.*

Пераклаў з чэшскай П. МАКАЛЬ.

Лаца НАВАМЕСКІ

## ПРЫГОДА Ў САДЗЕ

*У нашым садзе спачывае дзень.*
*І толькі яблык, чарвячком падцяты,*
*Пакінуў раптам лісцяныя шаты*
*І з вышыні скаціўся за пляцень.*

*Забіў трывогу на грымучым грудзе,*
*Ажно скрануўся сонны небасхіл.*
*І як ад буры,*
*куры ў перапудзе*
*Пабеглі з дзікім лапатаннем крыл.*

*Узварушыўся домік мурашыны.*
*Жукі глыбей зашыліся ў мурог.*
*Вы бачыце, які перапалох!*
*З нічога. Без усякае прычыны.*

*Вунь там матыль заблытаўся ў ліству,*
*А поруч пырхнуў верабей шумліва...*
*Ды дзень, як і дагэтуль, на траву*
*Кладзецца ў стоме важка і шчасліва.*

*Ён гордага не тоіць пачуцця,*
*Што дорыць свету лепшыя багацці.*

*Вось гэткая ў часіну родаў маці —*
*Пры першым крыку новага жыцця.*

Пераклаў са славацкай П. МАКАЛЬ.

# «ВОСЬ ТАК НАМ ЖЫЦЬ!»

*ДА 70-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЮЛІУСА ФУЧЫКА*



Цікавасць да Беларусі засталася ў Фучыка на ўсё жыццё і з асаблівай сілай праявілася ў дні вайны, калі мужнасць беларускіх партызан захапляла ўвесь свет. У падпольным выданні «Рудэ права» Ю. Фучык з гордасцю пісаў пра самаахвярную барацьбу народа Беларусі, заклікаў сваіх суайчыннікаў: «Глядзіце, як ваюе братні беларускі народ!»

Сёння мы схіляем галаву перад гераізмам і мужнасцю выдатнага чалавека, які і ў гітлераўскім засценку ні на хвіліну не спыняў вялікай бітвы за свае ідэалы. Яго «Рэпартаж з пятлёй на шыі» — гэты маніфест гарачай любві камуніста да чалавецтва і нянавісці да яго ворагаў — быў першай чэшскай кнігай, перакладзенай і выдадзенай у нас пасля вайны на беларускай мове. Ёй захапляліся, ёй зачытваліся, ёй прысвечаны ў нас многія артыкулы, навуковыя працы і даследаванні.

Адна з лепшых балад Аркадзя Куляшова — «Балада пра вока», напісаная паводле матываў народных паданняў, у якіх успявалася неадольнасць высокай чалавечай мары пра шчасце, — прысвечана памяці Ю. Фучыка.

Бяссмерце яго подзвігу—адзін з лейтматываў паэмы Максіма Танка «Пражскі дзённік». Беларускі паэт па-чалавечы не можа змірыцца з тым, што няўрымслівага Юліуса няма ў жывых. Не, ён размаўляе з ім, як са сваім сучаснікам.

**— Здарова, Фучык! Ты жывы!**
**З усходу я на Влтавы бераг**
**Прывёз табе прывет Масквы,**
**Ад нас, хто ў смерць тваю**
**не верыць.**

Аддаў даніну мужнасці чэшскага патрыёта Анатоль Вялюгін:

**Вось так нам жыць! І несці сцяг**
**чырвоны,**
**Спакой і смерць пракляўшы,**
**з бою ў бой,**
**Каб нашыя звычайныя імёны**
**Вяршынямі зіхцелі над зямлёй.**

Ідэямі чэшскага антыфашыста прасякнуты вершы Генадзя Бураўкіна «Людзі, памятайце!», Уладзіміра Ляпёшкіна «Рэпартаж Фучыка», Сымона Блатуна і Міхася Губернатарава... З «Рэпартажам» звяраюць свае творчыя імкненні нашы празаікі, якія пішуць пра вызваленне народаў ад прыгнёту фашызму. Герой рамана Святаслава Трошына «Я забыў пра цішыню», малады мастак Вадзім Мінковіч, які спазнаў усе жахі гітлераўскага палону і канцлагераў, робіць дэвізам свайго жыцця перадсмяротныя словы Фучыка «Людзі, будзьце пільныя!»

На Беларусі паводле матываў «Рэпартажа з пятлёй на шыі» напісаны два сімфанічныя творы. Алег Янчанка напісаў сімфонію-араторыю для чытальніка, хору і аркестра, у якой гучаць мужныя і пяшчотныя радкі Юліуса Фучыка з яго апошняй кнігі, з лістоў да жонкі Густы.

Малады кампазітар Кім Цесакоў для сваёй «Першай сімфоніі» таксама выбраў эпіграфам крылатыя словы Ю. Фучыка «Людзі, будзьце пільныя!»

Вобраз бясстрашнага змагара супраць фашызму натхняў нашых мастакоў. Інкруставаны партрэт Юліуса Фучыка, выкананы мінчанінам А. Шахновічам, дэманстраваўся на рэспубліканскай выстаўцы.

Імя Фучыка прысвоена адной з вуліц нашай сталіцы — там жывуць рабочыя аўтамабільнага і трактарнага заводаў.

Мы беражліва захоўваем памяць пра нашага друга і брата, пра блізкага нам Юліуса, і перадаем яе з пакалення ў пакаленне. Вучні 42-й школы Мінска пад кіраўніцтвам сваёй настаўніцы Н. Трушынай, якая сустракалася ў Чэхаславакіі з Густай Фучыкавай, адкрылі музей Фучыка, любоўна сабралі для яго экспанаты: кнігі, фатаграфіі, лісты, значкі. Калі музей урачыста адкрывалі, трэба было бачыць, з якім веданнем справы вучні — экскурсаводы і навуковыя супрацоўнікі музея — расказвалі пра Чэхаславакію, яе нацыянальнага героя, як добра ведалі яны біяграфію Фучыка, з якой гатоўнасцю адказвалі на пытанні пра яго! Цяпер яны пайшлі са школы ў жыццё, якое назаўжды будзе асвечана подзвігам Фучыка, а ў музеі — новая «адміністрацыя», новае пакаленне маладых.

Лісты Густы Фучыкавай захоўваюцца не толькі ў гэтай школе, але і ў 23-й, дзе вучні таксама цікавяцца жыццём чэшскага героя, і ў бібліятэцы Кастрычніцкага раёна Мінска, чытачы якой імкнуцца больш ведаць пра любімага аўтара.

Не меркне слава героя, не слабее цікавасць да яго подзвігу, да яго творчасці. Мы чытаем і вывучаем яго кнігі, з намі яго думкі і пачуцці, яго літаратурная і публіцыстычная спадчына. Ён блізкі і дарагі нам, і ў памяці народа нашага будзе заўжды жыць светлы вобраз палымянага змагара за шчаслівае жыццё народаў зямлі, за братэрства людзей на нашай планеце.

**Алесь ВАСІЛЕНКА.**

# ТРАДЫЦЫІ БАЦЬКОЎ

**Подзвіг Героя Савецкага Саюза капітана Атакара Яраша, удзельніка славутага сакалоўскага бою, ведае ў сацыялістычнай Чэхаславакіі кожны. Імем героя названы завод і сельскагаспадарчы кааператыў, воінская часць і брыгада сацыялістычнай працы, адна з набярэжных Прагі і шэраг вуліц і плошчаў у іншых гарадах рэспублікі. Нядаўна гэтага гонару ўдастоілася адна са школ 9-га раёна чэхаславацкай сталіцы. Яе вучні стварылі ў сябе музей баявых традыцый чэхаславацка-савецкай дружбы.**

**— У нашай школе больш тысячы вучняў. У асноўным гэта дзеці рабочых, — расказвае дырэктар Уласціміл Даньгелка. — Ідэя стварыць музей зарадзілася ў выкладчыкаў і вучняў пад уплывам нашых шэфаў — работнікаў пражскага гістарычнага музея. На школьных вечарах яны расказвалі вучням аб гераічным шляху, пройдзеным чэхаславацкімі воінамі ў гады другой сусветнай вайны, а аднойчы прывялі ў школу дарагога госця — дырэктара музея савецка-чэхаславацкіх баявых традыцый у Сакалове К. Н. Каваленка. Пасля яе цікавых расказаў школьнікам захацелася даведацца як мага больш пра чэхаславацкіх герояў, якія поплеч з савецкімі воінамі змагаліся супраць фашызму. Нашы вучні пабывалі ў музеі чэхаславацкай народнай арміі, сустракаліся і гутарылі з удзельнікамі бою ля Сакалова — генераламі Шмольдасам і Каваржыкам. Вучні наведалі воінскую часць, якая носіць імя Атакара Яраша, ездзілі на пражскі машынабудаўнічы завод «ЧКД-Сакалова».**

**Вялікая работа вялася і ў самой школе. Вучні сёмага «А» разам з класным кіраўніком Здэнькай Кіенкавай выступілі з расказам аб славутай бітве па школьным радыё. На ўроках чытання і краязнаўства школьнікі знаёміліся з кнігай прэзідэнта ЧССР Людвіка Свабоды «Ад Бузулука да Прагі», на ўроках літаратуры і грамадзянскага выхавання пісалі сачыненні пра герояў, якія змагаліся супраць гітлераўцаў. Вучаніца шостага класа Іва Штэтоўска намалявала карту сакалоўскай бітвы.**

**Піянерская арганізацыя школы стварыла штаб з дваццаці чалавек, які кіраваў зборам экспанатаў для музея.**

**І вось, нарэшце, мы ў музеі. Вялікая зала ўпрыгожана чэхаславацкімі і савецкімі сцягамі. На сценах карты баявых дзеянняў воінаў першага чэхаславацкага армейскага корпуса. Іх намалявалі вучні. У глыбіні ля акна — бюст Атакара Яраша.**

**Экспазіцыя складаецца з трох раздзелаў. Першы прысвечаны памяці Атакара Яраша — першага іншаземца, удастоенага звання Героя Савецкага Саюза. Другі — гістарычнаму шляху чэхаславацкіх воінаў ад Бузулука да Прагі, а трэці расказвае пра дружбу школьнікаў з удзельнікамі бітвы ля Сакалова, якія засталіся ў жывых.**

**Тут можна ўбачыць копію Зоркі Героя і Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні А. Яраша, мадэлі танка, знішчальніка і гаўбіцы, падораныя шэфамі з ваенна-гістарычнага інстытута, фатаграфіі чэхаславацкіх воінаў у Бузулуку і Сакалове. Сапраўдную вінтоўку, каску і патроны падарыў школе музей чэхаславацкай народнай арміі. На відным месцы — пісьмо ўдзельнікаў Сакалоўскай сярэдняй школы імя Героя Савецкага Саюза Атакара Яраша. Яны прыслалі пражскім школьнікам матэрыялы пра сваё сяло і жменьку сакалоўскай зямлі.**

**— Музей баявых традыцый выконвае важную практычную задачу — выхоўвае школьнікаў у духу сацыялістычнага патрыятызму і інтэрнацыяналізму, дружбы з Савецкім Саюзам, — гаворыць Даньгелка. — Тут праводзяцца ўрокі гісторыі, грамадзянскага выхавання. Тут жа вучняў прымаюць у піянеры. У выхаваўчай рабоце актыўна ўдзельнічае ўвесь настаўніцкі калектыў, 30 з 50 членаў якога — камуністы.**

**Пошукі экспанатаў для музея баявых традыцый працягваюцца. Цяпер піянеры складаюць альбом удзельнікаў сакалоўскай бітвы, якія засталіся ў жывых.**

**— Пачын школы імя А. Яраша падхоплены іншымі, — расказвае сакратар райкома КПЧ Эміль Мертл. — У нашым 9-м раёне сталіцы цяпер ёсць школа імя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, а яе музей прысвечаны чэхаславацка-савецкай дружбе. Ёсць школа імя Славацкага нацыянальнага паўстання, а створаны ў ёй музей апавядае аб непарушнай дружбе двух братніх народаў нашай краіны — чэхаў і славакаў.**

**І. ЛОГІНАЎ.**

**(ТАСС).**

Прага.

Мілаш КРНО

# ТЫСЯЧА НЯБАЧНЫХ КРЫЛАЎ

МІНІЯЦЮРЫ

**Славацкага празаіка Мілаша Крно беларускі чытач ведае па кнізе «Я вярнуся жывы», прысвечанай гераічнаму партызану Яну Налепку, па апавяданнях у нашым друку. Нядаўна закончана работа над сумесным беларуска-славацкім фільмам «Заўтра будзе позна» паводле сцэнарыя М. Крно і А. Дзялендзіка. Тэма фільма — агульная барацьба савецкіх і славацкіх партызан у лясах Беларусі.**

**У мінулым годзе выйшла новая кніга прозы М. Крно «Тысяча нябачных крылаў». Прапануем увазе чытачоў мініяцюры з новай кнігі М. Крно, выбраныя для нас аўтарам.**

## ЯНКА

Яму мінула толькі адзінаццаць гадоў, а ён ужо быў сувязным паміж леснічоўкай і вёскай. Увечары ён прыйшоў у штаб з важнымі звесткамі. Раніцай яго хацеў бачыць камісар.

Мы знайшлі хлопчыка за пасекай. З шышак і запалак ён змайстраваў авечак, цяпер, лежачы на баку, уяўляў сябе пастухом. Хлопчык захапіўся гульнёй. Але вось ён павярнуўся да нас, і ў вачах імгненна з'явілася сур'ёзнасць. І позірк ужо быў як у дарослага.

## ПРЫСТУПКІ

Ад леснічоўкі не засталося нічога, толькі бетонныя прыступкі. Вецер развеяў попел, пажарышча зарасло крапівай і ажынамі. Партызаны не здаліся, іх жыўцом спалілі ў леснічоўцы.

Цвітуць ажыны беласнежным цветам, палымнеюць макі, і бетонныя прыступкі ўзвышаюцца над імі. Як помнік героям, які нагадвае, што чалавек ніколі не павінен здавацца.

## КАЗАДОЙ

Світала. Цяжка ападала лісце з бука. На суседнім схіле раўлі алені. У гушчары запішчаў казадой.

Гэта малая птушка нагадала мне трывожныя ночы ля партызанскіх вогнішчаў. Яна памагала вартавым ахоўваць моцны сон хлопцаў у зямлянках. Толькі трэсне галінка пад ботамі няпрошанага госця, як адзываўся казадой.

Ён праляцеў над прасекай і пачаў кружыць нада мной. Можа, ён адчуваў, што я яму ўдзячны. За тых хлопцаў, абвешаных гранатамі, за сябе.

## ШКАДА, ШТО ЎЦЁК

Ён быў цяжка паранены і страціў многа крыві. Да яго падышоў партызанскі ўрач з бінтамі і ёдам.

— Баліць? — спытаў.

— Не. Толькі шкада, што адзін ад мяне ўцёк. Двух нямецкіх матацыклістаў я падбіў, а трэці — уцёк...

Праз некалькі гадзін яго ўжо не было ў жывых.

## ПРЫРОДА І ТЫ

Бачыш, як ластаўкі ўюць гняздо, і думаеш пра сябе. Пад елкай расце маленькая елачка — ты пяшчотна пагладзіш яе, як сынка па галоўцы. Ападае лісце з дрэў, і ты мімаволі ўздыхнеш.

Ва ўсім адчуваеш кавалачак сябе. Здаецца табе, што стыхіі пануюць у тваёй душы. Параўноўваеш свае настроі з навальніцай, завірухай альбо з ціхім возерам. У цябе дасціпны розум і ўмелыя рукі. Ты зрабіў самалёт і падводную лодку, але перад гэтым ты любаваўся арламі і стронгамі.

Усё добрае табе дала прырода. Ты пранікнуты ёю. Яна ў табе, а ты ў ёй.

## ЗОРНАЯ ВАДА

Я пазіраў у студню, у якую лілося зорнае святло. Мне здалося, што ў яе сыпалася начное неба.

Я зачарпнуў конаўкай вады і пакрочыў па лузе. І ў конаўцы мігатліва пераліваліся зоркі. Я нёс зорную ваду.

## КАВАЛАЧКІ СОНЦА

Сонца хавалася за заснежаную гару. А калі праз хвіліну высвеціліся шыбы хаты, мне здалося, што нехта пaабкладваў іх кавалачкамі сонца.

## МАНАГРАМА

Расплюшчы вочы. Асляпіць цябе сонца і некрануты снег. Вяршыні, даліны — усё завеяна ім. Здаецца, што ты ў царстве белай казкі.

Галінкай ты водзіш па снезе і раптам у цябе замрэ сэрца — незнарок ты вывеў манаграму свайго першага кахання.

## ІМЁНЫ

Яны выводзілі на лавачцы імёны сваіх каханых, толькі я сядзеў, склаўшы рукі.

Тады я яшчэ не ведаў твайго імя.

## РУЖА

У хлопчыкаў была цацка—вялікае павелічальнае шкло. Яны парвалі белую ружу і з самым сур'ёзным выглядам вывучалі пялёсткі. І расчараваліся: пад павелічальным шклом ружа страціла сваё хараство.

Пераклаў са славацкай А. МАЖЭЙКА.




Так ужо водзіцца ў вайскоўцаў: каго-небудзь выберуць аб'ектам жартаў і—кпяць... Не зласліва, проста так, па-таварыску, толькі б пасмяяцца, адвесці душу. Яшчэ і мянушку прыклеяць вясёлую. А нашаму Івану, камандзіру карабля, ніякіх мянушак не трэба было: Сарока ён! Прозвішча—Сарока... Маленькі, тоўсценькі, круглатвары, ідзе — скок-скок—прыпыніцца, пакруціць галавой па баках, ну ўсе тыя птушыныя павадкі! Вось і жартуюць лётчыкі з лейтэнанта Сарокі ў эскадрыллі: ёсць за што ўчапіцца.

Аднак ён не крыўдзіўся: прыяцелі — гэта прыяцелі. Да таго ж у сур'ёзнай справе з ім, Іванам, лічыліся і цанілі яго лётныя якасці. У якія толькі пераплёты не трапляў Іванаў бамбардзіроўшчык, а вось жа шанцавала — ніводнай асколачнай меціны на абшыўцы, ніякіх пашкоджанняў. Таму, відаць, і спявалі яму лётчыкі, не хаваючы зайздрасці, старую песеньку:

*Ты, сарока-белабока,*
*Навучы мяне лятаць...*

І Іван Сарока, прыжмурыўшы свае шэрыя вочы, усміхаўся ў адказ зычліва і шчыра... Урэшце, не такі ён і смяльчак, калі разабрацца. Дагэтуль не можа бачыць крыві. Парэжа палец—не глядзіць. Так было ў дзяцінстве, так і цяпер. Баіцца самай звычайнай драпінкі, аж калоціцца. Ну, а ў паветры... Там іншыя думкі: як лепей скінуць бомбы на варожыя пазіцыі ды абхітрыць праціўніка. Цвярозы разлік! Вось і шанцавала лейтэнанту, і лічыў ён сябе шчаслівўчыкам. Пакуль аднойчы...

Экіпаж вяртаўся з задання. Адбамбіліся ўдала. Усё было добра, як заўсёды. І нічога не прадбачылася дрэннага. Праўда, над самай лініяй фронту па бамбардзіроўшчыку некалькі разоў лупянула фашысцкая батарэя, якая стаяла на водшыбе. Можа і страляла яна больш для адводу вачэй, таму што снарады рваліся далёка збоку. І раптам... Нібы вогненны шар, нібы тое сонца на імгненне асляпіла Івана. Ён адчуў моцны ўдар у галаву. Мільганула думка: «Капцы, адлятаўся», але расплюшчыў вочы і не паверыў: перад носам мільгалі прыборы. Узрадаваўся: «Жывы!» І тут жа адчуў, як нешта цёплае пацякло за каўнер. Іван правёў рукой па твары — на пальцах цямнела вадкасць. «Кроў, — спалохана прашаптаў Іван,— паранены...».

Сілы пакінулі Сароку. Ён адкінуўся на спінку сядзення, уключыў перагаворнае прыстасаванне і слабым голасам перадаў другому пілоту:

— Вася, я паранены. Бяры кіраванне...

Вестка аб тым, што паранілі лейтэнанта Сароку, абляцела аэрадром з хуткасцю маланкі. Камандзір палка напружана ўслухоўваўся ў даклады па радыё малодшага лейтэнанта Васіля Івашкова. Самалёт пакуль ішоў нармальна. Другі пілот хваляваўся, але самалёт пасадзіў добра. Тут жа да яго пад'ехала санітарная машына. Санітары беражліва выцягнулі з самалёта лейтэнанта і асцярожна, стараючыся як мага менш непакоіць параненага, на насілках пагрузілі ў машыну.

...Камандзіры экіпажаў дакладвалі вынікі бамбёжкі.

І тут—неспадзяванка... Лётчыкі аж анямелі: не, не можа быць, такое толькі хіба ў сне—перад імі ўласнай персонай стаяў лейтэнант Сарока! Ён лагодна ўсміхаўся, міргаў светлымі вейкамі. Звяртаючыся да камандзіра палка, гучна дalaжыў:

— Лейтэнант Сарока вярнуўся з задання цэлы і непашкоджаны!

Камандзір недаўменна паглядзеў на палкавога ўрача, які стаяў побач. А капітан медыцынскай службы толькі развёў рукамі:

— Удар лейтэнант Сарока атрымаў ад кавалка абшыўкі самалёта, адбітага асколкам.

— А кроў, кроў адкуль?—амаль адначасова спыталі камандзір і заміпаліт.

— Гэта была гідрасумесь...

Выбух рогату страсянуў камандны пункт...

І ўжо да самага канца вайны гэтаму дабрадушнаму лейтэнанту не давалі спакою жартаўнікі, расказвалі пра яго такія неверагодныя гісторыі, што лётчыкі толькі хапаліся за жываты. А што Сарока? А нічога... Шчаслівўчыкам і вайну закончыў: за ўвесь час нават маленькі асколачак не крануў яго, хоць не адзін раз трапляў пад жорсткі зенітны агонь.




*А ТЫ АДКУЛЕЧКА, ПРЫЯЦЕЛЬ?*

**Сямён ПАЦЁМКІН**

## ШЭКСПІР І Я

**Шэкспіра ставілі на сцэне.**
**Завошта толькі яго цэняць!**
**І не прайсці і не дастаць білета...**
**Не спадабалася мне гэта.**
**А як паставілі маё тварэнне,**
**Дык не было стаўпатварэння.**
**Ніхто не ціснуўся, не хваляваўся.**
**І толькі я**
**ігрой артыстаў любаваўся.**

**Сцяпан КРЫВАЛЬ**

## ГАНАРАР «РАМАНІСТУ»

**Круціць раманы меў ён дар...**
**І з Галямі і з Светамі,—**
**І суд прызначыў ганарар,**
**Названы... аліментамі.**

*АВОХЦІ МНЕ!*

## ЗАДАЧКА

Бяда з гэтай арыфметыкай... Сын-першакласнік сядзіць пахмурны, гатовы вось-вось расплакацца. І бацька нервуецца, злы, ледзьве стрымлівае сябе, сярдзіта тыцкае тоўстым чырвоным пальцам у задачнік:

— Колькі будзе? Кажы, бесталач!

Сын шморгае носам і маўчыць.

— Ну што ж, — устае бацька, — не можаш з кніжкі рашыць, паспрабуем тады ўзяць з жыцця... Ты ведаеш нашага суседа, дзядзьку Васіля?

— Ведаю...

— І ведаеш, што ён пісьменнік? І што гадоў дзесяць назад напісаў раман «На ўсё жыццё»?

— Мама на гэты раман фікус ставіць! — ажыўляецца першакласнік.— Ён такі таўсценны і вялізны..

Бацька паблажліва ўсміхаецца і ўжо зусім спакойным тонам гаворыць:

— Дык вось, рашым, сынок, такую задачку... Пасля гэтай кніжкі, гады праз тры, дзядзька Васіль падарыў нам яшчэ адну...

— Ведаю! Я яшчэ з яе лісты павыдзіраў, калі зусім маленькі быў.

— Ты слухай, не перабівай... Потым мы зноў атрымалі ад нашага суседа вось гэтую кнігу, што пад тэлевізарам. Пытанне: колькі ж дзядзька Васіль напісаў раманаў?

Першакласнік напружана моршчыць лоб — думае. Але раптам з палёгкай уздыхае і задаволена смяецца:

— Хы, я ўжо рашыў! Лёгенькая..

— Ну, колькі ж?

— Дзядзька Вася напісаў... усяго адзін раман!

— Ды ты што?! — абураецца бацька. — Як так?

— А ўсе ж яго кнігі аднолькавыя—«На ўсё жыццё».

Бацька здзіўлена пазірае на сына, потым на сцяну, за якой жыве пісьменнік, дакорліва ківае галавой і вінавата гаворыць:

— Бадай што не той прыклад, сын. Сапраўды, ён адну напісаў кнігу. Перавыдаецца, лаўкач!

Бяда з гэтай арыфметыкай...

**М. М.**



Мал. Л. МУРАШКІ.



Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.

**Г. ЮРЧАНКА**

## УСЁ МЯНЯЕЦЦА

Я жыў, як птушка ў выраі,
Без шчасця, без святла.
. . . . . . . . . . . . .
Не было ні вершаў, ні сям'і.

Леанід ДАЙНЕКА

**Успаміны леглі, як масты,**
**Не зламіць ніякаю іх сілай.**
**Мне ў жыцці хапіла гаркаты,**
**І турбот, і роспачы хапіла.**

**Столькі год не шэнціла ў любві,**
**Не было як бразнуць рыфмай**
**звонкай.**

**Не было ні вершаў, ні сям'і, —**
**А цяпер—**
**Два зборнікі і — жонка!..**




Яфрэйтару Шпунціку не шанцавала... Яшчэ амаль не было выпадку, каб ён, будучы ў горадзе, не спазніўся ў часць... І абавязкова падвядзе гэты транспарт! Цяпер яфрэйтар у кожным вадзіцелі бачыў свайго нядобразычліўца, нават ворага, калі хочаце. Бо толькі, падабраўшы крыссе шынялю, ён падбягаў да прыпынку, як аўтобус павольі, нібы дражнячы, кранаўся з месца...

На гэты раз адбывалася ўсё дакладна так, як і раней: яфрэйтар спазняўся, а гарадскі транспарт — падводзіў... Яго проста доўга не было: ні аўтобуса, ні тралейбуса. Што рабіць? Раздумваць — няма калі. Заставалася адно — бегчы... І ён прыпусціў па вуліцы. Сапраўдны «марш-кідок»! Ужо адзін прыпынак за плячыма, другі...

Раптам заскрыгаталі тармазы і звонкі дзявочы галасок паклікаў:

— Гэй, салдат! Сядай, падкіну...

Азірнуўся — тралейбус. Пусты. Сцяміў — у парк... Сеў. Рады. Хоць раз у жыцці пашанцавала. А дзяўчына, дзяўчына якая, прыгажуня! Вачэй не адвядзеш. І гутарыць з ім, і смяецца, жартуе...

Апамятаўся яфрэйтар, калі аж тры прыпынкі лішнія праскочыў.

Вярнуўшыся ў казарму, Шпунцік збянтэжана тлумачыў камандзіру:

— Вінаваты, таварыш старшына... Транспарт падвёў...

Старшына хітра ўсміхнуўся і ўпершыню чамусьці лагодна паляпаў яго па плячы: «Ладна! Ідзі адпачывай... Мог бы адразу сказаць, што пазнаёміўся з дзяўчынай».

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 5585.

Адрас рэдакцыі 220600 ГСП Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.